Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 14 (4660) 6 красавіка 2012 г.

## Думка пісьменніка



**Пра павышэнне базавай велічыні і ролю творцы ў сучасным грамадстве разважае старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец.**

— Сёння варта прыгадаць словы скептыкаў, якія яшчэ летась сцвярджалі, што мы не выйдзем з крызісу, але прайшло няшмат часу, і мы можам назіраць паступовае аднаўленне пазіцый у эканоміцы нашай краіны. Галоўнае, што гэтыя змены адчуваюць найперш простыя грамадзяне: павялічваюцца пенсіі, зарплаты, не забытая і моладзь — усё гэта сведчыць пра тое, што мы спраўляемся з наступствамі сусветнага крызісу, адкрываюцца новыя магчымасці.

На жаль, не ўсе пісьменнікі цвяроза ацэньваюць сваю ролю ў грамадстве: калі кепска, яны толькі крытыкуюць, добра — моўчкі карыстаюцца. А насамрэч літаратар павінен жыць са сваім народам, яго праблемамі і турботамі, дапамагаць чытачу словам, тлумачыць яму, што трэба рабіць, каб у нашым грамадстве жылося лепш. Трэба аддаць належнае тым творцам, якія, нягледзячы на няпростыя ўмовы, знаходзяць час, каб выступіць у школах, на прадпрыемствах, перад студэнтамі… Гэта наш перадавы атрад!

Павелічэнне базавай велічыні азначае і павышэнне пісьменніцкіх ганарараў. Зразумела, немагчыма імгненна зрабіць усё, што нам хочацца. І калі творцы патрабуюць для сябе максімум выгод, то яны не задумваюцца, што наша грамадства — цэласная сістэма, дзе ўсе мусяць падтрымліваць адно аднаго. Адпаведна, каб увесь народ жыў годна, кожная адзінка, кожны чалавек павінен на гэта працаваць!

Ужо сёння можна казаць пра перспектывы. Вось, да прыкладу, мы ўступілі ў Мытны саюз. А гэта значыць, што нашы калійныя ўгнаенні, нашы "БелАЗы", іншая айчынная прадукцыя, цікавая замежным краінам, знаходзяць свайго пакупніка, а ў нас ёсць сродкі на мадэрнізацыю эканомікі і сацыяльнае развіццё.

Неабходна памятаць, што на творцах ляжыць адказнасць за лёс грамадства, але многае залежыць ад саміх літаратараў: трэба больш асэнсоўваць праблемы, бачыць тэмы, актуальныя для чытача, дапамагаць людзям знаходзіць правільныя адказы на жыццёвыя пытанні. Калі гаворка ідзе пра стратэгічнае развіццё краіны, то тут Слова пісьменніка гучыць найбольш важка. Творца — гэта чалавек, які глядзіць у будучыню!..

# Зроблена ў Слуцку

**Калі разважаць пра беларускія нацыянальныя брэнды, якія вобразы адразу ўзгадваюцца? Нясвіжскі палац, трактар, дранікі… Хутка гэты спіс будзе дапоўнены. Па ініцыятыве Кіраўніка дзяржавы рыхтуецца праект, у выніку рэалізацыі якога, па сутнасці, будзе адноўленая адна з беларускіх нацыянальных каштоўнасцей. Гэта рэканструкцыя вытворчасці ўнікальных помнікаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва сусветнага ўзроўню — слуцкіх паясоў.**

**Марына ВЕСЯЛУХА, фота Кастуся Дробава і Валерыя Сібрыкава**



*Аляксандр Лакотка прадстаўляе фрагмент слуцкага пояса з фондаў Музея старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі.*

— Па ўзроўні мастацкай вартасці і нацыянальнай значнасці слуцкія паясы можна параўнаць з венецыянскім шклом, багемскай парцэлянай, — разважае доктар гістарычных навук, доктар архітэктуры, прафесар, дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксандр Лакотка. І прыгадвае гісторыю гэтага ўнікальнага помніка: у 1757 годзе канцлер Вялікага Княства Літоўскага Міхаіл Казімір Радзівіл (Рыбанька) запрасіў у Нясвіж вядомага майстра з Турцыі Яна Маджарскага, які працаваў над вырабам персідскіх паясоў. Існуе легенда, што Маджарскі нават прывёз у ВКЛ адзін з узораў станка, на якім пасля мясцовыя майстры ткалі паясы, спачатку ў Нясвіжы, а потым у Слуцку. Былі падрыхтаваны ткачы, у адпаведнасці з усходняй традыцыяй, мужчыны — хоць у вершы Максіма Багдановіча "Слуцкія ткачыхі" гаворка ідзе пра дзяўчат.

У лепшыя гады на мануфактурах Нясвіжа і Слуцка выпускалася да 200 паясоў розных гатункаў — танных і вельмі дарагіх, у якіх было да 80—90 грамаў залатой ці срэбнай ніткі. Яны сталі неад'емнай часткай магнацкага шляхецкага касцюма. Вытворчасць паясоў была спыненая пасля паўстання 1830—1831 гадоў, з таго часу мануфактуры паступова перайшлі на выраб царкоўных тканін. Але з другой паловы XIX ст. цікавасць да слуцкіх паясоў аднавілася, цяпер яны ўспрымаліся не як элемент адзення, а як творы мастацтва. Іх зноў пачалі ткаць, не толькі ў Слуцку і Нясвіжы, але і ў Маскве, Варшаве, Любліне і нават Ліёне (Францыя). Вытворчасць паясоў як сувенірў працягвалася амаль да Першай сусветнай вайны, пасля тэхналогія была страчаная.

Зыходзячы з розных звестак, у свеце існуе каля 5 тысяч вырабаў, што могуць называцца слуцкімі паясамі. Яны захоўваюцца ў музеях розных краін. У Беларусі іх налічваецца 11, хаця да Вялікай Айчыннай вайны толькі ў калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея было 48 слуцкіх паясоў, вывезеных з Нясвіжскага палаца.

Ужо выдадзены загад кіраўніка Упраўлення справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Мікалая Корбута пра стварэнне рабочай групы, вынікам працы якой павінна стаць рэканструкцыя тэхналогій і працяг традыцыі вытворчасці слуцкіх паясоў. Натуральна, спачатку навукоўцы дасканала вывучаць тэхналогію вытворчасці паясоў на прыкладзе тыпалагічнага шэрагу ўнікальных помнікаў, што захаваліся. А потым у Слуцку будзе адноўленая вытворчасць унікальных, адзінкавых рэчаў з пазнакай, як калісьці, у XVIII ст. — "Зроблена ў градзе Слуцку".

— Такія паясы, вырабленыя на адноўленых станках, паводле даўняй тэхналогіі, можа, нават мужчынамі, як гэта было раней, будуць абароненыя зарэгістраваным таварным знакам — як адроджаная гісторыка-культурная каштоўнасць, вартая таго, каб стаць падарункам гасцям самага высокага дзяржаўнага ўзроўню, — распавядае Аляксандр Іванавіч.

Праектам прадугледжана і масавая вытворчасць сувенірнай прадукцыі, даступнай шырокаму колу наведвальнікаў музеяў, турыстаў. Яна будзе вырабляцца на лічбавым ткацкім абсталяванні з праграмным кіраваннем, прытым пад сувенірнай прадукцыяй маецца на ўвазе не толькі самі паясы, але і іншыя тэкстыльныя вырабы (абрусы, кашнэ, гальштукі, хусткі) з узорамі, характэрнымі для слуцкіх паясоў.

> *"Спачатку навукоўцы дасканала вывучаць тэхналогію вытворчасці паясоў на прыкладзе тыпалагічнага шэрагу ўнікальных помнікаў, што захаваліся. А потым у Слуцку будзе адноўленая вытворчасць унікальных, адзінкавых рэчаў з пазнакай, як калісьці, у XVIII ст. — "Зроблена ў градзе Слуцку".*



— Выдатна, што кіраўніцтва нашай краіны вырашыла адрадзіць вытворчасць слуцкіх паясоў — унікальнага ўзору дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, — разважае ўдзельнік рабочай групы праекта, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Уладзімір Пракапцоў. — Думаецца, паясы стануць і экспанатамі школьных, раённых музеяў, будуць задзейнічаныя і падчас урокаў, лекцый. Гэта добры прыклад для распаведу пра ўнікальныя творы мастацтва. Справа ў тым, што не кожны музей можа сабе дазволіць набыць арыгінальны слуцкі пояс ці хаця б яго фрагмент, ды і для захавання патрэбныя пэўныя ўмовы, якія раённыя музеі не ў стане забяспечыць. Важна і тое, што такія паясы могуць прадавацца ў кіёсках музеяў, крамах. Гэта пашырыць асартымент сувенірнай прадукцыі, надасць ёй больш выразны нацыянальны каларыт. Рэканструкцыяй слуцкіх паясоў мы не толькі праводзім рэкламна-інфармацыйную акцыю, але і аднаўляем наш брэнд, ідэю, каштоўнасць, якой павінны ганарыцца і на якой можам выхоўваць падрастаючае пакаленне.

У межах праекта плануецца і шэраг іншых спосабаў прапаганды слуцкіх паясоў. Гэта стварэнне каталога, альбома, дзе будуць прадстаўленыя паясы, што знаходзяцца ў музейных калекцыях Расіі, Польшчы, Літвы, Украіны і іншых краін. Своеасаблівы звод будзе карысны не толькі для навукоўцаў, але і для шырокай публікі. Сумесна з Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь плануецца выпуск тэматычнай серыі срэбных манет.

— Адраджэнне слуцкіх паясоў, іх прапаганда — гэта ўнікальная ідэя, і Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь будзе дапамагаць у рэалізацыі праекта, — падкрэсліў Уладзімір Іванавіч.

Сапраўды, слуцкі пояс — гэта наш нацыянальны сімвал, сведчанне высокага ўзроўню культуры. Безумоўна, такі праект адкрые новы аспект іміджу Беларусі за мяжой, а ўнутры краіны дапаможа абудзіць павагу да спадчыны, мінулага, гісторыі. Праект толькі пачынаецца, таму рана казаць пра тэрміны, кошты… Але ўжо вядома, што некаторыя мерапрыемствы, запланаваныя ў яго межах, пройдуць у верасні. Магчыма, хутка кожны ахвотны зможа набыць сабе ці ў падарунак слуцкі пояс, падобны да тых, што насілі нашыя продкі.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў старшыню галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Яна Сычэўскага з 75-годдзем. "Ваша імкненне быць беларусам і за межамі сваёй Айчыны заслугоўвае самай глыбокай павагі", — сказана ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народную артыстку Беларусі Святлану Вуячыч. "Шматлікія прыхільнікі шануюць Вас як адну з самых бліскучых салістак Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі за ўсю гісторыю гэтага праслаўленага калектыву", — сказана ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў сувязі са смерцю выдатнага дырыжора і педагога, народнага артыста СССР Мікалая Някрасава выказаў спачуванні яго родным, сябрам і калегам.

✔ Міністр культуры Беларусі Павел Латушка сустрэўся з Апостальскім Нунцыем у Рэспубліцы Беларусь Арцыбіскупам Клаўдзіе Гуджэроці. Арцыбіскуп падтрымаў ініцыятыву ўсталявання памятнага знака ў гонар асветнікаў Кірылы і Мяфодзія ад беларускага боку ў Рымскай Базіліцы Святога Клімента. Таксама абмеркавана перспектыва арганізацыі ў Беларусі выставак твораў Марка Шагала, якія знаходзяцца ў музеях Ватыкана.

✔ Па ініцыятыве Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Палесціны ў Беларусі Халеда Арыката адбылася рабочая сустрэча з міністрам культуры Беларусі Паўлам Латушкам. Міністр запрасіў палесцінскі бок прыняць удзел у IX Рэспубліканскім фестывалі нацыянальных культур, які пройдзе ў пачатку чэрвеня ў Гродне.

✔ Віцэ-канцлер Ньюпарцкага ўніверсітэта Пітэр Нойс сустрэўся з міністрам культуры Беларусі Паўлам Латушкам. Суразмоўцы засяродзілі ўвагу на пытаннях супрацоўніцтва ў сферы падрыхтоўкі спецыялістаў для кінавытворчасці і дызайну.

✔ Міністэрства інфармацыі Беларусі прымае заяўкі на ўдзел у VIII Нацыянальным конкурсе друкаваных СМІ "Залатая Ліцера" да 15 красавіка. Творчае спаборніцтва ў гэтым годзе пройдзе па 23 намінацыях — да ранейшых далучаныя тры новыя: "Лепшы аўтарскі блог сайтаў друкаваных СМІ", "Лепшае спецыялізаванае галіновае выданне" і "Лепшы рэпарцёр раённых, гарадскіх і шматтыражных друкаваных СМІ".

✔ Найвышэйшую ўзнагароду Беларускага саюза тэатральных дзеячаў "Крыштальная Паўлінка" ў гэтым годзе атрымалі адразу тры народныя артысты: харэограф Валянцін Елізар'еў, акцёр Аляксандр Ткачонак і оперная спявачка Наталля Руднева. Прыз "Крыштальны анёл" уручаны сцэнографу Аліне Фаміной, "Крыштальная зорка" — актрысе Святлане Жукоўскай, "Крыштальная кветка" — артыстцы БДАМТ Вікторыі Жбанковай-Стрыганковай. Прыз "Натхненне" атрымаў дырэктар Брэсцкага абласнога тэатра драмы і музыкі Аляксандр Козак.

✔ Да 100-годдзя пачатку Першай сусветнай вайны ў 2014 годзе плануецца прэм'ера мастацкага фільма, які здымаецца цяпер за сродкі саюзнага бюджэту Беларусі і Расіі. У сюжэце фільма будуць адлюстраваныя падзеі, што адбываліся ў 1914 годзе на Смаргоншчыне.

**Падрыхтавала Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

*Дзень яднання*

# Каб не адчуваць сябе чужымі

**Напярэдадні Дня яднання народаў Беларусі і Расіі адбылася прэс-канферэнцыя з удзелам Дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы Рыгора Рапоты.**

**Таццяна КУВАРЫНА**

З часу падпісання Дагавора пра ўтварэнне супольнасці Расіі і Беларусі, які паклаў пачатак гісторыі аднаго з найбольш дзейсных інтэграцыйных працэсаў на прасторы СНД, прынята больш як 300 дамоваў. Як адзначыў Р. Рапота, значная частка іх прысвечана эканоміцы. Астатняе — сацыяльныя пытанні, ваенна-тэхнічнае супрацоўніцтва, пытанні экалогіі і г.д. "Калі казаць, у якой галіне Саюзная дзяржава атрымала найбольшы поспех, я, пэўна, на першае месца паставіў бы гуманітарныя пытанні. Усе дамовы ў гэтай галіне былі накіраваныя на адно — каб грамадзяне дзвюх дзяржаў не адчувалі сябе чужымі на тэрыторыі суседа, — падкрэсліў Рыгор Рапота. — Можна таксама казаць пра поспехі ў сферы ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва, бяспекі, барацьбы са злачыннасцю".

Р. Рапота расказаў пра ўрачыстыя мерапрыемствы, прымеркаваныя да Дня яднання, у Мінску і Маскве. Сёлета яны праходзяць пад знакам 200-годдзя гістарычнай падзеі, якая адыграла значную ролю ў нашай агульнай гісторыі, — Айчыннай вайны 1812 года.

*Да ведама*

# Дзяржаўныя прэміі: кандыдаты вылучаныя

Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 2012 года дапушчаныя наступныя кандыдаты.

Творчы калектыў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы: **Вольга Мацкевіч, Віктар Манаеў, Андрэй Зубрыч.** За стварэнне спектакля "Пінская шляхта" паводле камедыі В. Дуніна-Марцінкевіча.

Калектыў рэстаўратараў інстытута "Белдзяржпраект": **Анатоль Шабалін, Раіса Рымашэўская, Людміла Іванова.** За рэканструкцыю і рэстаўрацыю Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**Мікалай Чарняўскі.** За стварэнне кнігі для дзяцей "Сонечны кошык".

**Ірына Дарафеева.** За аўтарскія канцэртныя праграмы ў межах сацыяльна-гуманітарнага тура "Пад мірным небам" у 2001 — 2009 гадах у падтрымку Дзяржаўнай праграмы адраджэння вёскі.

**Уладзіслаў Плігаўка.** За канцэртныя праграмы 2002 — 2009 гадоў.

Аўтарская група: **Уладзімір Слабодчыкаў, Ігар Марозаў.** За цыкл манументальных работ "І памятае свет уратаваны" (2005 — 2009 гады).

**Анатоль Бутэвіч.** За серыю кніг "Сем цудаў Беларусі".

Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры звяртаецца да кіраўнікоў арганізацый, вышэйшых навучальных устаноў, прадпрыемстваў, органаў дзяржаўнага кіравання, грамадскіх аб'яднанняў з просьбай прыняць удзел у абмеркаванні названых работ.

*Памяць*

# У гонар святой Софіі Слуцкай

**Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт асвяціў помнік праведнай Софіі Слуцкай, які з'явіўся на тэрыторыі прыхода храма ў гонар святой у Мінску. Помнік выкананы скульптарам Міхаілам Іньковым і архітэктарам Мікалаем Лук'янчыкам, якія раней упрыгожылі пастаццю княгіні Софіі яе родны горад. На асвячэнні прысутнічаў міністр культуры Беларусі Павел Латушка. Гэтай акцыяй, а таксама ўрачыстым набажэнствам ва ўсіх сталічных храмах, распачаліся мерапрыемствы да 400-годдзя з дня смерці Софіі Слуцкай.**

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА, фота Наталлі Купрэвіч**

Слуцкая княгіня з роду "Рыцараў Праваслаўя" Алелькавічаў праславілася як абаронца праваў адзінаверцаў ад гвалтоўнага пераводу ва ўніяцтва, фундатарка цэркваў, апякунка манастыроў і царкоўных брацтваў. Пра збавенне ля яе труны сведчылі многія людзі. Афіцыйная кананізацыя праведнай княгіні адбылася ў XX стагоддзі. Сёння Софія Слуцкая, дзень памяці якой паводле царкоўнага календара прыпадае на дзень яе скону — 1 красавіка, — адна з самых шанаваных для беларусаў святых.

На прэс-канферэнцыі, прысвечанай памятнай даце, Праасвяшчэнны епіскап Барысаўскі Веніямін, вікарый Мінскай епархіі, паведаміў, што асноўныя мерапрыемствы ў гонар святой Софіі Слуцкай, будуць праводзіцца пасля заканчэння Вялікага посту. Сярод іх — навукова-практычныя канферэнцыі, духоўна-асветніцкія, дабрачынныя, выстаўкі, лекцыі, тэматычныя тэле- і радыёперадачы.



*Настаяцель храма Софіі Слуцкай — галоўны ініцыятар усталявання помніка святой у Мінску.*

*За падзеяй*

# Друкаваць кнігі на розных мовах

**Калегія Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь "Пашырэнне прэзентацыі беларускай культуры за мяжой" яшчэ раз сцвердзіла: культура — гэта найперш імідж дзяржавы. На сустрэчы зацікаўленых бакоў (запрошанымі былі прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў, Міністэрства інфармацыі і Міністэрства спорту і турызму) шукаліся новыя формы прэзентацыі і экспарту беларускай культуры.**

**Ірына ТУЛУПАВА**

Міністр культуры Павел Латушка пазначыў механізмы найбольш эфектыўнага выкарыстання беларускай культуры за мяжой. Сярод іх — арганізацыя акцый у краінах-суседзях і краінах, якія з'яўляюцца стратэгічнымі партнёрамі, пры цесным узаемадзеянні з Міністэрствам замежных спраў, дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі за мяжой; развіццё культурных сувязей з прадстаўнікамі беларускай дыяспары; арганізацыя ў іншых краінах стажыровак рэжысёраў тэатра і кіно, рэстаўратараў, студэнтаў і навучэнцаў устаноў адукацыі ў сферы культуры; удзел творчай моладзі ў міжнародных конкурсах; стымуляванне гастроляў вядомых калектываў; садзейнічанне развіццю культурнага турызму; ідэнтыфікацыя беларускіх культурных каштоўнасцей у міжнародных базах дадзеных ды іншыя.

Асабліва акцэнтаваліся пытанні ўдзелу ў міжнародных праграмах у сферы культуры, выдання твораў на замежных мовах, святкавання знамянальных гістарычных дат і юбілеяў асоб, якія належаць да агульнай гістарычнай спадчыны Беларусі і замежных краін. Неабходна вызначыць тую дзяржаўную ўстанову, якая возьме на сябе такі клопат. Выказвалася прапанова стварыць адпаведнае падраздзяленне на базе Інстытута культуры Беларусі.

Існаванне культурных цэнтраў разглядаецца як стратэгічны кірунак дзейнасці па прапагандзе культуры ў розных дзяржавах свету, таму існуе неабходнасць пашырэння іх сеткі. У 2013 годзе плануецца адкрыць культурны цэнтр Беларусі ў Расіі.

Шмат гаварылася пра друк. У прыватнасці, нашы прадстаўніцтвы за мяжой павінны быць забяспечаныя адпаведнай літаратурай, асабліва краязнаўчай. Паводле слоў рэктара Інстытута культуры Беларусі Івана Крука, не лішне было б падрыхтаваць 10-томнік "Нацыянальная культура Беларусі: каштоўнасці і асобы" (назва ўмоўная), каб нашыя прадстаўніцтвы маглі прадметна прэзентаваць тое, што мы маем. Выказваліся прапановы стварыць не друкаваную, а электронную версію такога выдання. Іван Іванавіч назваў і яшчэ адзін магчымы кніжны праект — "Сакральная Беларусь".

Неабходнасць перакладу твораў на замежныя мовы абмяркоўвалі дэталёва. Досвед такі ёсць, напрыклад, прэзентацыйныя выданні Уладзіміра Караткевіча і Максіма Багдановіча. Прысутная на калегіі першы намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч акцэнтавала ўвагу на супрацоўніцтве на міжведамасным узроўні, асабліва ў інфармацыйным узаемаабмене і актыўным асваенні новых тэхналогій.

Гаворка ішла таксама пра прыярытэт шматмоўных сайтаў. Да прыкладу, сайт Нацыянальнага мастацкага музея можна праглядаць на рускай, беларускай і англійскай мовах, што, бясспрэчна, спрашчае знаёмства замежнага карыстальніка інтэрнэту з Беларуссю. У той жа час, на многіх сайтах англійскай мовы няма.

Як адзначыў П. Латушка, неабходнасць распрацоўкі доўгатэрміновай сістэмы і стратэгіі прасоўвання беларускай культуры відавочная. Таму выступоўцы гаварылі таксама пра тое, што на ўзроўні міністэрства павінны быць складзены план культурных акцый за мяжой, узгоднены з зацікаўленымі міністэрствамі і ведамствамі. З тым, каб ператварыць беларускую культуру ў прыкметны брэнд і з гонарам прадстаўляць яе ў свеце.

*Літабсягі*

# Пра пэндзаль, пяро і часопіс «Крынічка»

**Сустрэча школьнікаў з пісьменніцай Маінай Бабарыкай і мастаком Феліксам Кузняцовым адбылася ў Кіраўскай сельскай бібліятэцы Віцебскага раёна.**

**Вольга ПАЛУНЧАНКА, фота аўтара**

Больш як сорак гадоў ідуць разам па жыцці муж і жонка Фелікс Кузняцоў і Маіна Бабарыка. Яны і творчыя сустрэчы ладзяць сумесныя. Бо і сапраўды: што б ні напісаў майстар-пейзажыст, у жонкі абавязкова знойдзецца пра гэта верш.

Гэтым разам мастак падрыхтаваў выстаўку "Поры года" з краявідамі Прыдзвіння ва ўсім багацці фарбаў і прыроднага настрою. Пейзаж "Зімовы Барвін" прыцягваў асаблівую ўвагу цікаўных падлеткаў, бо гэта мясціны, дзе "жыве" віцебскі Дзед Мароз. "Пасля дажджу" — зусім наш пейзаж! Хто ж лепш за вясковых хлопчыкаў ды дзяўчынак ведае, як выглядае бальшак пасля "плачу хмар".

Знаёмства з пісьменніцай, аўтарам такой любімай, чытанай-зачытанай аповесці-казкі "Як захварэла і паправілася тэлеперадача", таксама выклікала шмат радасных эмоцый. Дзеці з захапленнем слухалі госцю (яна, як высветлілася, і сапраўды мела дачыненне да тэлебачання — была старшым рэдактарам праграм для дзяцей і юнацтва на Віцебскім абласным тэлебачанні), задавалі пытанні, а напрыканцы сустрэчы ўвогуле выказалі жаданне паўдзельнічаць у мастацкім афармленні чарговай кнігі аўтаркі. Цяпер яны актыўна чытаюць новыя казкі Маіны Бабарыкі ды рыхтуюць малюнкі.

Дарэчы, Маіна Максімаўна працуе з юнымі чытачамі многіх бібліятэк Віцебска. Яна куратар літаратурна-творчага гуртка "Крынічка" пры бібліятэцы імя С.Я. Маршака. Нядаўна пабачыў свет першы нумар аднайменнага часопіса, на старонках якога змешчаныя аповеды пра новыя прыгоды барона Мюнхгаўзэна — на афрыканскім кантыненце. Магчыма, кагосьці напачатку напалохаюць жалезны Леў, "вялізная, як хата" Чарапаха і Жырафа дваццаціметровага росту, але маленькія літаратары падкажуць, як з імі справіцца.



*Пісьменніца Маіна Бабарыка і мастак Фелікс Кузняцоў, як заўжды, побач.*

Часопіс "Крынічка" змяшчае не толькі міні-казкі. Пачэснае месца займаюць вершы, прысвечаныя маці, прасякнутыя любоўю і пяшчотай. Здзіўляюць загадкі. І трэба заўважыць, што гэта толькі пачатак. Несумненна, дзякуючы няспынным працы Маіны Максімаўны, калектыву бібліятэкі імя С. Я. Маршака і маленькіх творцаў літаратурнае неба Беларусі зазззяе новымі зоркамі.

*Артлінія*

# Вечная непаўторнасць

**Класічнае мастацтва — тая самая рэчка, у якую нельга ўвайсці двойчы. А гэта значыць, што тэкст хрэстаматыйнай п'есы ў кожным спектаклі заўсёды будзе гучаць і ўспрымацца па-новаму, што жывое выкананне адной і той жа сімфанічнай партытуры ніколі не будзе паўторам, а рэканструкцыя кананізаванай харэаграфічнай пастаноўкі ніколі не ператворыцца ў абсалютную копію ранейшага спектакля. Зрэшты, для чалавека дасведчанага ўсё гэта — ісціны, таму няма патрэбы пераконваць яго ў тым, што на сцэне НАВТ оперы і балета Беларусі адбылася паўнавартасная прэм'ера: спектакль "Жызэль, або Віліcы".**



*Асістэнт балетмайстра-пастаноўшчыка Аляксандра Ціхамірава (Расія) і намеснік генеральнага дырэктара НАВТ оперы і балета Беларусі Уладзімір Рылатка падчас гутаркі з журналістамі.*

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Кастуся Дробава**

Балет "Жызэль" на музыку А.Адана ў рэпертуары нашага Вялікага тэатра — без малога шэсць дзесяцігоддзяў: пастаноўку паводле харэаграфіі Ж. Перо, Ж.Каралі, удасканаленай у свой час М. Пеціпа, на мінскай сцэне ўпершыню ажыццявіў К. Мулер. Потым былі новыя пастаноўкі "Жызэлі": сумесна з іншымі дырыжорамі, сцэнографамі, салістамі аднаўлялі Н. Фёдарава (1966), Д. Арыпава (1976), І. Калпакова (1987). Сёння шэдэўр сусветнага мастацтва, які на працягу 170 гадоў захоўвае сваю рамантычную прыцягальнасць і эстэтычную свежасць, паўстаў у версіі легендарнага Мікіты Далгушына. Летась ён, захавальнік унікальнай стылістыкі рамантычнага балета, якая з часам "пераплавілася" ў традыцыі акадэмічнай класічнай харэаграфіі, узнавіў у Мінску "Сільфіду". Яго запрасілі паставіць у нас і "Жызэль". Майстар, які пяць гадоў таму ажыццявіў адно з самых стыльных і вытанчаных, на думку крытыкі, прачытанняў гэтага твора, сваю работу каментуе так: "«Жызэль, або Віліcы» — самы стары балет, які захаваў першасны харэаграфічны тэкст, і мая задача як пастаноўшчыка — зрабіць яго цікавым, жывым, напоўнізь эмоцыямі, зразумелымі кожнаму... Спектакль 1842 г. неаднаразовыя змяненні, аднак мы захавалі галоўнае — рамантычную структуру першакрыніцы, у якой важным з'яўляецца супрацьпастаўленне рэальнага і фантастычнага. Наш варыянт уключае мізансцэнічны малюнак, правераны часам, ён узбагачаны рускай традыцыяй увасаблення "жыцця чалавечага духу", дапоўнены інтэрпрэтацыямі вялікіх выканаўцаў".

На жаль, з-за хваробы М. Далгушын не прыехаў на прэм'еру. Яна адбылася дзякуючы асістэнту балетмайстра-пастаноўшчыка — А.Ціхаміравай і самаадданасці ўсіх, спрычыненых да працы над спектаклем. На рэпетыцыях адчувалася, як хвалююцца за лёс прэм'еры дырыжор-пастаноўшчык М. Калядка, мастак В.Окунеў (Расія), бліскучыя дуэты Л.Кудраўцава ды І. Артамонаў, Ю. Дзятко ды К.Кузняцоў, і прыма В. Гайко, і маладзенькі І. Аноўка, і артысты кардэбалету... Знаёмая і непаўторная гісторыя пра незаўжнасць мары і неўміручасць рамантычнага кахання зноў ажыла.

*Повязі*

# Незвычайнае мастацтва японскага рэжысёра

**Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў і кампанія "Japan Tobacco International" пры падтрымцы Пасольства Японіі ў Беларусі прэзэнтавалі ў мінскім кінатэатры "Цэнтральны" ўнікальны праект — выбраную рэтраспектыву класіка японскага кіно Сёхэя Імамуры.**

**Настасся ЖЫЛКО**

Сёхэй Імамура — адзін з найбуйнейшых рэжысёраў Японіі. Яго фільмы "Легенда пра Нараяму" (1983) і "Уюн" (1997) адзначаны "Залатой пальмавай галінкай" Канскага кінафестывалю — аднаго з самых прэстыжных кінафорумаў свету.

Мінскія гледачы першымі на абшарах СНД убачылі збор такога кшталту. У праграму ўвайшлі дакументальныя карціны "Салдаты, якія не вярнуліся на радзіму. Малайзія", "Дзікун вяртаецца на радзіму. Тайланд", "Піраты Бубуана", "Караюкі сан", "Чалавек, які знік", а таксама мастацкі фільм "Чорны дождж". Унікальную рэтраспектыву ў Мінску прадставіў малодшы сын рэжысёра, член Японскай асацыяцыі кінематаграфістаў, генеральны дырэктар кампаніі "Імамура прадакшн" Хірасукэ Імамура. Выступаючы на адкрыцці, ён падзякаваў арганізатарам і прызнаўся, што хвалюецца, як будзе прыняты мінскай публікай "Чалавек, які знік". Фільм складаны, ці спадабаецца…

Адказваючы на пытанні журналістаў, Хірасукэ Імамура распавёў пра школу, створаную бацькам, і пра тое, як у Японіі ставяцца да творчасці мэтра.

— Імамура ствараў фільмы пра людзей, у якіх нізкі ўзровень жыцця і развіцця. Ён апісваў тое, што звычайна замоўчваюць, спрабуючы схаваць. Таму некаторым яго мастацтва не падабалася.




*Сын славутага кінамайстра ахвотна адказваў на пытанні беларускіх прыхільнікаў кіно.*

Пра стаўленне да творчасці японскага кінарэжысёра ў Беларусі красамоўна распавяла запоўненая зала, усе квіткі ў той дзень былі прададзеныя.

*З-пад пяра*

➤ Вечар духоўнай паэзіі і музыкі "Калі сэрца напаўняецца любоўю" прайшоў у вялікай зале сталічнага Дома літаратара. Мерапрыемства было арганізаванае Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. Адкрыў свята старшыня аддзялення Міхась Пазнякоў. Выступілі паэты Ала Чорная, Сяргей Давідовіч, Лізавета Палеес, Алена Мінчукова, Алена Міхаленка, Валянціна Паліканіна. Зала цёпла апладзіравала артысту, рэжысёру і спеваку Яўгену Піменаву, артыстцы Алене Шабад, журналісту і выканаўцы песень Вользе Міхаленцы, спявачкам Настассі Раманоўскай і Вользе Крывашэевай.

**Павел КУЗЬМІЧ**

➤ У нядзелю а 13 гадзіне Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту запрашае на "Вербніцу". У аснове свята ляжыць евангельскае паданне пра ўрачыстую сустрэчу жыхарамі Іерусаліма Ісуса Хрыста, які прыйшоў у горад для прыняцця пакут і смерці на Крыжы. Жыхары Іерусаліма кідалі пад ногі Хрысту галінкі фінікавай пальмы. Для славян сімвалам свята стала вярба, таму што яна першая з усіх дрэў пачынае сваё квітненне. На "Вербніцу" ў музеі вас чакае майстар-клас па ўпрыгожванні галінак вярбы; асвячэнне вярбы ў Пакроўскай царкве XVIII ст. (помніку народнай архітэктуры) і іншыя цікавыя мерапрыемствы.

**Міра ІЎКОВІЧ**

➤ "Госця нябесная" — называлася вечарына, праведзеная народным літаратурна-мастацкім аб'яднаннем "Рунь" у вайсковай частцы з нагоды Сусветнага дня паэзіі. Вершы юных "рунёвак" Крысціны Чармных і Дар'і Гедроіць, а таксама кіраўніка "Руні" паэтэсы Валянціны Гіруць-Русакевіч чаргаваліся з песнямі на словы ўдзельнікаў гэтай творчай суполкі ў выкананні Ірыны Зянько і Аляксандра Шаўчэнкі. Напрыканцы мерапрыемства В. Гіруць-Русакевіч падаравала бібліятэцы вайсковай часці кнігі.

**Марына ТУР**

➤ Тое, што пры Рэспубліканскім Палацы культуры ветэранаў дзейнічае клуб "Натхненне", ведаюць многія прыхільнікі паэтычнага слова. Нядаўна ў госці да членаў клуба завітаў вядомы паэт, крытык, перакладчык Юрый Сапажкоў. Ён распавёў пра сваю творчасць, пра кнігі, якія пабачылі свет раней і зусім нядаўна, пра тое, як працавалася над кожнай з іх. Яркае, эмацыйнае чытанне вершаў аўтарам выклікала захапленне не толькі ў членаў клуба, але і ў студэнтаў БДУ культуры і мастацтваў, якія праходзяць практыку ў гэтым палацы. А пасля свае паэтычныя творы прадставілі на суд калег і госця члены "Натхнення".

**Алеся ЛІСТАПАД**

Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа выказвае глыбокія спачуванні старшаму навуковаму супрацоўніку фондавага аддзела музея Анатолю Віктаравічу Трафімчыку з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ.

# Успамін з удзячнасцю

**На працягу трох гадоў (1969 — 1972) Леанід Прокша працаваў рэдактарам “ЛіМа”. Да гэтага часу пісьменнік прайшоў ужо сапраўдную жыццёвую школу. Леанід Януаравіч нарадзіўся 12 красавіка 1912 года ў Полацку ў вялікай сям’і рабочага. Свой працоўны шлях пачынаў настаўнікам у вёсцы Кустаўніца Мазырскага раёна. Там ён сустрэў і моцна пакахаў дзяўчыну, якая стала спадарожніцай яго жыцця.**

Вячаслаў ВОЛЬСКІ

У 1935 годзе Леаніда Прокшу прызываюць у Чырвоную Армію, дзе ён будзе служыць ва ўзводзе лейтэнанта Івана Якубоўскага ў якасці яго памочніка. І тая дружба будучага маршала Савецкага Саюза і пісьменніка захаваецца на доўгія гады. Пра яе Леанід Януаравіч з асаблівай цеплынёю расказаў у сваіх нарысах-успамінах “Вайсковы шлях маршала Якубоўскага пачынаўся ў Бароўцы”. А гісторыя кахання пісьменніка легла ў аснову кнігі “Ці варта было жаніцца”. Забягаючы наперад, зазначым, што ў тыя палескія мясціны, дзе ён настаўнічаў, Леанід Прокша вернецца праз сорак год ужо вядомым пісьменнікам, каб расказаць пра справы сваіх былых вучняў і сяброў, якія будавалі найбуйнейшы ў рэспубліцы Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод. Сваю аповесць ён назаве “За Добрыцай-рэчкай”.

Пачатковую школу журналістыкі Леанід Прокша праходзіў у газеце “Віцебскі рабочы”, а пасля ў “Штандары вальносці”, які выходзіў у Мінску на польскай мове.

У час вайны яго гумарыстычныя апавяданні з’яўляліся ў часопісе “Фронт смеётся” побач з публікацыямі такіх вядомых пісьменнікаў, як Якуб Колас, Кандрат Крапіва, Анатоль Астрэйка і іншыя. Пасля адна з вайсковых гісторый стане асновай кнігі для дзяцей “Хлопчык у вялікіх чаравіках”.

Калі скончылася армейская служба, Леанід Прокша вярнуўся ў родную Беларусь і акунуўся ў літаратурную працу. Яго творы друкуюцца на старонках газет “Звязда” і “Літаратура і мастацтва”, часопісаў “Полымя” і “Вожык” і інш. Тэмы для іх ён чэрпаў з самога жыцця. Сваім творчым крэда Леанід Прокша выбраў гумар. “Героі” яго гумарэсак, фельетонаў і памфлетаў — лайдакі і пустадомкі, п’яніцы і чыноўнікі-хапугі (зборнікі “Зося смяецца”, “Самадзейнасць у ліфце” і іншыя).

Пэўны час пісьменнік працаваў рэдактарам газеты “Голас Радзімы”, якую атрымлівалі нашы суайчыннікі за мяжой. Камандзіроўкі ў многія замежныя краіны: Англію, Бельгію, Германію, Канаду — узбагацілі яго сур’ёзнымі назіраннямі і развагамі, якія аб’ядноўваюцца ў кнігах “Героі Алерона”, “Па абодва бакі акіяна” і іншых.

У жніўні 1969 года Леанід Прокша быў прызначаны рэдактарам “Літаратуры і мастацтва”. Пры ім газета не толькі стала штотыднёвікам, але і пачала шырэй асвятляць тыя надзённыя пытанні і праблемы, якія ставіла перад літаратурай і мастацтвам само жыццё.

Былы супрацоўнік “ЛіМа” Уладзімір Мехаў пра той час прыгадвае: “Ставячы на капітанскі мосцік пісьменніцкай газеты Леаніда Прокшу, чыноўнікі з ЦК КПБ разлічвалі, што ён будзе паслухмяна гнуць іх лінію. Але яны памыліліся. І хоць Леанід Януаравіч быў дысцыплінаваным членам партыі, але з прычыны сваёй інтэлігентнасці, шляхетнасці, няздольнасці на ганебны ўчынак шмат што ў “ЛіМе” рабіў не так, як таго чакалі ад яго наменклатуршчыкі. Тры гады, што ён быў галоўным рэдактарам, я адпрацаваў поруч з ім. І той час успамінаю з удзячнасцю”.

# Жартам і ўсур’ёз

Алесь НАВАРЫЧ

Неяк Бернард Шоу адзначыў, што жыццё не перастае быць сур’ёзным ад таго, што людзі смяюцца. Гэта можна сказаць і пра “Вожык”. На вокладцы сакавіцкага нумара часопіса змешчана задзірыстая ў адносінах да айчыннай прыватнай медыцыны карыкатура Міколы Гіргеля. Дарэчы, гэта не адзіны твор майстра карыкатуры ў нумары, і ўсе — адборныя, з выхапленымі са штодзённай плыні жыцця камічнымі сітуацыямі.

Міні-комікс Аляксандра Каршакевіча высмейвае прынцып жыцця “на авось”, калі людзі кіруюцца ва ўчынках не розумам, а азартам, калі чалавек давярае свой лёс бязглуздаму, але хітраму гульнявому аўтамату.

Што да сур’ёзнасці жыцця паводле Бернарда Шоу, то традыцыйна “Вожык” знаёміць чытачоў з рознага роду хібамі эканамічнай сітуацыі ў краіне, калі нельга бывае абысціся не толькі без артыкулаў Крымінальнага кодэкса, але і без вожыкаўскіх калючак. Тады тая ці іншая справа набывае шырокі розгалас, менавіта гэтага і баяцца махляры, хапугі, хабарнікі і прайдзісветы розных калібраў. Усё гэта — у рубрыцы “Іголкатэрапія”.

У вершаваным фельетоне “Пасрэднік непасрэдна свой” Павел Саковіч “прайшоўся” па сумнавядомай з’яве, якая выклікала заклапочанасць нават на самых вяршынях улады. У іранесцы “Каб не мерлі мухі” Наталля Кульгавая высмеяла даволі вядомых і не пазбаўленых камерцыйнага поспеху прадстаўнікоў сучаснай эстрады.

Рубрыка “Вернісаж” на цэлы разварот прадстаўляе адмірала беларускай карыкатуры Алега Папова. Марынісцкі тытул, як тлумачыць мастак у кароценькай біяграфічнай даведачцы, ён заслужыў пасля ленінградскай “мараходкі”, выпівання цэлага плафона салёнай вады і апускання ў ваеннай “хаце без вокнаў” на дно Баранцава мора.

Карыфею беларускай карыкатуры Сяргею Волкаву споўнілася 70 гадоў, і “Вожык” разам з віншаваннямі прадставіў юбілейную падборку твораў майстра з розных нумароў, пачынаючы з 1970 года. Цікавая выйшла рэтраспекцыя, якая прасочвае лёс краіны за апошнія 30-40 гадоў.

Пад рубрыкай “Бацькі і дзеці” карыкатурысты Пятро Козіч, Андрэй Скрыннік, Вікенцій Пузанкевіч і Аляксандр Каршакевіч на розны лад гумараць на вечную тэму адносін “старых і малых”.

Паведамленні з Міністэрства ўнутраных спраў у сатырычна афарбаваным выглядзе пададзеныя ў рубрыцы “Навіны з МУС: матай на вус”.

Варта адзначыць, што аб’ём сучаснага “Вожыка” — 28 старонак, так што адзін толькі пералік рубрык сведчыць пра змястоўнасць нумара. Тут і “Аб’явы для разяваў”, і “З народнага”, і “Інтэрнэт: жартуе ўвесь свет”, і “Вясёлая пошта” з творчасцю чытачоў, і “Вясёлы фотааб’ектыў”, і “Калючык” для самых маленькіх, і “Усмешкі чытачоў”. На апошняй старонцы сакавіцкага нумара вы знойдзеце падборку лепшых карыкатур пад рубрыкай “Звяр’ё маё”. Ясна, што такія творы не перакажаш — на іх трэба глядзець. Аўтары гарантуюць калі не смех, дык добры настрой. Згадзіцеся — і гэта ўжо нямала.

**Агульнавядома: шэрасць у літаратуры, дарэчы, як і ў іншых галінах творчасці, — агрэсіўная, а сапраўдны талент, як правіла, сціплы. У гэтым лішні раз пераконваешся, прасочваючы творчы шлях Алеся Жука, ганараванага прэміямі Ленінскага камсамола Беларусі, Літаратурнай прэміяй імя Івана Мележа і Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь. Набыткі ў яго настолькі важкія, што нават не верыцца, што ў свой час ён ніяк не асмельваўся свае творы прапанаваць у друк, хоць пісаць пачаў рана, яшчэ школьнікам.**



# Гэта ўсё сапраўднае

Алесь МАРЦІНОВІЧ

Першая навела А. Жука “Яны жывуць...” была змешчана ў слуцкай газеце “Шлях Ільіча” толькі ў чэрвені 1965 года, акурат пасля заканчэння ім сярэдняй школы ў в. Дзюдзева. Праўда, сам пісьменнік нарадзіўся не ў Дзюдзева, а ў суседнім Клешаве, а ягоны бацька працаваў начальнікам пошты ў Мусічах, якія таксама непадалёку ад Клешава. Атрымліваецца гэткі своеасаблівы трохкутнік. Ён і знайшоў адлюстраванне ў творчасці А. Жука, а калі глядзець шырэй, то не толькі ён, але і Случчына наогул, ва ўсялякім разе, тая частка яе, дзе прайшлі маленства і юнацтва пісьменніка. Гэта, праўда, не значыць, што героі А. Жука цалкам спісаныя з землякоў, але празаік, як і яго знакаміты папярэднік Кузьма Чорны, з поўным на тое правам можа сказаць: “Гэта ўсё адтуль, сапраўднае”.

Увогуле, ён паспяхова працягвае мастакоўскія традыцыі не толькі К. Чорнага, але і Янкі Брыля, Івана Мележа, Міхася Стральцова і іншых знакамітых празаікаў, якія прытрымліваліся традыцыйнай манеры пісьма, застаючыся пры гэтым глыбокімі рэалістамі і псіхолагамі. Ім ніколі не перашкаджаў сацыялістычны рэалізм, бо яны пра яго проста не думалі, а пісалі так, як маглі і як хацелі, а яшчэ, што самае галоўнае, — як таго вымагаў і як дазваляў іх талент. Між іншым, так пісаў і піша па сённяшні дзень А. Жук. Гэта, аднак, не значыць, што ён не вучыўся ў выдатных рускіх пісьменнікаў. Дарэчы, у тым жа 1965 годзе ён дэбютаваў не толькі ў раёнцы, а і ў часопісе “Нёман”. Пераходу на родную мову паспрыяла вучоба на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, дзе, зразумела, панаваў беларускамоўны асяродак. Не менш істотна іншае: пісаць па-беларуску вымагала сама душа. Хацелася выказваць свае думкі так, як маці, бацька, аднавяскоўцы. З адной розніцай: па-мастацку.

Алесь Жук-студэнт увагай літаратурна-мастацкіх часопісаў не быў абыдзены. Дый першую сваю кнігу “Асеннія халады” ўзяў у рукі ў тым жа, што і дыплом аб атрыманні вышэйшай адукацыі, 1972 годзе, маючы за плячыма ўсяго дваццаць пяць гадоў. Такім ранні м дэбютам можа пахваліцца далёка не кожны паэт, а тым больш празаік. Ягоны “першынец” не застаўся незаўважаным. Пра “Асеннія халады” пісалі не толькі крытыкі, а і празаікі. Я. Брыль быў упэўнены, што з А. Жуком беларуская літаратура можа звязваць свае лепшыя спадзяванні. Высока ацаніў “Асеннія халады” і М. Стральцоў, падагульніўшы свае развагі так: “Рунь халадоў не баіцца”, маючы на ўвазе тыя першыя парасткі, якія дае азіміна перад пачаткам зімы. У такім параўнанні сімвалічна тое, што, як вядома, менавіта так — “Рунь” — назваў сваю першую кнігу, якая выйшла ў 1914 годзе ў Вільні, класік беларускай літаратуры Максім Гарэцкі.

Сённяшнія творчыя набыткі А. Жука важкія. У гэтым лёгка ўпэўніцца, перачытаўшы яго “Выбраныя творы” ў двух тамах (1993 — 1994 гг.). Дый гэта далёка не ўсё з напісанага ім. Тым больш, што за час, які прайшоў пасля выхаду двухтомніка, з’явіліся і новыя творы. Плённа працаваў А. Жук у галіне перакладу, перастварыўшы па-беларуску Г. Траяпольскага, Ю. Казакова, М.Булгакава, М.Кацюбінскага, Ю. Трыфанава і іншых пісьменнікаў. Але асноўны яго набытак, безумоўна, — уласная проза, багатая народнымі характарамі, аздобленая сакавітай мовай, глыбока псіхалагічная ў сваёй сутнасці, але разам з тым і лірычна-прасветленая, нават сонечная, калі гэта датычыць настрою персанажаў, шматлікіх адступленняў, у якіх асабліва выразна бачна індывідуальнасць і самога аўтара, гучыць ягонае замілаванне роднай зямлёй. Найперш Случчынай, але праз яе паўстае ўся Беларусь.

Героі А. Жука прываблівають тым, што гэта людзі, якія жывуць побач з намі, гэтаксама, як і мы. Не толькі на працу ходзяць, а любяць, ненавідзяць. Шмат у чым памыляюцца, аднак на памылках не заўсёды вучацца, як кажуць, наступаюць на адны і тыя ж граблі. Дый каб жа толькі двойчы!.. А яшчэ персанажам А. Жука хочацца звычайнага чалавечага шчасця, а яно не кожнаму даецца, а калі і прыходзіць, то нярэдка запознена. Так сталася і з галоўным героем аповесці “Праклятая любоў” Янам Кулешам. У больш чым сталым узросце ён прыйшоў да высновы, да якой іншыя прыходзяць куды раней, таму ў іхнім жыцці і памылак меней: “Аказваецца, шчасце не заробіш. Шчасце быццам ад Бога: альбо ўдаецца, альбо не. Гэта як каму пашанцуе”. Пакахаў Кулеш значна маладзейшую за сябе жанчыну... І гэтае запознenae каханне не толькі прынесла радасць, але і духоўна ачысціла, зрабіла лепшым, хоць і да гэтага жыў сумленна і годна, аднак цяпер жыццё набыло іншы, больш важкі сэнс.

Няпростыя жыццёвыя скрыжалі ў герояў такіх аповесцей, як “Халодная птушка”, “Паляванне на Апошняга Жураўля”. Старая Анэта і Сцяпан Дзямідчык — таксама па-сапраўднаму народныя характары. Яны з тых персанажаў, якіх не прыдумаеш, бо ўзятыя з самога жыцця. А. Жук, па-філасофску глыбока асэнсоўваючы рэчаіснасць, паказвае, як сам час пераламляецца ў чалавеку, а ўжо ад яго, чалавека, залежыць, як жыць і дзеля чаго жыць. Толькі натуры моцныя — не абавязкова фізічна, нават не столькі фізічна, колькі душэўна і духоўна, — здатныя не толькі выстаяць на буравейных жыццёвых паўстанках, а і іншым даць прыклад таго, як жыць. А жыць, паводле А. Жука, трэба так, каб быць чалавекам. Гэта бачна не толькі з ягоных аповесцей (апроч згаданых, ім напісана яшчэ некалькі твораў гэтага жанру), а і з не аднаго дзясятка апавяданняў, многія з якіх ставяць яго ў шэраг нашых найлепшых навелістаў.

А яшчэ А. Жук — з тых, хто ў свой час звязаў лёс з “ЛіМам”: галоўным рэдактарам “Літаратуры і мастацтва” ён працаваў у 1980 — 1986 гадах. Займаў і іншыя адказныя пасады, быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса “Маладосць”, сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса “Полымя”, галоўным рэдактарам “Нёмана”. Ды пасады пасадамі, але найперш ён быў, ёсць і назаўсёды застанецца адным з самых выдатных беларускіх пісьменнікаў.

Анжэла МЕЛЬНІКАВА

# Вартасць пошуку

## Наватарскі характар твораў Кузьмы Чорнага

**Больш як дваццаць гадоў нашы літаратуразнаўцы гавораць пра актуальнасць асэнсавання набыткаў нацыянальнага мастацкага пісьменства ў кантэксце развіцця сусветнай (еўрапейскай) мастацкай думкі: “Дзеля таго, каб свет да сябе наблізіць і зразумець у свеце. Каб парушыць межы паміж сваім, нацыянальным, і іншаземным, зразумець іх блізкасць у непадобным, агульначалавечае ў сваім родным” (І. Шаблоўская).**

Кампаратывістыка дазваляе не толькі глыбей асэнсаваць заканамернасці развіцця беларускага мастацкага слова, але і сцвердзіць яго сталасць, жыццяздольнасць, адкрытасць свету, не толькі паказаць напрамкі засваення іншанацыянальных мастацкіх набыткаў беларускім прыгожым пісьменствам, але і тое, што давала ці магла даць наша літаратура сусветнай.

Надзвычай удзячны матэрыял у гэтым плане — творчасць Кузьмы Чорнага. Паказальна, што пісьменнік, якога А. Адамовіч назваў “найбольш беларускім па мове, быту, створаных характарах”, быў і найбольшым наватарам (у прозе) у галіне сродкаў мастацкай выразнасці. Напісанне высокамастацкіх твораў, узвышэнне беларускай культуры і літаратуры — такую мэту ставілі перад сабой сябры аб’яднання “Узвышша”, актыўным удзельнікам якога з’яўляўся К. Чорны.

Арыентацыя на засваенне лепшых узораў сусветнай літаратуры была свядомай, мэтанакіраванай устаноўкай аб’яднання, што адлюстравана ў яго праграмных заявах (“Камунікат беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання «Узвышша»”, “Тэзісы”, “Ад беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання «Узвышша»”, артыкулах А.Бабарэкі “З далін на ўзвышшы”, “Аквітызм у творчасці У.Дубоўкі”, “Узвышэнская паэзія: аналіз паняцця”, “Паэзія як уяўленне”). Пра наватарскі характар мастацкіх пошукаў узвышаўцаў пісаў У. Конан: “Тэзісам эстэтычнай праграмы «Узвышша» ёсць сінтэз класічнай мастацкай традыцыі і літаратурнага наватарства першай чвэрці XX стагоддзя”.

М. Тычына называе пісьменнікаў “Узвышша” “талентамі еўрапейскага маштабу”. Ацэньваючы творы К. Чорнага ваенных гадоў, адзначае: “Гэта быў унікальны ў нашай культуры выпадак, калі пісьменнік ішоў паралельна, а то і апярэджваў у мастацкім асэнсаванні XX ст. сваіх замежных калег, пра многіх з якіх ён нічога не чуў і не ведаў (А. Камю, Т. Ман, І. Андрыч). Асобныя старонкі чорнаўскай прозы, вобразы, малюнкі, думкі ўспрымаюцца як мастацкае адкрыццё, як “успамін пра будучыню”. Кузьма Чорны прапаноўваў такі шлях развіцця літаратуры: праз сваё, нацыянальнае — да ўніверсальнага, сусветна значнага”.

Найбольш інтэнсіўным у плане апрабацыі новых прыёмаў пісьма стаўся для К.Чорнага перыяд 20-х гадоў мінулага стагоддзя. Пошукавым, эксперыментальным быў час: і сама эпоха змены мастацкіх парадыгм, і энтузіязм беларусізацыі, жаданне стваральнай працы.

Вядома, які каласальны прарыў быў здзейснены пісьменнікамі “плыні свядомасці” і (М. Пруст, Дж. Джойс, В. Вулф, У. Фолкнер) у рэфармаванні структуры рамана, мадэрнізацыі эстэтычнай формы. Творчыя пошукі Кузьмы Чорнага і пісьменнікаў-мадэрністаў супалі ў напрамку цікавасці да ўнутранага свету чалавека, да працэсаў работы памяці і свядомасці. Пісьменнікі прапануюць новыя мастацкія прыёмы (плынь свядомасці, мантаж, фрагментарнасць, чаргаванне эпізодаў мінулага і сучаснага, зварот да залежаў памяці, да падсвядомага), імкнуцца перадаць бясконцую разнастайнасць пачуццяў, настрояў, думак, перажыванняў. У аповесці “Лявон Бушмар”: “Беглі ў яе думкі няроўна, утрапёна. То выхапіць яны з чалавечай таямніцы што-небудзь з таго, што калісьці было перажыта, ранейшае бацькава парабкоўства ў двары, бадзянне па месцах, то засцелюць усё перад чалавекам у ясныя колеры чагосьці невядомага…”

> *Кузьма Чорны ішоў паралельна, а то і апярэджваў у мастацкім асэнсаванні XX ст. сваіх замежных калег, пра многіх з якіх ён нічога не чуў і не ведаў (А. Камю, Т. Ман, І. Андрыч). Асобныя старонкі чорнаўскай прозы, вобразы, малюнкі, думкі ўспрымаюцца як мастацкае адкрыццё, як “успамін пра будучыню”.*

Мастацкі вобраз будуецца праз перадачу асобных уражанняў, адчуванняў, перажыванняў. Дамінантай у яго стварэнні выступае самасвядомасць героя.

Псіхалагізм Кузьмы Чорнага — непераўзыдзеная з’ява ў беларускай прозе. Творца шукаў найбольш прыдатныя шляхі адлюстравання ўнутранага свету чалавека, адпаведныя яго часу, што прыводзіла да значных мастацкіх адкрыццяў.

Пошукі Кузьмы Чорнага ў галіне формы супалі са зваротам мастацкай літаратуры да выяўлення падсвядомага, адкрытага З. Фрэйдам. Ледзь улоўныя, рухомыя настроі і адчуванні становяцца паўнавартасным прадметам мастацкага выяўлення. У апавяданні “Пачуцці” Кузьмы Чорнага: “Яе некуды цягнула, хацелася некуды ісці, нешта рабіць, дзейнічаць, нешта і некага пакінуць, нешта і некага знайсці... Нешта давіла ёй душу, і падобна было, што як бы гэта нешта было добрае, патрэбнае і слаўнае і цяпер няма яго...”. Самакаштоўным матэрыялам адлюстравання становяцца ўнутраныя перажыванні асобы, а не падзеі. Творы М. Пруста, Дж. Джойса — гэта, паводле слоў К. Юнга, “вызваленне свядомасці”. Паглыбленне ва ўнутраны свет герояў было працягам галоўнай лініі вялікай літаратуры, скіраванай да ўсё больш глыбокага, дакладнага спасціжэння мікракосму чалавека.

Мы не можам гаварыць пра непасрэдны ўплыў твораў заходніх пісьменнікаў на станаўленне Кузьмы Чорнага, аднак нельга не сказаць пра каласальны ўплыў Ф. Дастаеўскага на развіццё еўрапейскай літаратуры XX ст., у тым ліку і беларускай. Так, А. Адамовіч пісаў: “...геній вялікага рускага пісьменніка быў асабліва блізкі Чорнаму на працягу ўсяго творчага шляху беларускага раманіста...”

Відавочна, творчыя ўстаноўкі заходніх пісьменнікаў і Кузьмы Чорнага былі адрознымі. На беларускага празаіка моцна ўплывалі сацыяльныя фактары, што складваліся ў краіне: пісьменнік імкнуўся супрацьстаяць прагматычнаму пагляду на чалавека, імкненню ператварыць яго ў “вінцік”: “Найдрабнейшае каліва травы — незаўважанае ці даўно забытае, — і яно можа калі-небудзь увайсці раптам у жыццё чалавека, заняць увагу і думкі, і няма тае рамы, у якую можна было б, нават самаму моцнаму з моцных, увагнаць гэтую з’яву з малым калівам травы. А якую адлегласць трэба вымераць ад травы да чалавека?” Дж. Джойс імкнуўся змяніць раманную форму, стварыць сучасны эпас, дзе б аўтарская прысутнасць амаль не адчувалася. М. Пруст намагаўся перадаць адчуванне часу ў яго чыстым выглядзе і неаднойчы пісаў, што яго твор павінен “увасобіць форму, якая звычайна застаецца нябачнай, форму часу”. М. Пруст адмаўляецца ад лінейнай паслядоўнасці ў апісанні, паказвае сваіх герояў у розныя перыяды іх жыцця, апускаючы вялікія часавыя прамежкі. Такія ж прыёмы знаходзім і ў Кузьмы Чорнага.

Акрамя таго, М. Пруст — аўтар арыгінальнай тэорыі. Цыкл раманаў “У пошуках страчанага часу” — гэта яшчэ і своеасаблівы маніфест, вытлумачэнне працэсу творчасці. Наконт гэтага М. Мамардашвілі пісаў: “І невыпадкова раман Пруста ёсць адначасова раман як нешта, што мае пэўны змест, і адначасова раман пра шляхі разумення гэтага зместу і рэалізацыі асабістай цэльнасці жыцця…”. Філасофскія і эстэтычныя разважанні займаюць істотнае месца ў раманах М. Пруста. Празаіку належыць своеасаблівая тэорыя памяці, што знайшло адлюстраванне ў яго творы. Для М. Пруста, у адпаведнасці з ідэямі А. Бергсона, успрыманне нейкіх з’яў, рэчаў, прадметаў звязана з мінулым досведам, бо кожнае ўспрыманне ёсць успамін.

> *Найдрабнейшае каліва травы — незаўважанае ці даўно забытае, — і яно можа калі-небудзь увайсці раптам у жыццё чалавека, заняць увагу і думкі, і няма тае рамы, у якую можна было б, нават самаму моцнаму з моцных, увагнаць гэтую з’яву з малым калівам травы. А якую адлегласць трэба вымераць ад травы да чалавека?*

Феномен памяці цікавіць і Кузьму Чорнага. Памяць выступае ў яго творах як своеасаблівы масіў, сховішча чалавечага мінулага, якое мае самадастатковае значэнне. Але мінулае разглядаецца ў кантэксце праблемы чалавека ўвогуле, як адно са сведчанняў складанасці ўнутранай арганізацыі чалавека. Кузьма Чорны на старонках сваіх твораў не дае філасофскага вытлумачэння ўласным эстэтычным пошукам. Аднак канцэпцыя, падыходы абодвух пісьменнікаў да выяўлення ўнутранага свету асобы вельмі падобныя. Кузьма Чорны піша: “І ўсё, нават самае малое, праходзячы праз людскія пачуцці, поўна было вялікага сэнсу”.

Акрамя таго, абодва празаікі былі людзьмі тонкай душэўнай арганізацыі. Хаця М. Пруст нарадзіўся ў заможнай сям’і, у цыкле раманаў “У пошуках страчанага часу” ён імкнецца развянчаць жорсткасць, несправядлівасць, эгаізм. Вызначальнай для творчасці Кузьмы Чорнага была ідэя чалавечнасці, прага сцвердзіць спагадлівыя адносіны паміж людзьмі. Пісьменнік надзвычай балюча ўспрымаў усялякія спробы ціску на чалавека, занядбання яго пачуццяў. Таму самымі любімымі персанажамі Кузьмы Чорнага, “рупарамі аўтарскіх ідэй”, з’яўляюцца героі чулыя (Маня Ірмалевіч, “сястра” для астатніх герояў, “шчыры чалавечнасцю” Радзівон Цівунчык). Трагічнае — дамінантнае ў светаадчуванні К.Чорнага. Прычым трагізм гэты — экзістэнцыяльны. Гэта адзінота чалавека, адчужанасць паміж людзьмі, чэрствасць і абыякавасць (раманы “Сястра”, “Трэцяе пакаленне”, апавяданні “Сцены”, “Захар Зынга”, “Трагедыя майго настаўніка”, “Парфір Кіяцкі”, “Хвоі гавораць” і інш.).

Падабенства паміж творамі французскага і беларускага пісьменнікаў і ў тым, што абодвух вылучала менавіта інтуітыўнае спасціжэнне рэчаіснасці. У Кузьмы Чорнага гэтая тэндэнцыя найбольш выразна выяўлена ў 20-х гадах XX стагоддзя: “І ўсё хацелася пайсці па зямлі, ахваціць яе сабою і сказаць кожнаму: вось я бачу, чую, адчуваю цябе. І пачынаю адчуваць тое, чаго ты і сам, можа, не адчуваў...”

Пра інтуітыўнае спасціжэнне жыцця як творчы прынцып у другой палове 1920-х гг. сведчыць наяўнасць рыс імпрэсіяністычнай паэтыкі ў творах К. Чорнага. Паказальна, што адным з найбольш яркіх прадстаўнікоў імпрэсіянізму ў літаратуры якраз і з’яўляецца М. Пруст.

Як бачым, творчасць Кузьмы Чорнага 1920-х гадоў дазваляе таксама правесці пэўныя аналогіі з ідэямі інтуітывізму, аднаго з самых уплывовых кірункаў філасофіі (найбольш вядомы прадстаўнік інтуітывізму — французскі філосаф Анры Бергсон). Яго ідэі аказалі істотны ўплыў на афармленне школы “плыні свядомасці”, французскага “новага рамана”.

Кузьму Чорнага вылучае своеасаблівая “сімпатыя”, пранікнёнасць у жыццё (“ды яшчэ было жаданне непрыкметна душой увайсці ва ўсе таямніцы, што ў жывых істотах захаваны, увайсці ласкава і ціха, з чыстымі думкамі і адчуваннямі”), што, згодна з А. Бергсонам, адрознівае інстынкт ад механістычнага інтэлекта. Толькі інтуіцыя, лічыць філосаф, здольная спасцігаць жыццё ў яго разнастайных праявах, паколькі ёй дадзена пранікаць ва ўнутраную сутнасць з’яў і прадметаў: “Інтэлект праз пасрэдніцтва навукі будзе адкрываць нам усё больш поўна тайны фізічных працэсаў... Унутр самога жыцця нас магла б увесці інтуіцыя”.

Характэрнай асаблівасцю чорнаўскіх апавяданняў 1920-х гадоў з’яўляецца перадача разнастайных уражанняў, пачуццяў, настрояў, стану прыроды, інтуітыўных адчуванняў, што адпавядае ўстаноўкам інтуітывізму. А. Бергсон лічыў, што галоўная задача мастака — як мага паўней перадаць навакольную рэчаіснасць. А найбольш поўным і непасрэдным выяўленнем “жыццёвага парыву” (élan vital — адно з ключавых паняццяў у яго філасофіі) з’яўляецца ўнутраны свет чалавека. Таму самым прыдатным у спасціжэнні жыцця філосаф лічыў псіхалагічны метад. Якраз дзякуючы філасофіі жыцця (побач з А. Бергсонам варта згадаць Артура Шапенгаўэра, Сёрэна К’еркегора, Фрыдрыха Ніцшэ, Вільгельма Дыльтэя, Освальда Шпэнглера, Георга Зімеля) філасофска-антрапалагічная думка літаральна здзейсніла прарыў у спасціжэнні чалавека.

Такім чынам, і заходнія, і беларускія пісьменнікі імкнуліся да пашырэння аб’ёму і формаў даследавання рэчаіснасці. Аднак падабенства паміж творамі Кузьмы Чорнага і прадстаўнікамі школы плыні свядомасці — тыпалагічнае, паколькі няма падстаў гаварыць пра непасрэдны ўплыў заходніх аўтараў на станаўленне беларускага празаіка. Навацыі Кузьмы Чорнага былі вынікам яго натуральнага мастацкага развіцця, выяўленнем унутраных духоўных запатрабаванняў.

Калі б Кузьма Чорны належаў да літаратур тых нацый, якія ў сілу сваёй колькасці ці моцы (як правіла, гэта літаратуры імперскіх нацый) з’яўляюцца заканадаўцамі літаратурнай моды, яго імя, бясспрэчна, было б упісана побач з імёнамі сусветнай велічыні.

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

*Слова краязнаўцы*



**Наталля ЛОЎЧАЯ, дырэктар Валожынскага краязнаўчага музея, сцвярджае, што для чалавека назіральнага і дапытлівага, які любіць гісторыю роднай краіны, Валожын — цікавая кніга, і прапануе адгарнуць адну з яе старонак:**

— На плошчы ў цэнтры горада стаіць прыгожы будынак — помнік архітэктуры ў стылі класіцызму. Гэта касцёл святога Юзафа, які пабудаваў граф Тышкевіч. Першы драўляны будынак касцёла ўзвялі ў 1500 годзе. У 1806-м заклалі першы камень у падмурак новага касцёла. У маі 1815 года, калі завяршалася ўзвядзенне каменнага гмаха, выпадкова згарэла старое памяшканне. Гэты ж год стаў апошнім годам жыцця галоўнага фундатара будаўніцтва Юзафа Тышкевіча. Поўнасцю касцёл завяршылі ў 1816-м. У яго інтэр'еры можна ўбачыць барэльеф Ю. Тышкевіча.

У 1866 годзе касцёл закрылі, а яго памяшканне перадалі праваслаўнай абшчыне. На пачатку ХХ стагоддзя прыхаджане-каталікі выступілі з прапановай адкрыць касцёл у Валожыне ці ўзвесці новы, было сабрана даволі шмат грошай для гэтай мэты, аднак улады не далі дазволу. У 1919-м будынак былога касцёла святога Юзафа ўсё-ткі вярнулі вернікам. Аднак гэта падзея азмрочылася пажарам: згарэла страха і трэцяя частка столі. Агульнымі намаганнямі прыхаджане адрамантавалі будынак і аднавілі ў ім набажэнствы. Падчас нямецкай акупацыі ксяндза Удальскага арыштавала гестапа, яго расстралялі. У гады Вялікай Айчыннай вайны касцёл не быў разбураны, але вымагаў рамонту.

Згодна распараджэнню мясцовых улад у канцы 50-х гадоў мінулага стагоддзя касцёл зноў закрылі, маёмасць разрабавалі, а сам будынак перажыў варварскую рэканструкцыю. У розныя гады тут быў склад мэблі, цэх будаўнічага жалезабетону, завод пластмасавых вырабаў.

Толькі ў сярэдзіне 90-х гадоў вернікі атрымалі магчымасць выкарыстоўваць касцёл святога Юзафа па прызначэнні. Пры падтрымцы дзяржавы, мясцовых улад, спонсараў і ўласных сродкаў мясцовых жыхароў яго адрамантавалі, і сёння ў ім ладзяць набажэнствы.

## Змагаўся мужна

"Герой Смаленска і Барадзіна" — пад такою назваю ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі адкрылася выстаўка са збору Гомельскага палацава-паркавага ансамбля, прымеркаваная да 200-годдзя падзей 1812 г. і прысвечаная адначму з гаспадароў гомельскага палаца — Івану Паскевічу. У экспазіцыі прадстаўленыя яго асабістыя рэчы. Асобнай увагі заслугоўвае копія іконы "Маці Божая Смаленская", арыгінал якой жыхары Смаленска падаравалі Міхаілу Кутузаву пасля вызвалення горада ад войскаў Напалеона. У падзеях кампаніі 1812 г. Іван Паскевіч, галоўнакамандуючы расійскімі войскамі, адыграў немалаважную ролю. Яго 26-я пяхотная дывізія брала ўдзел у самых буйных і вырашальных бітвах. У бai пад Магілёвам 23 ліпеня войскам Паскевіча супрацьстаялі адборныя часці маршала Луі Даву. Падчас Смаленскай бітвы дывізія героя абараняла ключавы пункт рускай пазіцыі, пад Барадзіном утрымлівала "Батарэю Раеўскага". За Барадзінскую бітву Іван Паскевіч быў узнагароджаны ордэнам св. Ганны II ступені.

**Бажэна СТРОК**

*Музейны ўнікат*

# Кроплі ювелірнай працы

**У Мінскім абласным краязнаўчым музеі, які знаходзіцца ў Маладзечне, летась была адкрыта новая экспазіцыя "Гісторыя Міншчыны ад старажытных часоў да пачатку ХХ стагоддзя", прымеркаваная да рэспубліканскага фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2011". Перад творчай групай стаяла няпростая задача: паказаць у адной зале вялікі гістарычны адрэзак часу, прытым цікава і адмыслова. У выніку атрымалася экспазіцыя, насычаная музейнымі прадметамі, якія рэдка дэманстраваліся ці наогул упершыню прадстаўленыя наведвальнікам.**

**Раіса МАРЧУК**

Напрыклад, раздзел "Край у складзе Старажытнарускай дзяржавы X — XII стагоддзяў" прысвечаны найстарэйшым гарадам Міншчыны, што ўзніклі на землях Полацкага княства: Заслаўю, Мінску, Лагойску, Барысаву. Прынамсі, у раскопках Стара-Барысава ў 1968 годзе ў спаленым паўземляным жытле сярод рэштак печы-каменкі археолагі ўбачылі абломкі шкляных бранзалетаў, жалезнай сякеры, касцяных грэбняў... Але самая значная знаходка — залатое трохпацеркавае скроневае кольца, упрыгожанае сканню — гэтак званае кіеўскае трохпацеркавае кольца, характэрнае для дрыгавічоў. Вага вырабу — 4,5 грама, дыяметр — 2,7 сантыметра. Такія знаходкі ў Беларусі даволі рэдкія, але сустракаюцца ў скарбах пад Кіевам, у самой украінскай сталіцы і ў Старой Разані. Старабарысаўскі скарб датуецца XII — XIII стагоддзямі. Магчыма, раскапанае жытло належала выхадцу з Кіеўшчыны.

— Залатое скроневае кольца — адзін з унікальных экспанатаў новай экспазіцыі, — распавяла намеснік дырэктара па навуковай працы Мінскага абласнога краязнаўчага музея Наталля Палтавец. — Такія рэчы даследчыкі знаходзяць звычайна на ўмацаваных паселішчах. Гэтыя ўпрыгажэнні з металаў жанчыны насілі каля скроняў. Кольцы маглі ўплятаць у валасы па некалькі штук з кожнага боку або мацаваць з дапамогаю стужкі ці раменьчыка. Яны былі распаўсюджаны сярод усіх усходніх славян у VIII — XII стагоддзях як упрыгожванні для сялянак і гараджанак. Прынята лічыць, што скроневыя кольцы нясуць этнавызначальную функцыю, дазваляюць удакладніць карту рассялення плямён.

Да ўсяго, прадстаўленае скроневае кольца — унікальнае па выкананні, пры яго стварэнні выкарыстоўваліся такія ювелірныя тэхнікі, як зерань і скань. Зерань выконвалі наступным чынам: срэбную альбо залатую нітку дроту спачатку навівалі на тонкі металічны стрыжань, а потым разразалі — дрот рассыпаўся на маленькія паўкольцы. На разгладжаным кавалку драўлянага вугля майстар рабіў мноства вымак і ў кожную клаў па адным паўкольцы. Пасля паўкольцы сплаўлялі ў кропелькі зерні. Далей на плоскі выраб ці аб'ёмную форму (шар, конус) асцярожна, шарык за шарыкам «выкладвалі» кропелькі зерні — атрымоўваўся адмысловы ўзор. Дарэчы, пласціну перад нанясеннем зерні прамазвалі вішнёвым клеем, а кропелькі зерні абсыпаліся прыпоем (сумесь ртуці і срэбра). Пасля выраб абпальвалі. У выніку зерань моцна злучалася з пласцінай.



*Залатое трохпацеркавае скроневае кольца.*

Скань — таксама асаблівая тэхніка ў ювелірным мастацтве. З тонкага залатога ці срэбнага дроту на рэчы "выпісвалі" лёгкія ўзоры. Калі зерань ствapae найтанчэйшы «бісерны» ўзор, то скань — малюнак ніцей, якія безупынна круцяцца па паверхні рэчы. Адным словам, старажытнымі майстрамі ствараліся цудоўныя вырабы, якія і сёння здзіўляюць высокай дасканаласцю філіграннай тэхнікі і прыгажосцю малюнка.

— За час працы экспазіцыі з ёй пасплелі пазнаёміцца прыкладна пяць тысяч чалавек, — распавяла Наталля Іванаўна. — Перш за ўсё гэта жыхары Маладзечна. Асабліва вялікі наплыў наведвальнікаў у суботу: прыходзіць шмат вучняў з настаўнікамі, бацькоў з дзецьмі. Калі да кагосьці прыязджаюць госці, то іх абавязкова вядуць сюды. Бывае і так, што нават адзін ці два чалавекі замаўляюць экскурсію. Турыстычныя арганізацыі таксама не абмінаюць нашу ўстанову і ўключаюць у свае праграмы наведванне музея. Ужо ўвайшло ў практыку, што выкладчыкі гісторыі праводзяць у нас урокі, падчас якіх вучні слухаюць расповед экскурсавода, удакладняюць у яго нейкія моманты, адказваюць на пытанні педагогаў і такім чынам замацоўваюць атрыманы раней матэрыял.

*З нагоды*

# Будаўнічы летапіс горада

**Міра ІЎКОВІЧ**

Сёлета Гомель адзначае 870 год з часу яго першай летапіснай згадкі. За гэты перыяд горад назапасіў багаты досвед узвядзення будынкаў, гісторыя якіх сягае далёка за межы XII стагоддзя. Асноўным этапам і прысвечана кніга "Любы Гомель: Будаўнічы летапіс горада", якая ўбачыла свет напрыканцы мінулага года ў выдавецкім доме "Вячэрні Гомель-Медыя" пры садзейнічанні Гомельскага гарвыканкама.

Вехі будаўнічага летапісу горада адлюстраваныя на комплекснай выстаўцы "Гомель будуецца", якую падрыхтаваў музей Гомельскага палацава-паркавага ансамбля ў палацы Румянцавых і Паскевічаў. Урачыстая цырымонія яе адкрыцця, якая адбылася тыдзень таму, прымеркаваная да прэзентацыі фундаментальнага выдання. У экспазіцыі — фотаздымкі найбольш яркіх архітэктурных збудаванняў і іх стваральнікаў, узоры будаўнічых матэрыялаў і прылад, унікальныя дакументы з фондаў музея-арганізатара праекта, Музея гісторыі горада Гомеля і Дзяржаўнага архіва Гомельскай вобласці. Вялікую падтрымку пры стварэнні экспазіцыі аказалі выдаўцы прэзентаванай кнігі.

Дарэчы, у падрыхтоўцы гэтага праекта бралі ўдзел і будучыя архітэктары — студэнты будаўнічага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта транспарту. Андрэй Дзегцярой прадумаў інтэр'ер выставачнага памяшкання, а Марына Тур, Алеся Кажадуб і Алёна Лукашэвіч пад кіраўніцтвам дацэнта кафедры архітэктуры Сяргея Кавырава распрацавалі схему тэрытарыяльнага росту Гомеля, з канца XVIII стагоддзя і да нашых дзён. Далучэнне выпускнікоў-архітэктараў да гэтай цікавай працы садзейнічае ўзбагачэнню маладых людзей ведамі пра гісторыю будаўніцтва горада, у якім некаторыя з іх, магчыма, будуць працаваць пасля заканчэння вучобы.

*Між іншым*

# Гістарычны касцюм: вытанчанасць і прыгажосць

**Таццяна БАРДАЧОВА, малодшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж"**

На мінулым тыдні ў Нацыянальным гісторыка-культурным музеі-запаведніку "Нясвіж" адкрылася выстаўка "Баль залатога стагоддзя".

У экспазіцыі прадстаўлена калекцыя гістарычнага касцюма XVI стагоддзя. Работы створаныя майстрамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Ларысай Шылак і Вольгай Матусевіч, магістрам мастацтвазнаўства, выкладчыкам. Абедзве — удзельніцы шматлікіх выставак у розных гарадах Беларусі, а таксама Міжнародных кангрэсаў каруначніц у Германіі. У 2002 годзе Ларыса і Вольга заваявалі Гран-пры намінацыі "Рэтра" II міжнароднага конкурсу Высокай моды нацыянальнага касцюма, які праходзіў у Мінску.

Калекцыя, выстаўленая ў Нясвіжы, — гэта творчая фантазія аўтараў, заснаваная на еўрапейскім і беларускім партрэтным жывапісе, на глыбокім вывучэнні гісторыі касцюма і дэталяў яго дэкору. Свецкі касцюм XVI — XVII стагоддзяў быў неверагодна дарагі: багацце тканін і аздаблення, дэкаратыўныя дэталі, срэбныя і залатыя ніткі, жэмчуг і каштоўныя камяні, якімі свецкія прыгажуні дапаўнялі свае ўборы, ператваралі сукенкі ў непаўторныя творы мастацтва.

Ва ўборах прываблівае вытанчаная вышыўка, якая была неад'емнай часткай інтэр'ераў каралеўскага двара і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага. У той жа час ВКЛ мела цесныя стасункі з адукаванай Еўропай, таму ў свецкага касцюма ў Беларусі шмат агульнага з еўрапейскім.

Паводле слоў самых аўтараў, падставай для іх творчасці стала абуджэнне цікавасці беларусаў да гісторыі свайго народа, да багатай духоўнай культуры нашай краіны, адной з самых яскравых старонак якой з'яўляецца гісторыя старажытнага і магутнага роду Радзівілаў, для якога эпоха Адраджэння стала "залатым стагоддзем" дынастыі.

*Госці з «Маладосці»*

Андрэй КУВАЕЎ

# Гук ражка і каралеўскі вензель

**«На шапцы R была з каронай…», — успамінае ў паэме “Новая зямля” Якуб Колас, бацька якога да 1861 года служыў у Радзівілаў ляснічым”. Гэта радок з ледзь не самага захапляльнага матэрыяла сакавіцкага нумара часопіса “Маладосць”. Хочаце павандраваць у часе? Прыгадаць Якуба Коласа і “Новую зямлю” або Міколу Гусоўскага і яго “Песню пра зубра”, на свае вочы ўбачыць гузік ад уніформы ляснічага пазамінулага стагоддзя, уявіць, як выязджаў на паляванні легендарны Пане Каханку? Чытайце ў рубрыцы “Абставіны месца і часу” артыкул Андрэя Куваева “Паляванні князёў Радзівілаў”. Пра яго адметнасць сведчаць хаця б вось гэтыя ўрыўкі.**

**Аддзел публіцыстыкі часопіса «Маладосць»**

У “Літоўскай Метрыцы” сустракаюцца дакументы такога зместу яшчэ на старабеларускай мове: “Стэфан, Божаю міласцю Кароль Польскі і Вялікі князь літоўскі… лоўчаму нашаму дворнаму Вялікага Княства Літоўскага, пану Мікалаю Радзівілу, у пушчы нашай Белавежскай чатыры зубры ўбіць, пра тое хочам меці, абы твая міласць таго пану маршалку бараніці не загадан. Пісан у Мальброку. 25 кастрычніка 1577 года. Sephanus Rex”. Гэта, напэўна, самая старая згадка пра радзівілаўскае паляванне на зубра ў Белавежскай пушчы. Яшчэ адно сведчанне паляўнічага духу Радзівіла Сіроткі — па-мастацку ўпрыгожаная паляўнічая стрэльба 1615 года, захаваная да нашых дзён у калекцыі каралеўскага замка на Вавелі ў Кракаве. Цікавая ў яго гісторыя.

Вырабленая па замове князя Сіроткі за год да яго смерці стрэльба з ініцыяламі князя M.K.X.R. загадкавым чынам знікла з радзівілаўскай скарбніцы і вярнулася толькі 17 верасня 1784 года, калі ў Нясвіж прыехаў пагасцяваць і, зразумела ж, папаляваць апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. У той дзень, як запісаў каралеўскі сакратар, кароль зайшоў у скарбніцу нясвіжскага замка і ўбачыў там незлічоныя багацці, накопленыя Радзівіламі за стагоддзі, а сярод іх — старадаўнюю стрэльбу аднаго з продкаў — Мікалая Крыштофа. Пасля гэтага манарх падарыў на вечную памяць у скарбніцу “янычарку” з “шыфрам” князя Мікалая Крыштофа Радзівіла, дадаўшы і свой “шыфр”. У адказ удзячны Радзівіл падарыў каралю восем каштоўных сёдлаў. Такі шырокі жэст мог зрабіць толькі, напэўна, самы вядомы і арыгінальны з Радзівілаў XVIII стагоддзя — Караль Станіслаў, Пане Каханку (1734 — 1790).

А каралеўскі вензель у выглядзе мудрагеліста пераплеценых літар S.A.R. да гэтай пары ўпрыгожвае старадаўнюю зброю, якая, прайшоўшы праз сховішча імператарскага Эрмітажа, вярнулася на сваю гістарычную радзіму пасля Рыжскага дагавора.

Сумнiўна, што з гэтай зброі быў забіты хаця б адзін з тых чатырох зуброў, паколькі нават сёння, каб забіць звычайнага дзіка, патрэбныя немалыя спрыт і вопыт. Паляўнічыя заўсёды раяць браць на кабана самую простую і надзейную зброю — дубальтоўку. Асечка ў выпадку атакі раз’юшанага параненага звера можа каштаваць паляўнічаму жыцця. Дык што гаварыць пра белавежскіх зуброў XVI стагоддзя, між рогаў якіх маглі сесці ў шарэнгу некалькі чалавек, як сцвярджаў Мікола Гусоўскі ў сваёй “Песні пра зубра”. Хутчэй за ўсё, гэтая шыкоўная зброя прызначалася для палявання на дробных дзікіх птушак.

Невядома, ці ўдзельнічаў, як і яго далёкі продак, у паляваннях на зуброў у Белавежы вышэй згаданы князь Пане Каханку, але, з’яўляючыся адным з найбагацейшых магнатаў дзяржавы, ён мог сабе дазволіць ладзіць каралеўскія паляванні ва ўсіх сэнсах гэтага выразу. Менавіта тады, у апошняй трэціне XVIII стагоддзя, багацце Радзівілаў дасягае свайго апагею, і разам з тым забавы і гульні княскага дома набываюць асаблівa маштабны і грандыёзны характар, становячыся ў поўным сэнсе легендарнымі. Не будзем сёння закранаць самыя змрочныя з тых паданняў, якія расказваюць, як Пане Каханку паляваў на людзей, дастаткова ўспомніць пра яго “мядзведжыя акадэміі” ў Смаргоні, дзе дрэсіравалі гэтых звяроў, прымушаючы потым прыслужваць за княскім сталом, або выкарыстоўвалі іх у якасці рысакоў, запрагаючы ў карэты. У прадмесці Нясвіжа — Альбе — князь Караль стварыў маленькі Версаль, дзе ў доміках, пабудаваных на манер сялянскіх, летам жылі яго знакамітыя госці, а па вырытых каналах плавалі караблі паводле ўзору сапраўдных фрэгатаў і галеонаў. Там, у Альбе, што прылягала да княскай пушчы, пачыналіся паляванні, да якіх рыхтаваліся за месяц, зганяючы звяр’ё. Тамсама па вечарах даваліся грандыёзныя балі і тэатральныя пастаноўкі, ладзіліся банкеты, якія сапернічалі з каралеўскімі. Ды і як не пасапернічаць, калі твой гадавы даход пераўзыходзіць даход усёй дзяржавы!

Дзядзька Караля, Іеранім Фларыян Радзівіл (1715 — 1760), пайшоў далей, увёўшы ў сябе ў Слуцку яшчэ больш цікавы варыянт “палявання”. У спецыяльна адведзеным вальеры ён ладзіў сапраўдныя “гладыятарскія” баі жывёл: мядзведзь супраць лася, ваўкі супраць дзікоў. Пераможцаў потым цкавалі сабакамі або расстрэльвалі ва ўпор. Дзікі роў раз’юшаных і віскат параненых жывёл напаўнялі наваколле, робячы з гэтага “палявання” нешта накшталт бойні.

Акрамя родных, блізкіх сяброў дома і вярхоў тагачаснай арыстакратыі Беларусі і Польшчы, у паляваннях часцяком бралі ўдзел ганаровыя госці з Варшавы, Парыжа, Берліна, Неапаля. На фотаздымках, якія захаваліся з пачатку мінулага стагоддзя, побач з паляўнічымі можна ўбачыць твары прэзідэнта Польшчы Ігнацыя Масціцкага, вялікага князя Альбрэхта Габзбурга, нашчадка неапалітанскага караля Мюрата, спадкаемцу германскага кайзера прынца Вільгельма II. Пра прыезд апошняга ў Нясвіж у 1886 годзе захаваліся цікавыя звесткі.

Спачатку высокі госць спыніўся ў маёнтку Радзівілімонты, дзе далучыўся да асноўнай кампаніі паляўнічых. Пасля ўсе накіраваліся ў Дзяніскавічы (цяперашні Ганцавіцкі раён Брэсцкай вобласці), дзе размясціліся ў простым драўляным паляўнічым дамку, адтуль Вільгельм і Радзівілы са світаю паехалі ў палескія пушчы.

З пачаткам палявання Вільгельм заняў вызначаную яму пазіцыю. Злева і справа ад яго размясціліся князі Антоній Вільгельм і Мацей Радзівіл, уладальнік маёнтка Паланечка. Прынц быў упэўнены, што яму, як звычайна, будзе прадастаўлена права першага стрэлу, і якім было яго здзіўленне, калі мядзведзя ўзяў першы ж момант забіў Мацей Радзівіл. Настрой госця ледзь не сапсаваўся, аднак становішча выправіў сам Мацей Радзівіл, які пажартаваў у лепшых традыцыях гумару Пане Каханку: “Такі сціплы мядзведзь не варты стрэлу Вашай Высокасці! Паберажыце патроны для больш буйнога звера!”

*Эксклюзіў з мінулага*

# Захавалі вернасць радзіме і каханню

Лявон ЦЕЛЕШ

**Першыя фотаздымкі ў Беларусі з’явіліся ненамнога пазней, чым у некаторых іншых краінах. Прынамсі, у далёкім 1890 годзе граф Бенедыкт Тышкевіч меў фоталабараторыю ў маёнтку Вяла (непадалёк ад Валожына). Здымаў членаў сваёй сям’і, сялян, рамеснікаў.**

Фотаздымкі, як і кадры кінахронікі, адносяцца да відаў мастацтва, якімі можна “спыніць час”. Гэты метад вырашылі выкарыстаць дырэктар Дзяржынскага раённага дома народнай творчасці Наталля Ермаловіч і дырэктар краязнаўчага музея Вялікасельскай сярэдняй школы Тамара Заблоцкая, якія арганізавалі ў школе выстаўку старых фотаздымкаў пад назвай “І людзі зведаноць пра прадзедаў сваіх”. Унікальная экспазіцыя адразу прыцягнула ўвагу.

Старыя фотаальбомы ёсць у кожнай сям’і. На прапанову стварыць выстаўку ахвотна адгукнуліся настаўнікі, вучні і іх бацькі. У выніку сабралі цэлую калекцыю — амаль 100 фотакартак, на якіх адлюстраваны людзі і падзеі значнага прамежку часу — пачынаючы з 1913 года і заканчваючы пачаткам 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Каля 70 рэдкіх здымкаў увайшлі ў экспазіцыю. На іх можна ўбачыць жыхароў Дзяржыншчыны за працай, падчас адпачынку і свят. Ёсць і групавыя фотаздымкі выпускнікоў школ.

Маю ўвагу прыцягнулі фота, з якімі звязана сапраўдная рамантычная гісторыя. Вось прыгожая дзяўчына ў модным сукенцы 30-х гадоў мінулага стагоддзя. На другім здымку — малады вайсковец у танкісцкім шлеме. Мальвіна Касіловіч нарадзілася ў вёсцы Вялікае Сяло ў 1918 годзе ў простай і працавітай сям’і. На танцах у хаце-чытальні пазнаёмілася з прыгожым хлопцам Міхаілам Раманоўскім. Іх сяброўства неўпрыкмет перарасло ў моцнае каханне. Але Міхаіла прызвалі ў Чырвоную Армію. Маладыя людзі перапісваліся, марылі пра сустрэчу. У адным з лістоў Міхаіл выслаў сваёй каханай гэтае фота. Мальвіна сфатаграфавалася ў Дзяржынску і таксама адправіла хлопцу свой здымак. Але ім не давялося сустрэцца. Пачалася Вялікая Айчынная вайна, Міхаіла накіравалі на фронт. Толькі ў канцы вайны



*Міхаіл Раманоўскі.*

Мальвіна Іосіфаўна даведалася, што яе нараючоны, лейтэнант Міхаіл Раманоўскі загінуў у лютым 1943-га.

А яна так і не выйшла замуж, жыла з сям’ёй сваёй сястры, дзяцей, унукаў і праўнукаў, якіх лічыць сваімі і вельмі любіць. Мальвіне Іосіфаўне споўнілася ўжо 94 гады. Фотаздымак свайго каханага зберагае яна як вялікую каштоўнасць.

Лёс былых жыхароў Вялікага Сяла Андрэя Манько і яго жонкі Веры Сцяпанаўны склаўся інакш. Пазнаёміліся яны падчас вучобы ў Мар’інагорскім сельскагаспадарчым тэхнікуме, і сваё каханне пранеслі праз усе выпрабаванні. Яшчэ да вайны Андрэй Іванавіч скончыў Таганрогскую авіяцыйную школу, служыў у палку бамбардзіроўшчыкаў. Як спанатранага механіка яго прызначылі абслугоўваць самалёт камандарма К. Вяршыніна, якога часта суправаджаў і ў палётах. Удзельнічаў у аперацыі “Баграціён”, Перамогу сустрэў у Германіі. На сценах рэйхстага пакінуў і свой подпіс.

Вера Сцяпанаўна ў першыя дні вайны хадзіла ў тэхнікум на заняткі і знаходзіла час працаваць у ваенным шпіталі. Потым вярнулася дамоў, на Уздзеншчыну, у сваю родную вёску Яршы, дзе стала сувязной партызанскага атрада. Веру Сцяпанаўну вылучылі сакратаром падпольнай камсамольскай арганізацыі.

Вайна не перашкодзіла іх каханню. Сустрэўшыся пасля расстання, яны пражылі ў згодзе доўгія гады. Зберaглі ўсе свае лісты адно да аднаго. На вялікі жаль, Вера Сцяпанаўна не дажыла да нашых дзён, а Андрэй Манько, кавалер многіх ордэнаў і медалёў, жыве цяпер разам з дачкою.

Цікавы і фотаздымак 1916 года, на якім маладая пара: вайсковец расійскай арміі з прыгожай жанчынай. Некалі, больш як 100 год таму, у тагачасным Койданаве пражывала сям’я заможных людзей, прозвішча якіх было Папраўкі. Быў у іх прыгожы і адукаваны сын Васіль. А непадалёк ад іх жыла бедная батрачка Юхновіч з дачкою-прыгажуняй Надзеяй. Аднойчы на Каляды Надзея вырашыла вызначыць свайго нарачонага. Яна чыста вымела ў хаце, вынесла на вуліцу смецце і прыслухалася, адкуль пачуецца сабачы брэх. Бо здаўна лічылася: адкуль на Каляды забрэша сабака, адтуль трэба чакаць жаніха. Брэх пачуўся з боку Папраўкаў. Дзяўчына вярнулася ў хату, каб падзяліцца з маці навіной. “Кінь глупства, дачушка, — мовіла маці. — Яны ж багатыя, а мы — галадранцы”. Неўзабаве з Амерыкі вярнуўся дадому Васіль, які вучыўся там на эканаміста-бухгалтара. На вечарыне падчас танцаў хлопец і дзяўчына пазнаёміліся. Пакахалі адно аднаго. У лютым 1914 года супраць волі бацькоў Васіля абвянчаліся ў койданаўскай царкве.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, Васіля прызвалі ў царскую армію і прызначылі палкавым пісарам. Служыў у Пецярбургу. З цягам часу туды пераехала і Надзея з небагатым пасагам – швейнай машынкай “Зінгер”, уладкавалася на швейную фабрыку, якая належала царыцы. Тут шылі адзенне для асоб царскага двара. Падчас Кастрычніцкай рэвалюцыі генерал, у якога служыў Васіль Папраўка, прапанаваў маладой сям’і пакінуць Расію і з’ехаць разам з ім у Фінляндыю. На што Васіль Іванавіч адказаў: “Я нікуды не паеду. Тут мая зямля, мая Радзіма”. Папраўкі вярнуліся ў Койданава. Спачатку Васіль працаваў у Койданаўскім судзе, потым у Мінску ў Доме ўрада. Па ілжывым даносе ў 1936 годзе яго арыштавалі. Гады зняволення правёў на поўначы Расіі і толькі пасля вайны вярнуўся на радзіму. Быў рэабілітаваны. Папраўкі на працягу доўгага сумеснага жыцця не здрадзілі ні Радзіме, ні свайму каханню. Памёр Васіль Іванавіч у 1961-м, а Надзея Антонаўна пражыла 92 гады і памерла ў 1987 годзе. Пра гэта мне распавяла іх унучка, Наталля Ермаловіч, якая таксама брала ўдзел у арганізацыі фотавыставкі.

Гэтыя тры гісторыі сведчаць: нашыя продкі любілі радзіму, даражылі каханнем і вернасцю, а іх жыццё можа служыць добрым прыкладам для сучаснай моладзі.



Яўген Хвалей

## Паводка на Нёмане

*Разліўся Нёман…*
*Чайкі над вадою —*
*Як ветразь белы ў маладосць,*
*Калі я жыў з бацькамі,*
*Дома,*
*Калі быў тут яшчэ не госць…*
*Тады я ў гэткую ж паводку*
*На зыбкім чоўне веславаў…*
*О, як гайдала тую лодку*
*Пасля на многіх з пераправ!*

*Ды дзе б ні быў*
*Адсюль далёка —*
*Імкнуў да Нёмна*
*Човен мой,*
*Дзе пойма —*
*Не акінуць вокам,*
*І чаек — ветразь над вадой.*

## Вербніца

*Успенская царква…*
*Там маці мая, верніца,*
*З вярбовымі галінкамі ў руках…*
*Я колькі помню сябе —Вербніца*
*Таемны мела знак і пах.*
*Дамоў вярталася матуля*
*З вярбой свянчонаю з царквы:*
*“Прынесла вестку вам святую…” —*
*Сцябала мякка з галавы:*
*“Вярба б’е — не я б’ю…*
*За тыдзень — Вялікдзень…”*
*Хоць нам, малечы, быў незразумелы*
*У Іерусалім Хрыста ўваход,*
*Але ў душы навек засела:*
*“Вярба б’е — не я б’ю…*
*За тыдзень — Вялікдзень…”*
*Цвіці, вярба,*
*Цвіці штогод!*

## Жнівеньскія зоркі

*Яблыня неба ў яблыках-зорках —*
*Па-над Ушою сцежкай іду.*
*Белы туман, як дзед, на пагорку*
*Курыць ў сівую сваю бараду.*
*Быццам жыццё маё, месяц шчарбаты*
*З поўні-красуні сыходзіць на сход.*
*Гэтая ноч, бы Купальскае свята, —*
*Хочацца весці да дня карагод.*
*Зорнае свята…*
*Вось толькі зёлкі*
*З водарам горычным змрок атуліў,*
*Штось неспакойна на сэрцы…*
*А зоркі*
*Падаюць ціха, як белы наліў.*

* * *

*Ад сумётаў — белым-белых!*
*— адлятаю…*
*Прызямлюся — у чужым заморскім краі.*
*Гэты срэбны снег табе я пакідаю,*
*Як сябе часцінку, — ўсё, што маю.*
*На два месяцы з табой мы пастарэем*
*І адзін другога сэрцам не сагрэем…*
*Ты прабач, жыццё ў мяне такое —*
*Я жыву, як мора, неспакоем.*
*Расставанняў горкіх мелі многа,*
*Ды, як птах, вяртаўся да парога.*
*І цяпер — ты вер мне — я вярнуся*
*Да цябе і роднай Беларусі.*

## Над каменем

Вядомы беларускі мастак XIX ст.
Валенцій Ванькові̌ч нарадзіўся
і пражыў першыя 5 гадоў у маёнтку
Калюжыца (цяпер Бярэзінскі раён)

*Над каменем,*
*Над знакам памятным тваім стаю*
*ў Калюжыцы…*
*Здзічэлы бэз — нібы гадоў*
*мінулых лес —*
*Хавае тут яго,*
*дзе калісь жыў ты…*
*Здаецца, не на ліст —*
*ступаю на твой след.*
*Спаўзае сцежка ўніз вужакай да Ушы, —*
*Там хвалі тыя ж,*
*бы ўсплёск тваёй душы.*
*Вянок чаромхі, ліпаў, вербалозу,*
*Як палатно тваё —*
*з вясны і да марозу.*
*Срабрысты панскі клён*
*з буслянкаю наверсе,*
*Што два вякі трымае ў сваёй кроне,*
*І дзень і ноч, і ноч і дзень*
*лістотай шэпча вершы —*
*Чутны ў іх хлопчыка*
*з іскрою боскай крокі.*



Фота Кастуся Дробава



Ірына Тулупава

## Крымскі верлібр

* * *

*Стары Крым*
*Феадосія*
*Херсанес*
*Камяністыя берагі*
*З рэшткамі жыцця*
*Старажытных цывілізацый*
*Таямнічасць быцця*
*Растварaецца*
*У марскіх хвалях*
*Яны б’юцца аб скалы*
*У зацішша і шторм*
*Сіла размаху розная*
*Вынік адзін*
*Вада камень точыць*

* * *

*Урасці ў нябёсы*
*І ўбачыць начную поўню так,*
*Як марыніст Айвазоўскі*
*З якога боку не падыдзеш да палатна*
*Шлях праз цемру*
*Палягае па месяцавай дарожцы*
*Яна бяжыць услед за табой*
*Па водным Сусвеце*

*Не азірайся!*
*Ідзі!*
*Калі за табою Святло!*

* * *

*Мора вабіць сваёй бязмежнасцю*
*Прадчуваннем шчасця*
*Якое наблізіцца*
*Прыйдзе*
*З-за лініі зямнога гарызонту*
*Насыціць сабою Сусвет*
*Яго велічыня будзе суразмернай*
*З воднаю стыхіяй*
*Яно запалоніць прастору*
*Зацягне ў вірлівы*
*Водаварот*
*Адпусціць*
*Насцігне новаю марскою хваляю*
*Больш высокаю за папярэднюю*
*Больш магутнаю*
*Больш насычанаю*
*Са шчыльнасцю*
*Якая пераўзыдзе*
*Усе дапушчальныя нормы*

*Гэтую неўнармаванасць*
*Сапраўднага пачуцця*
*Шукаюць на пясчаным беразе*
*Улюбёнцы фартуны*
*А знаходзяць*
*Толькі*
*Улюбёнцы лёсаў*

* * *

*Фантан Айвазоўскага*
*Чаканыя*
*І жаданыя*
*Кроплі*
*Прэснай вады*
*У прыморскай Феадосіі*

*Фантан Айвазоўскаму*
*Струмені празрыстага шчасця*
*Натоленых у смагу людзей.*

*Варта аддаць кроплю сваёй душы*
*Каб выклікаць сустрэчны*
*Паток*
*Чалавечнасці*

* * *

*Гара*
*Святога Пятра*
*Ай-Петры*
*Бліжэй да неба*
*На тысячу метраў*

*Канатнай дарогі*
*Шкляны вагончык*
*Імчыць на вяршыню*
*Кагорты ахвочых*

*Узняцца на неба*
*Скрозь пасмы*
*Аблокаў*
*Да ўсёдаравальнага*
*Боскага вока*

*Расчараванне*
*Грэшнага Юды*
*Ніхто не гатоў*
*Убачыць вярблюдаў*
*На горным плато*

*Тут смажаць шашлык*
*І гандлююць у крамах*
*Няма на плато*
*Запаветнае брамы*
*Перад якою*
*Дапытлівы Пётр*

*У недасяжных*
*Канату*
*Высях*
*Мроі згараюць*

*Уздым*
*без высілкаў*
*Не абяцае*
*Раю.*



Яўген Сергіеня

## *Вершы-прытчы*

## Літара А

*Аднойчы — ад ночы,*
*Ад чаю — з адчаю,*
*Адліга — ад лігі,*
*Ад гулу — адгулы.*

*Адкаты — ад катаў,*
*Адметка — ад меткі,*
*Адвязваць — ад вязу,*
*Адкладваць — ад кладу.*

*Адмесці — ад месца,*
*Адмена — ад мены,*
*Адмоўны — ад мовы,*
*Адлегласць — ад легчы.*

*А ўзяў вымаўленне,*
*А ўзяў ашуканства,*
*А ў гэтых трох словах*
*Адно пастаянства.*

## Зайздрасць

*Спытаў аднойчы хлопец мудраца:*
*— Адкуль бярэцца ў людзях зайздрасць?*
*Той адказаў разважліва яму:*
*— Вось паглядзі ў акно, што ўбачыш там?*
*— Людзей убачу, неба, дрэва…*
*— Цяпер у люстра паглядзі, што там?*
*— Сябе пабачыў і вакол сябе…*
*— Вось справа ў чым! — сказаў мудрэц. —*
*У шкло калі дабавіць крышку срэбра,*
*Заўсёды будзеш бачыць там сябе…*
*Адтуль і вынікае зайздрасць.*

## Салома і агонь

*Стаяў стажок саломы залатое.*
*Гарэў агонь паблізу як на тое.*
*Прыглядзеўся агеньчык да стажка,*
*Саломе знакі робіць спадцішка.*
*Праз час які так страсцю запалаў,*
*Наблізіўся і той стажок абняў.*
*Салома думае, што і яго абдыме.*
*Клубіліся спярша абдымкі ў дыме,*
*Затым агонь кахання так падняўся,*
*Што ў дзікім танцы доўга калыхаўся…*
*І толькі попел ад стажка застаўся.*

## Мастацтва

*Ляпілі з гліны жбан прафаны,*
*Адзін круціў, другі трымаў,*
*А трэці, нібы апантаны,*
*Парады розныя даваў.*

*Ды творцаў жбан ніяк не слухаў.*
*Іх парыванняў не ўспрымаў.*
*За кожным іх нязграбным рухам*
*Не рос уверх, а ападаў.*

*Праз пэўны час прыйшлося здацца,*
*Не атрымаўся з гліны жбан.*
*А хтосьці вымавіў: мастацтва…*
*Чацвёрты гэта быў прафан.*

## Абраза

*Напэўна, большае абразы*
*Няма для Бога, як пачуць*
*Музычных усхваленняў фразы,*
*Што лайдакі Яму пяюць.*

*Стваральнік — Ён працуе плённа*
*І чуе музыку, але*
*Ад тых, хто працаю штодзённа*
*І сэрцам песню Яму шле.*

## Распіска

*Прыйшоў святар у дом малітвы*
*І зразумеў: тут лазіў злодзей.*
*А рэчы цэлыя дый годзе,*
*Вакно адно было разбітым.*

*Пільней прыглядзеўся да следу*
*На снезе, што намёў вятрыска.*
*На Біблії знайшоў распіску:*
*“Гасподзь, прабач, бо я не ведаў”.*

# Вітаючы развагу

Хведар ЛАЗОЎСКІ

**Прастора беларуска-кітайскіх культурных стасункаў становіцца ўсё больш шырокай. Не застаецца ўбаку і літаратура. З'яўляюцца ў перыёдыцы новыя публікацыі перакладаў. Выходзяць у Мінску кнігі пра Кітай, яго гісторыю, культуру.**

**Працуе ў Паднябеснай журналіст газеты "СБ. Беларусь сегодня" Інэса Плескачэўская. Выйшла некалькі кніг беларускіх журналістаў пра Кітай. Праўда, усе выданні — на рускай мове. Але сёння хацелася б пагаварыць крышачку пра іншае.**

**Спрыяць цікаўнасці да Кітая, Усходу з боку даследчыкаў, белетрыстаў можа і павінна атмасфера запатрабаванасці такога матэрыялу чытачамі. І кнігазбіральнікамі — таксама. Педагог, бард, краязнаўца Аляксандр Вашчанка — яшчэ і добра вядомы мінскі кніжнік. Бібліятэка яго налічвае некалькі тысяч асобнікаў. Вылучаецца ў ёй усходні раздзел. Пра кітайскія кнігазнаўчыя зацікаўленні Аляксандра Вашчанкі і пойдзе наша размова.**

**— Аляксандр, у мяне асабіста кітайскія зацікаўленні з'явіліся яшчэ ў школе, калі на вочы трапіла кніжачка на беларускай мове — "Апавяданні кітайскіх пісьменнікаў". А якім быў ваш "кітайскі" пачатак?**

— Першую "кітайскую" кнігу я набыў у 1958 годзе, калі вучыўся ў першым класе Дварэцкай васьмігодкі Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці. А здарылася ўсё так. Зімой я захварэў на ангіну. Мне было вельмі сумна ляжаць у ложку ў той час, як сябры каталіся на лыжах. Дзіцячыя кніжкі з невялікай хатняй бібліятэкі былі неаднаразова прачытаныя і перачытаныя. Хацелася нечага новага. Пачаў угаворваць бацьку: "Тата, купі мне кніжку!" Нарэшце бацька злітаваўся і даў 15 капеек маёй стрыечнай сястры, якая хадзіла вучыцца на станцыю Заслонава, дзе была невялікая кніжная крама. З якім нецярпеннем я чакаў, калі яна вернецца са школы! Нарэшце яна прыйшла і прынесла невялікую кніжачку ў мяккай вокладцы (вядома, што купіш за такія грошы), на якой была намалявана дзяўчынка ў капелюшы з рысавай саломы, шараварах і куртачцы навыпуск. Кніжку я "праглынуў" за паўгадзіны. Назву не помню, але гэта быў пераклад з кітайскай. Пасля, калі пагоршыліся адносіны Савецкага Саюза з Кітаем, кітайская літаратура амаль не выходзіла.

**— І ўсё ж, ці былі ў школьным часе іншыя сустрэчы з кітайскай кнігай? Што найбольш запала ў памяць?**

— Мой бацька — настаўнік гісторыі. І ў нашай хатняй бібліятэцы захаваліся яго інстытуцкія падручнікі. Сярод іншых — "Гісторыя Старажытнага Усходу" В. Аўдзіева (Масква, 1948). Ужо ў трэцім класе я прачытаў гэтую кнігу. Асобны раздзел у ёй быў прысвечаны Кітаю. Як было не зацікавіцца краінай і народам, які яшчэ да нашай эры склаў карту зорнага неба, вынайшаў порах і вадзяны гадзіннік, пабудаваў Вялікую Кітайскую сцяну?!

**— А з кніг пра Кітай на беларускай мове што ёсць у вашай бібліятэцы?**

— Кніга перакладаў Рыгора Барадуліна "Гуканне паэзіі Усходу" (Мінск, 2007). Поруч з вершамі паэтаў Японіі, Карэі, В'етнама там надрукавана паэзія кітайскіх мастакоў прыгожага пісьменства. Сярод іншых — і такі шэдэўр:

*Забудзем сум, вітаючы развагу, —*
*Сто чарак не спатоляць нашу смагу.*
*А ноч бясседай поўная, як вока,*
*Пры гэткай поўні ходзіць сон далёка,*
*Пакуль не здасца нам з апошняй кропляй*
*Зямля — пасцеляй,*
*неба — коўдрай цёплай.*

**— Калі не памыляюся, гэта Лі Бай?..**

— Так, 701 — 762 гады нашай эры…

**— У "Мастацкай літаратуры", дарэчы, выйшла яго кніга на рускай мове…**

— А я шкадую, што няма ў маёй бібліятэцы кніг на кітайскай мове. І хацелася б адказаць, як той асуджаны на смяротнае пакаранне, у якога спыталі пра апошняе жаданне: "Хачу дасканала вывучыць кітайскую мову!" Каб потым чытаць кітайскую літаратуру ў арыгінале.

**— Раскажыце, калі ласка, пра найбольш цікавыя знаходкі ў букіністычных крамах, на кніжных развалах?**

— Мне вельмі ў свой час хацелася набыць чатырохтомнік "Антология китайской поэзии" (Масква, 1957)…

І хаця ён выдадзены накладам 35 тысяч экзэмпляраў, знайсці яго ў Мінску было нерэальна. І вось у адну з паездак у Санкт-Пецярбург я патрапіў на іх знакаміты кніжны кірмаш. У аднаго з гандляроў убачыў чатыры невялікія тамы барвовага колеру, якія я беспаспяхова шукаў доўгія гады. У мяне ажно рукі задрыжэлі! Але хутка справіўся з хваляваннем і абыякавым голасам спытаў цану. Яна аказалася не надта высокая, і я без лішняга торгу набыў запаветныя кнігі.



**— Ахапіць усю кітаістыку цяпер ужо наўрад ці магчыма. У Маскве і Санкт-Пецярбургу шмат што сёння выдаецца… А яшчэ ж — выдавецтвы Хабараўска, Уладзівастока, Чыты… Чаму аддаяце перавагу?**

— У фарміраванні кітайскай часткі свайёй бібліятэкі несумненную перавагу аддаю кітайскай паэзіі, якую лічу адной з лепшых у свеце. Іншым разам, калі на душы сумна, я саджуся ў крэсла, бяру з паліцы томік Ду Фу або яго сябра Лі Бая, пачынаю чытаць і здзіўляюся іх уменню закранаць патаемныя струны душы. Адным з самых значных набыткаў лічу "Шыцзін" з серыі "Літаратурныя помнікі". У гэтай "Кнізе песень і гімнаў" зафіксаваныя найцікавейшыя ўзоры народных песень, якія ўзніклі на самым пачатку гістарычнага існавання кітайскага народа. Мне як чалавеку, які збірае ўзоры фальклору роднага беларускага народа, цікавыя звычаі, абрады і побыт кітайцаў, адлюстраваныя ў гэтай найстаражытнейшай кнізе. Аднак варта помніць пра тое, што ў V — III стст. да н.э. уся класічная літаратура старажытнага Кітая пад уплывам пануючай у той час сістэмы рэлігійна-філасофскіх тэорый (канфуцыянства) была істотна перапрацавана, а часам і проста перапісана.

"Шыцзін" — першы поўны пераклад "Кнігі песень і гімнаў" на рускую мову, а ён мог і не адбыцца… Аляксея Штукіна, які пачаў працаваць над перакладам у пачатку 1930-х гадоў пад кіраўніцтвам знакамітага этнолага акадэміка В. Аляксеева, двойчы арыштоўвалі і ссылалі ў Сібір. Пасля вяртання адтуль яму забаранілі жыць у Ленінградзе. Ён працаваў настаўнікам у вясковай школе. І закончыў пераклад у 1954 годзе, калі ўжо быў цяжка хворы. Таму гэтая кніга — не толькі помнік літаратуры, але і помнік мужнасці чалавечага духу…

**— У свой час маскоўская "Художественная литература" выдавала "Библиотеку китайской литературы". У мяне з "Бібліятэкі…" ёсць томік "Проза старажытнага Кітая". Цытую з кнігі "Луньюя" адно з запісаных вучнямі выказванняў Канфуцыя: "…Нават калі мне сустрэнуцца тры чалавекі — і ў іх, несумненна, знойдзецца чаму павучыцца. Вазьму тое, што ёсць у іх добрага, і буду гэтаму следаваць. А на тым, што ёсць у іх дрэннага, пастараюся сябе выправіць"…**

— І мяне прываблівае кітайская мудрасць. Кнігі "Удивительные истории нашего времени и древности: Избранные рассказы из сборника XVII в. «Изинь гу цигуань»", "Танские новеллы", "Эпические сказания народов южного Китая", Лі Жу-Чжэнь "Цветы в зеркале" з серыі "Літаратурныя помнікі", "Классическая поэзия Индии, Китая, Кореи, Вьетнама, Японии", "Классическая проза Дальнего Востока", "Поэзия и проза древнего Востока" з серыі "Бібліятэка сусветнай літаратуры", "Китайская пейзажная лирика III — XVI вв." (выдавецтва Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, 1984) лічу перлінамі сваёй бібліятэкі. Вельмі падабаецца паэтэса Лі Цін-Ужао, якая пасля смерці мужа, вядомага мастака-гравёра Ужао Мін-чэна, была вымушана канец жыцця правесці ў джонцы, падарожнічаючы па рэках і азёрах.

**— А на што з кітайскіх кніг вы параілі б звярнуць увагу беларускім кнігавыдаўцам?**

— Думаю, што зборнік класічнай кітайскай паэзіі ў добрых перакладах знайшоў бы сваіх прыхільнікаў сярод беларускіх чытачоў. Кніга "Кітайскі эрас" на рускай мове ў імгненне вока знікла з паліц. Мяркую, што яе пераклад на беларускую таксама не доўга ляжаў бы на паліцах кнігарань. Была б запатрабаванай і кніга "Кітайскія мудрацы" з крылатымі выразамі выбітных кітайскіх філосафаў. Кніга пра манастыр Шао Лінь і яго знакамітую школу баявых адзінаборстваў разышлася б не горш, чым гарачыя дранікі са смятанай. А яшчэ — творы дэтэктыўна-прыгодніцкага жанру з усходнім каларытам… Сам бы хацеў прачытаць добрую дакументальную кнігу пра Мао Цзэдуна. Кніга "Кітайская кухня" таксама пайшла б… Альбом кітайскага выяўленчага мастацтва (асабліва — акварэлі і тушы) сам бы набыў.

Хацелася б, каб у час развіцця дружалюбных адносін нашых народаў і літаратуры нашых краін сталі больш вядомымі сярод беларусаў і кітайцаў.

## Прэзентацыя



# Героі XIX стагоддзя

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры адчыніў дзверы для сустрэч з сучаснымі аўтарамі. Сумесна з Саюзам пісьменнікаў Беларусі тут ладзяць шматлікія мерапрыемствы, якія спрыяюць знаёмству з літаратурнымі навінкамі. У цэнтры ўвагі наведвальнікаў адной з такіх імпрэз былі кнігі, што ўбачылі свет у выдавецтве "Чатыры чвэрці".

Пра напрамкі дзейнасці выдавецтва расказала яго дырэктар Ліліяна Анцух. (Разам з СПБ выдавецтва распачало дзве новыя серыі — "Бібліятэка СПБ", у якую ўвайшлі найбольш цікавыя і таленавітыя творы сучасных аўтараў, і "Мінскія маладыя галасы".) Як паведаміў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, Мінгарвыканкам падтрымаў гэта пачынанне — 100 экзэмпляраў кожнай новай кнігі трапяць у 43 бібліятэкі сталіцы.

Прадставілі свае кнігі аўтары: Таццяна Бірчанка чытала вершы са зборніка "Нескончаемая вереница дней"; у новай якасці — празаіка — з кнігай "Белая жанчына" выступіў Дзмітрый Пятровіч і парадаваў прысутных выкананнем песень на вершы класікаў і сучасных беларускіх паэтаў; пазнаёміў з гістарычнымі апавяданнямі "Честь превыше смерти" Валерый Чудаў.

Валерый Іванавіч прысвяціў свой зборнік вяртанню памяці тых, хто складае гонар нашага народа — дзесяць мужных людзей сталі героямі апавяданняў. Беларусы па паходжанні, добра вядомыя ў XIX стагоддзі, гэтыя асобы аказаліся сёння напаўзабытымі: Іосіф Гурко, нацыянальны герой Балгарыі, генерал-фельдмаршал (а гэты чын мелі ў расійскай арміі ўсяго 64 чалавекі, і толькі 12 з іх, у тым ліку Іосіф Уладзіміравіч, — за баявыя заслугі). Удастоены вышэйшай ваенна-марской расійскай узнагароды "поўны адмірал" і адзначаны чатырма ордэнамі розных краін — Расіі, Вялікабрытаніі, Францыі і Грэцыі — Лука Багдановіч; капітан 1-га рангу Аляксандр Казарскі, помнік якому ў Севастопалі мае лаканічны надпіс: "Казарскому. Потомству в пример"; даследчык арктычных раёнаў Паўночнай Амерыкі Дзіянісій Зарэмба ды іншыя.

Валерый Чудаў збіраецца працягваць даследаванні і напісаць яшчэ не адну кнігу, каб вярнуць нашчадкам памяць пра нашых вялікіх суайчыннікаў.

# Пясецкі вяртаецца!

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**Апошнія гады пазначаныя для беларускай літаратуры адкрыццём даўно забытай асобы: нашага суайчынніка Сяргея Пясецкага. Дзякуючы намаганню выдавецтва "Рэгістр", перакладчыкаў, што супрацоўнічаюць з ім, а таксама іх калег раманы пісьменніка зноў трапілі на кніжныя паліцы.**

Канец XX стагоддзя стаўся часам паступовага вяртання ў савецкую і постсавецкую літаратурную прастору раней забароненых творцаў. Калі разглядаць беларускую сітуацыю, дык перадусім нашы суайчыннікі пазнаёміліся са спадчынай "унутраных" расійскіх эмігрантаў (Ахматавай, Цвятаевай, Мандэльштама), пасля – "знешніх" (Буніна, Набокава, Бродскага). Потым час дайшоў да айчыннай спадчыны (Сяднёў, Салавей, Геніюш). Але Сяргей Пясецкі працягваў заставацца малавядомым.

Прычыну трэба шукаць у яго біяграфіі і творчасці. Ураджэнец Ляхавіч, Пясецкі ўдзельнічаў у беларускім антысавецкім руху "Зялёны дуб", потым стаў супрацоўнікам польскай разведкі. Здзейсніўшы злачынствы, трапіў у турму, дзе і заняўся літаратурнай творчасцю. Менавіта там быў напісаны раман "Каханак Вялікай Мядзведзіцы", які прынёс Пясецкаму прызнанне (яго нават вылучалі на Нобелеўскую прэмію) і вызваленне. Але тут хаваўся падводны камень. Роднай мовай Пясецкага, безумоўна, была беларуская, бо польскую ён вывучыў толькі ў сталым узросце. Пісаць жа ён пачаў менавіта на мове нашых заходніх суседзяў. Непасрэднай падставай стаў польскамоўны конкурс, на які быў адпраўлены рукапіс "Каханка...". Аднак для такога ўчынку меліся і больш важкія прычыны. З аднаго боку, Заходняя Беларусь паводле Рыжскай дамовы тады ўваходзіла ў склад Другой Рэчы Паспалітай. З другога боку, пасля перыяду ўздыму беларускі нацыянальны рух перажываў відавочны спад. Удзел у ім не мог прынесці грашовых прыбыткаў. Таму Пясецкі, перад якім стаяла праблема выжывання, банальна далучыўся да пераможцаў. Нельга не ўлічваць і таго, што пісьменнік мог проста расчаравацца ў беларускай нацыянальнай ідэі. Нездарма "адраджэнец" прафесар В. у рамане "К чести организации" паказаны дастаткова камічна. У часы Другой сусветнай вайны Пясецкі падтрымліваў сувязь з Арміяй Краёвай. Пасля ўсталявання ў Польшчы сацыялістычнага ладу апынуўся ў эміграцыі. Памёр у 1964-м ва Уэльсе.



У сацыялістычнай Польшчы некаторыя антысавецкія творы Пясецкага былі забароненыя. У выніку большасць беларускіх перакладчыкаў атрымала да іх доступ толькі ў 1990-я гады, пасля перавыдання кніг па-польску (хоць першыя фрагменты яго спадчыны, перакладзеныя на беларускую мову, з'явіліся ў эміграцкай прэсе яшчэ ў 1950-я). У сярэдзіне 1990-х мастак Фелікс Янушкевіч увасобіў па-беларуску "Каханка Вялікай Мядзведзіцы", праз дзесяць год Алесь Астраўцоў — сатырычны раман "Запіскі афіцэра Чырвонай арміі". Нарэшце, сёлета выдавецтва "Рэгістр" прэзентавала па-руску дзве кнігі: "Человек, превращённый в волка" і "К чести организации" (пераклад Г. Бянкевіч).

Такім чынам, Пясецкі вярнуўся ў беларускую літаратурную прастору. Прычым у адрозненне ад шэрагу калег па эміграцкай нядолі, якія засталіся вядомыя хутчэй філалагічнаму асяродку, ён прэтэндуе на прызнанне куды больш шырокіх колаў. Што сталася на тое прычынай? І наогул, якую нішу заняў Пясецкі ў айчынным прыгожым пісьменстве?

Першае прачытанне твораў дазваляе лічыць іх прыкладамі прыгодніцкай літаратуры з галоўным героем-супермэнам (напрыклад, Юзаф з дылогіі, што выпусціў "Рэгістр"). Некаторыя спецыялісты нават называюць апошняга непасрэдным папярэднікам знакамітага Джэймса Бонда. Свая логіка тут, зразумела, ёсць. Галоўныя персанажы раманаў Пясецкага, як і знакаміты англічанін, працуюць на разведку ці часам супрацоўнічаюць з ёй, удзельнічаюць у рызыкоўных аперацыях, выходзяць жывымі з усіх прыгодаў. Пэўнае рамантычнае адценне дадае інтарэс герояў да жанчын і ўзаемныя пачуцці з іх боку. Менавіта таму раманы Пясецкага чытаюцца на адным дыханні, як шэдэўры са спадчыны Дзюма ці Майн Рыда.

Але згадзіцеся, дынамічны і закручаны сюжэт разам з любоўнай гісторыяй з'яўляецца складнікам шэрагу кніг, якія літаратурныя эстэты часам слушна адносяць да праяў масавай культуры. Можа, уся справа ў далікатнасці аўтара? Бо апісанне любоўных уцех часцей за ўсё перапыняецца на тых момантах, на якіх у старых савецкіх фільмах звычайна гасла святло. Адсутнасць пошласці сапраўды з'яўляецца адной з рыс, уласцівых творчасці Пясецкага. Але гэтага, безумоўна, недастаткова. На маю думку, раманы



пісьменніка адыгрываюць у сучасным беларускім грамадстве істотную ролю.

Каб патлумачыць яе, дазволю сабе невялікае адступленне. Як лічаць некаторыя навукоўцы, беларусы дагэтуль прадаўжаюць фарміравацца як нацыя. Сярод шэрагу прычын, якія прывялі да такой сітуацыі, вылучаюць наступную: разрыў паміж "ліцвінскай" спадчынай (усё створанае беларусамі да сярэдзіны XIX стагоддзя, пакуль наша саманазва была "ліцвіны") і сённяшнім днём. У выніку ў другой палове XIX стагоддзя беларусы былі вымушаныя распачынаць нацыянальны рух амаль з нуля, без апоры на мінулае. Паколькі гарадское насельніцтва ў той час з'яўлялася рускамоўным, асяроддзем нацыянальнай ідэі стала вёска. Адпаведна літаратура, якую фарміравалі выхадцы з гэтай плыні, адлюстроўвала іх светаўспрыманне і менталітэт.

Аднак паколькі беларускі рух пачаў развівацца запозненна, гарадскія, буржуазныя рысы слаба праявіліся ў жыцці і ў літаратуры. Як ні дзіўна, гэтая праблема ў прыгожым пісьменстве стала найбольш заўважнай толькі ў наш час. Працэсы ўрбанізацыі, якія пачаліся ў 1970-я гады, але канчаткова перамаглі пасля абвяшчэння Беларуссю незалежнасці, прывялі да цывілізацыйнага разрыву паміж сялянскім і гарадскім ладам жыцця і, адпаведна, паміж літаратурнымі творамі, якія іх адлюстроўвалі. У выніку шэраг цяперашніх чытачоў не цікавяцца літаратурай першай паловы XX стагоддзя: не з-за яе ўзроўню, а таму, што адлюстраваныя там сялянскія рэаліі з'яўляюцца для іх не зусім зразумелымі, нават чужымі і міжволі звязваюцца з праявамі савецкага жыцця.

Між тым, той час з'яўляецца для беларусаў на дзіва істотным. У 1920-я гады (а ў Заходняй Беларусі — і ў 1930-я) беларуская нацыянальная ідэя, тэарэтычна сфарміраваная ў пачатку стагоддзя падчас "нашаніўскага адраджэння", знайшла свой водгук у масах. Менавіта ў 1920-я гады беларускі рух атрымаў прыкметныя перамогі і развіваўся досыць імкліва. На вялікі жаль, айчынная літаратура таго перыяду не заўсёды спраўлялася з прадстаўленнем гэтага перыяду для шырокай аўдыторыі. Якое выйсце міжволі прапанаваў у сваіх творах Пясецкі?

Як адзначалася вышэй, пісьменнікі міжваеннага перыяду, выхадцы з сялянскага асяроддзя, не хацелі, ды і, відаць, не заўсёды маглі, зрабіць акцэнт на гарадскім жыцці, у якім амаль адсутнічалі праявы беларускасці. Стаўка на аўтараў з іншых краін ці на творы, напісаныя на іншай мове, магла перашкодзіць развіццю нацыянальнай ідэі, паколькі насельніцтва гарадоў часам нават не адносіла сябе да карэннай нацыянальнасці. Але цяпер сітуацыя змянілася. Таму дзеля сучасных чытачоў мы павінны зрабіць стаўку на творы таго часу з апорай на гарадскі ўклад і погляды, якія не супярэчаць нацыянальнай ідэі і нават "гуляюць" на яе карысць. Раманы Пясецкага адпавядаюць такім патрабаванням.

Па-першае, дзякуючы прыгодніцкім і дэтэктыўным элементам яны прыцягваюць увагу масавай аўдыторыі. Па-другое, кампенсуюць недахоп, а часам і адсутнасць гарадскіх раманаў пра перыяд паміж дзвюма сусветнымі войнамі. Дзякуючы ўвазе Пясецкага да дэталяў, а таксама відавочнай здольнасці ў перадачы атмасферы паўсядзённага жыцця, у пісьменніка атрымалася адлюстраваць гарадскія рэаліі. А таксама пераканаўча паказаць, што ў Беларусі, насуперак міфам, існавала гарадская культура і гарадская цывілізацыя. Гэтым ходам Пясецкі даказаў адсутнасць савецкай наканаванасці ў лёсе краіны.

Што да раманаў "Человек, превращённый в волка" і "К чести организации", дзеянне якіх адбываецца ў Вільні падчас нямецкай акупацыі, дык яны таксама прэтэндуюць на статус гістарычных твораў. Прычына ў тым, што чытач бачыць праявы будзённага жыцця і паступова падводзіцца да асэнсавання вайны як глабальнай чалавечай трагедыі.

Нарэшце, надзвычай істотным момантам з'яўляецца шанцаванне герояў пісьменніка, якія перамагаюць ва ўсіх перыпетыях. Менавіта такія героі надзвычай патрэбныя беларускай літаратуры. Можа, іх перамогі натхняць чытачоў на ўласныя подзвігі?

## На паліцы

Васіль СНУСЦІК

# Адлюстраванні жыцця

Навум Гальпяровіч — знаны беларускі паэт, аўтар многіх вершаваных зборнікаў. Невыпадковай падаецца і другая па ліку яго празаічная кніга — "На трапяткім агні". Сабраўшы разам навелы, эсэ і нарысы, паэт акрэсліў перад чытачом сваю жыццёвую прастору.

А пачынаецца кніга нарысам "Палата", прысвечаным роднай рацэ пісьменніка. Спачатку гэта насцярожвае. Занадта прыватным падаецца расповед: "У кожнага ёсць свая рэчка. Як у кожнага полацкага мальца свой Полацк. Памятаю, я сказаў гэта аднойчы, прачытаўшы кнігу земляка-літаратара. Яму паслужліва перадалі гэта невядома ў якой інтэрпрэтацыі, і ён пакрыўдзіўся. Нават у інтэрв'ю сказаў, што мы хоць і нарадзіліся з ім у адным радзільным доме, ды калі кошка нарадзіла сваіх кацянят у печы, то гэта не значыць, што ўсе яны — піражкі. Я дарую яму, бо ён усё-такі любіць не толькі свой, але і мой, наш родны горад, які вышэй за ўсе спрэчкі і звады, бо ён — Полацк. І ёсць рэчачка Палата — зусім не такая магутная і велічная, як Дзвіна, але ж дарагая і блізкая майму сэрцу, як маці або каханая..."



Але ўчытваешся далей у развагі пра Палату, бярэш на сябе кавалачак чужога захаплення далёкай і яшчэ не адкрытай табою ракой. Нарыс кранае душу, робіць слова рэльефным і настолькі пераканаўчым, што змесцу становіцца цесна на трох старонках, а просты аповед набывае магічную сілу, уражвае кожным кароткім эпізодам. Як вось і гэтым, што лёг у канцоўку "Палаты": «На берегах Полоты я ещё был молодым» — напісаў аднойчы вядомы маскоўскі паэт і перакладчык Рыгор Куранёў. Яго паэма "Палата" пабачыла свет у адным з тоўстых часопісаў, друкавалася ў яго кніжках. Паэт быў сярод тых салдат, што вызвалялі Полацк ад фашысцкіх акупантаў у 1944-м. І так наша рэчка запала яму ў душу, што праз шмат гадоў, паміраючы ў роднай Маскве, ён завяшчаў жонцы і сыну развеяць яго прах у Полацку над Палатой. <...>

Прах мы развеялі з вісячага мастка за царкаўкай святой Еўфрасінні. Тая падзея мяне вельмі кранула: трэба ж, якую ролю адыграла Палата ў лёсе далёкага маскоўскага чалавека!..

Сёння тая чыстая і светлая рэчка ўсё больш ператвараецца ў неглыбокі засмечаны ручай. Сучасныя адносіны да прыроды прыносяць свой вынік. А мне так хочацца, каб яна ўсё ж не знікла назаўсёды, бо без яе Полацк — не Полацк. І я — не я. Так што, жыві, Палата!.."

Знаёмства з радзімай, роднай рэчкай пісьменніка, афарбаванае мяккім лірызмам, задало настрой, стварыла атмасферу прысутнасці сярод сонца і цеплыні. Расказваючы пра бацькоў і сяброў, пра тое, як адкрываўся для яго свет літаратуры і ўвогуле само жыццё, Навум Гальпяровіч разважае пра многія важкія рэчы, выбудоўвае мастацкія сімвалы, якія з яго аповеду пераходзяць у чытацкую свядомасць. Дакументальнае пераплятаецца з мастацкім, выяўляецца, прыцягвае пэўны код асабістага даверу.

...І ўжо пасля прачытання кнігі "На трапяткім агні" згадалася брылёўскае перакананне: "Раманісту лягчэй, здаецца, схаваць сваё "я", чым апавядальніку. У другім выпадку на "я", на асобе аўтара, на яго духоўнай сутнасці і трымаецца твор. Гэта — калі параўноўваць "чыстую белетрыстыку" і «лірычную прозу»".

**Кнігу можна набыць:**
- у РВУ "Літаратура і Мастацтва" (вул. Захарава, 19);
- у краме № 13 "Белсаюздруку" (падземны пераход ля станцыі метро "Плошча Перамогі");
- у краме "Кніжны салон" (вул. Калініна, 5);
- у крамах ААТ "Белкніга".

# Девочка — супер: эрудит!

Юзефа ВОЛК

**Каким критериям должна соответствовать юная особа, чтобы её можно было назвать “супердевочкой”? Всё не так и сложно. Она должна быть красивой, умной, с хорошим вкусом, вести здоровый образ жизни, заниматься спортом. И если красота — скорее врождённое достоинство, которое можно лишь подчеркнуть, то остальные качества и привычки можно развить с помощью правильных книг.**



Например, полезным в этом отношении будет издание **Валентины Дмитриевой “Стань супердевочкой”.** Автор подскажет, как научиться следить за собой и быть привлекательной, как справиться с отрицательными чертами характера, стать общительной. Специальные тесты, включённые в книгу, помогут лучше понять себя и окружающих, определить, какие черты характера помогают, а какие мешают стать настоящей супердевочкой. А ещё здесь есть гадания! Все девочки любят гадать. Конечно, к этому не нужно относиться серьёзно, это скорее игра, которая поможет развлечься, а заодно и узнать — кто из мальчиков влюблён в тебя.

А вот для того, чтобы стать умной, только этой книги будет мало. Тут нужно более солидное издание, например, **“Большая детская энциклопедия для девочек”**. Она состоит из нескольких разделов: “Самые красивые места мира”, “Чудеса природы”, “Тайны моря”, “Магия и волшебство”, “НЛО”, “Путешественники”, “Знаменитые женщины”. Издание предназначено для чтения взрослыми детям, поэтому с информацией, содержащейся в энциклопедии, будет интересно ознакомиться и родителям читательниц. Например, многие знают историю о Лжедмитрие, но не всем знакомо имя Лжеанастасия. “17 февраля 1920 года в берлинскую Елизаветинскую больницу доставили миловидную бедно одетую женщину. Дежуривший возле канала Ландвер полицейский вытащил её из воды — женщина пыталась покончить с собой. Она производила впечатление помешанной, на вопросы не отвечала… Позже призналась, что является дочерью императора Николая II, великой княжной Анастасией”. Что было дальше и почему её всё-таки считают Лжеанастасией — в книге.



**“Энциклопедия эрудита”** полезная не только девочкам, но и мальчикам. Каждая страница — яркая и красочная, с прекрасными иллюстрациями, содержит много познавательной информации. К примеру, о том, что 15-сантиметровый пустынный волосатый скорпион — самый крупный в Северной Америке. Он ловит и удерживает жертву сильными клешнями, а ударом жала на конце брюшка вводит смертельный яд. И о том, что кожа некоторых ярких лягушек-древолазов содержит достаточно яда, чтобы убить любое животное, решившее попробовать их на вкус.



Несомненно, интересными для юных читателей будут сведения о том, как строили замки в средневековье, какие из них считались идеальными, как работал подъёмный мост, для чего был нужен водный барьер и в каких частях замка можно было жить.

Познакомит энциклопедия и с особенностями строения человеческого организма: скелетом, мышцами, внутренними органами, кругами кровообращения.

# С верой в сердце

**Любовь к Богу нужно прививать ребёнку с самого детства. Поскольку именно в этом возрасте он учится отличать Добро от Зла, хорошее от плохого, друзей от врагов, любовь от ненависти. Однако часто бывает так, что родители не могут ответить на все вопросы малыша. Например, объяснить, кто такой Бог. И ответить на главный и очень непростой вопрос, который обычно возникает у детей в самом раннем возрасте: если его не видно, то зачем в него верить? Зачем нужно молиться? И существует ли Бог вообще?**

Екатерина БЕДУЛИНА

Но ведь если есть книга, то она написана не просто так. И если мы живём — то тоже не просто так. Это предстоит объяснить малышу, и вас не должно пугать, что он многое может не понять.

**“Евангелие для самых маленьких”** и **“Библия для детей”** разовьют в ребёнке чувства искренности, добра и чистоты. Это не только полезный источник духовной информации, но и “протянутая рука”: ведь именно в трудную минуту, когда нет поддержки близких и друзей, когда ребёнок остаётся один на один со своим страхом либо проблемой, он, как правило, обращается к Богу.





В “Евангелии для самых маленьких” ребёнок познакомится с жизнью Иисуса Христа. В издании рассказывается о том, как Бог послал Своего Сына на землю, чтобы спасти всех людей, научить их жить, не совершая плохих поступков. Сын Божий исцелял больных, давал мудрые советы, помогал найти выход из безвыходного положения, наставлял на путь истинный. Но люди казнили его самой страшной казнью, придуманной в древности, — распяли на кресте. Однако Христос воскрес из мёртвых и доказал всем, что даже смерть можно победить, если в сердце живут Любовь и Вера.

Всего Евангелий четыре. Их написали ученики Христа — святые апостолы Марк, Иоанн, Лука и Матфей, повествования которых дополняют друг друга. В книге много интересных иллюстраций, которые расскажут (и покажут), как выглядели люди два тысячелетия назад. Особое внимание стоит обратить на картинки с подписями, на них — некоторые события, не описанные в книге.

“Библия для детей” — священная история в рассказах для чтения в школе и дома. В основу книги положено издание 1896 года, составителем которого был протоиерей Александр Соколов. Как телу необходима пища, как крыльям — воздух и свобода, как растению — вода, так и душе — Слово Божие, чтобы жить с верой.

Чтение священной истории в простых и увлекательных рассказах — прекрасное занятие для вашего ребёнка.





## Трудно быть котом

Денис МАРТИНОВИЧ

Представьте, что вчера вечером “Барселона” неожиданно проиграла мадридскому “Реалу”. Но вы не смогли увидеть это событие, поскольку приехавшая тёща решила посмотреть сериал “Сваты”. Рано утром у вас не сработал будильник. Вы ушли из дома на пустой желудок, ведь ваша жена, которая считает калории и никогда не ест после шести вечера, дождалась полуночи и с аппетитом позавтракала. Из-под носа ушла “маршрутка”. Знакомый писатель скупил в киоске все экземпляры газеты “Літаратура і мастацтва”. А коллега в платье с глубоким декольте даже не посмотрела в вашу сторону.

Стоит ли говорить о том, что после таких глобальных потрясений жизнь котов воспринимается как сущее развлечение. Ешь рыбу, заедай её сметаной, запивай молоком и жди марта. Но даже в жизни котов есть место подвигу. Не верите? Тогда я расскажу биографию одного моего когтисто-хвостатого знакомого.

Прожив пять лет у старого хозяина, он попал по распределению к его младшему сыну. Поскольку тот не нуждался в молодом специалисте и хотел съесть героя, кот решил наладить собственный бизнес. Прогуляв курсы повышения квалификации, без государственной лицензии, наладил за два месяца ежедневную добычу кроликов и куропаток. И сумел стать официальным поставщиком двора, не получив при этом даже льготного налогообложения. Потом инициировал ограбление и покушение на своего патрона, заманив на место происшествия представителей компетентных органов. Не имея опыта участия в передаче “Давай поженимся”, организовал знакомство своего хозяина с дочерью главы государства. Не владея ни одним ваучером, приватизировал луга и поля, принадлежащие местному олигарху по кличке Людоед. Войдя в доверие к последнему, попросил его принять участие в съёмках передачи “В мире животных”... Это был “Кот в сапогах” Шарля Перро. Переключайтесь на нас!

# Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих специальное разрешение (лицензию) на осуществление издательской деятельности, по состоянию на 15 декабря 2011 года

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учётный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Срок действия лицензии | Составляющие издательской деятельности: по тематическим направлениям |
|---|---|---|---|---|---|
| ООО «Медиагруппа АРТ Престиж» | 223051, Минский р-н, п. Колодищи, ул. Молокович М.Ф., д. 30, к. 12 | 690023995 | 02330/0150181, выд. 13.02.2008 № 22 | 13.02.2013 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ЧУП «ТРАСКО» | 220037, г. Минск, 2-ой пер. Багратиона, д. 17, кв. 257 | 101311292 | 02330/0150293, выд. 13.02.2008 № 22 | 13.02.2013 | издание для досуга |
| ООО «Рекламное агентство Андрея Горшунова» | 220013, г. Минск, ул. П. Бровки, дом 8А, пом.13 | 190526364 | 02330/0150182, выд. 13.02.2008 № 22 | 13.02.2013 | справочное, издание для досуга |
| ООО «Росчерк» | 220037, г. Минск, ул. Авангардная, д. 48а, цок. этаж, литер 8/к | 101254783 | 02330/0150183, выд. 13.02.2008 № 22 | 13.02.2013 | научно-популярное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ИЧУП «Голиафы» | 220039, г. Минск, ул. Брилевская, д. 11, кв. 44 | 190883852 | 02330/0150300, выд. 08.04.2008 № 50 | 08.04.2013 | научно-популярное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ЧУП «Медведев Медиа Групп» | 222120, г. Борисов, ул. Чапаева, 3, к. 4 | 690450276 | 02330/0150236, выд. 08.04.2008 № 50 | 08.04.2013 | справочное |
| ООО «Амедея» | 211389, Витебская обл., г. Орша, ул. Могилёвская, д. 85А, комн. 1 | 390467962 | 02330/0150350, выд. 08.04.2008 № 50 | 08.04.2013 | справочное, издание для досуга |
| ООО «АРС КОММЮНИКЕЙШНЗ» | 220000, г. Минск, ул. Чкалова, 12, к. 425а | 190919521 | 02330/0150240, выд. 08.04.2008 № 50 | 08.04.2013 | справочное, издание для досуга |
| ОДО «БелМедиаПринт» | г. Гродно, ул. Доватора, 8 | 590665537 | 02330/0150241, выд. 08.04.2008 № 50 | 08.04.2013 | справочное, издание для досуга |
| ЧУП «НЭП Техно» | 220025, г. Минск, ул. Дружбы, д. 50 | 190915937 | 02330/0150242, выд. 08.04.2008 № 50 | 08.04.2013 | научно-популярное |
| ООО «СГА консультант» | 220013, г. Минск, ул. Кульман, 2, к. 409 | 190717890 | 02330/0150243, выд. 08.04.2008 № 50 | 08.04.2013 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ЧПУП «Вентера» | 220037, Минск, пер. Козлова, д. 7, пом. 24, комн. 10 | 190875958 | 02330/0150244, выд. 08.04.2008 № 50 | 08.04.2013 | научно-популярное, справочное, издание для досуга |
| ООО «ВРАТА» | 220099, Минск, ул. Брестская, д. 34, комн. 34 | 190901771 | 02330/0150259, выд. 08.04.2008 № 50 | 08.04.2013 | научно-популярное, литературно-художественное, духовно-просветительное |
| ООО «ОНИГС» | 223044, Минский р-н, д. Вишневка, ул. Центральная, д. 1А, комн. 21Б | 1903232696 | 02330/0150260, выд. 08.04.2008 № 50 | 08.04.2013 | справочное |
| ООО «Альтамиргрупп» | 220009, г. Минск, ул. Чеботарева, 2/4, комн. 26 | 190821994 | 02330/0150256, выд. 08.04.2008 № 50 | 08.04.2013 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ООО «Компания «РОСНА» | 220012, г. Минск, ул. Сурганова, д. 2, пом. 43 | 190958627 | 02330/0150258, выд. 08.04.2008 № 50 | 08.04.2013 | справочное |
| УО «Академия Министерства внутренних дел Республики Беларусь» | 220005, г. Минск, пр. Машерова, 6 | 100926541 | 02330/0150245, выд. 08.04.2008 № 50 | 08.04.2013 | научное, научно-популярное, учебное, справочное |
| Учреждение «Республиканский центр сертификации и экспертизы лицензируемых видов деятельности» Министерства по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь | 220088, г. Минск, ул. Захарова, 73а, каб. 208 | 190212983 | 02330/0552689, выд. 03.05.2008 № 61 | 03.05.2013 | официальное, научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное, издание для досуга |
| ЧУП «ГлобусМедиа» | 230023, г. Гродно, ул. Виленская, 1 | 590790232 | 02330/0150276, выд. 03.05.2008 № 61 | 03.05.2013 | справочное |
| ЗАО «ЮНИПАК» | 220073, г. Минск, ул. Бирюзова, д. 4, комн. 2 | 101009573 | 02330/0150278, выд. 03.05.2008 № 61 | 03.05.2013 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ИУ «ЖИЗНЬ» | 220013, г. Минск, ул. Кульман, д. 2, комн. 426 | 190851099 | 02330/0150272, выд. 03.05.2008 № 61 | 03.05.2013 | духовно-просветительное, издание для досуга |
| ООО «СМЭЛТОК» | 220046, г. Минск, ул. Радиальная, д. 36, комн. 102 | 101190580 | 02330/0494046, выд. 03.05.2008 № 61 | 03.05.2013 | научно-популярное, производственно-практическое, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ООО «Мон литера» | 220075, г. Минск, пр. Партизанский, д. 178, оф. 501 | 190998440 | 02330/0150287, выд. 11.06.2008 № 67 | 11.06.2013 | научно-популярное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ЧПУП «Профессиональное издательство» | 220040, г. Минск, ул. М. Богдановича, 153-507 | 190482310 | 02330/0150291, выд. 11.06.2008 № 67 | 11.06.2013 | производственно-практическое, справочное |
| ОДО «Равноденствие» | 220029, г. Минск, ул. Киселева, д. 47, комн. 3 | 190421632 | 02330/0552640, выд. 11.06.2008 № 67 | 11.06.2013 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| ООО «Кактус групп» | 212030, г. Могилёв, пер. 2-ой Крутой, д. 5 | 790486419 | 02330/0150286, выд. 11.06.2008 № 67 | 11.06.2013 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ГУО «Минский городской институт развития образования» | 220034, г. Минск, пер. Броневой, 15а | 190253563 | 02330/0150322, выд. 09.07.2008 № 81 | 09.07.2013 | научное, учебное, справочное |
| ОДО «ФилТВ» | 246017, г. Гомель, ул. Красноармейская, д. 5а, 3 этаж | 400416832 | 02330/0552910, выд. 09.07.2008 № 81 | 09.07.2013 | издание для досуга |
| ЧИУП «Редакция журнала «Планета» | 220114, г. Минск, ул. Ф. Скорины, 4, к. 110 | 100055526 | 02330/0150315, выд. 09.07.2008 № 81 | 09.07.2013 | справочное, издание для досуга |
| ЧИПУП «Дело (Восток+Запад)» | 220002, г. Минск, ул. Сторожевская, д. 8, кв. 94 | 100055526 | 02330/0150312, выд. 09.07.2008 № 81 | 09.07.2013 | производственно-практическое, справочное |
| ООО «Спейс-График» | 246027, г. Гомель, ул. Барыкина, 153 | 400284089 | 02330/0552992, выд. 09.07.2008 № 81 | 09.07.2013 | издание для досуга |
| ООО «Магия света» | 220040, г. Минск, ул. Некрасова, 11/34, каб. 2 | 100231967 | 02330/0150311, выд. 09.07.2008 № 81 | 09.07.2013 | издание для досуга |
| ЧПТУП «Издательство Дмитрия Харченко» | 220019, г. Минск, ул. Горецкого, д. 7, корп. 2, кв. 40 | 191026614 | 02330/0150324, выд. 09.07.2008 № 81 | 09.07.2013 | духовно-просветительное, литературно-художественное, научно-популярное, издание для досуга |
| ЧИУП «КапиталМедиаГрупп» | 220021, г. Минск, пер. Бехтерева, 10, комн. 1403 | 190858925 | 02330/0494327, выд. 09.07.2008 № 81 | 09.07.2013 | официальное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| ЗАО «Инфопарк-проект» | 220030, г. Минск, ул. Революционная, д. 11, комн. 305 | 190951913 | 02330/0150330, выд. 09.07.2008 № 81 | 09.07.2013 | справочное |
| РУП «ГИВЦ Минсельхозпрода» | 220002, г. Минск, ул. Кропоткина, 44, к. 1008 | 100085228 | 02330/0150357, выд. 05.09.2008 № 103 | 05.09.2013 | научное, производственно-практическое, справочное |
| ЗАО «Открытый Медиа Проект» | 220035, г. Минск, ул. Тимирязева, 65Б, пом. 98, комн. 708Б | 190894026 | 02330/0150335, выд. 05.09.2008 № 103 | 05.09.2013 | справочное |
| ЧПУП «ИВ-Инфо» | 212030, г. Могилёв, ул. Первомайская, д. 89, оф. 46, ф-л: г. Витебск, пр. Фрунзе, 81, корп. 33, пом. 202 П | 790599469 | 02330/0003908, выд. 05.09.2008 № 103 | 05.09.2013 | справочное |
| ОАО «Белорусская универсальная товарная биржа» | 220029, г. Минск, ул. Казинца, д. 2, комн. 200 | 190542056 | 02330/0150336, выд. 05.09.2008 № 103 | 05.09.2013 | производственно-практическое, справочное |
| ООО «Полиграфика» | 224007, г. Брест, ул. Стафеева, 21 | 290447125 | 02330/0552848, выд. 05.09.2008 № 103 | 05.09.2013 | научно-популярное, производственно-практическое, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ООО «МКФ-плюс» | 223710, г. Солигорск, ул. Набережная, д. 13, комн. 1 | 690641733 | 02330/0150344, выд. 05.09.2008 № 103 | 05.09.2013 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ИП Шиманская С.С. | 220064, г. Минск, ул. Ландера, д. 46, кв. 113 | 191028461 | 02330/0150346, выд. 05.09.2008 № 103 | 05.09.2013 | научно-популярное, производственно-практическое |
| ГУ «Редакция газеты «Слава працы» и программы радиовещания «Раніца Капыльшчыны» | 223910, Минская обл., г. Копыль, ул. Тракторная, 2а | 600068120 | 02330/0150340, выд. 05.09.2008 № 103 | 05.09.2013 | справочное |

# Мастак, гісторык, педагог

Галія ФАТЫХАВА

**Персанальную выстаўку Святаслава Федарэнкі наладзіла Крупская карцінная галерэя. Мастацтва жывапісца прадстаўлена творамі розных гадоў і розных жанраў.**

Бацька жывапісца, вядомы магілёўскі мастак Мікалай Міхайлавіч Федарэнка, якога Святаслаў лічыць сваім першым настаўнікам у прафесіі, прайшоў вайну, удзельнічаў у вызваленні беларускіх гарадоў і цэлых раёнаў. Ён шмат расказваў сыну пра падзеі ўжо далёкіх часоў, вось чаму той нямала сваіх работ прысвяціў тэме Вялікай Айчыннай. Дарэчы, многія з іх знаходзяцца ў музеях Беларусі. А ў Крупскай карціннай галерэі творам Святаслава Федарэнкі, сюжэтна звязаным з ваеннай тэматыкай, адвялі цэлую залу, і гэтую частку сваёй персанальнай выстаўкі ён прысвяціў усім, хто загінуў і хто выжыў у той вайне, а таксама маладому пакаленню, якое не павінна забывацца пра герaічнае мінулае сваіх продкаў.

Адразу ж звяртае на сябе ўвагу і зместам, і кампазіцыяй жывапіснае палатно "Гераічны Мажайскі дэсант". Перш чым брацца за працу над гэтай карцінай, мастак прачытаў шмат матэрыялаў пра абарону Масквы, вывучаў дакументы ў архівах. У трагічныя дні 1941-га калона фашысцкіх танкаў прарывалася да савецкай сталіцы. Маршал Жукаў паставіў ворага перад накіраваным супраць ворага палком абаронцаў-добраахвотнікаў задачу, выканаць якую яны маглі толькі цаною ўласнага жыцця. І на подступах да Масквы разгарнулася вялікая бітва. Гітлераўскія танкі ды бронетранспарцёры рухаліся па заснежаным полі. Здавалася, іх перамога была ўжо побач. Ды нечакана над лесам праляцелі самалёты з чырвонымі зоркамі на крылах. Яны так набліжаліся да зямлі, быццам хацелі зрабіць пасадку, хаця пад імі былі яры і дрэвы. Самалёты ляцелі, а з іх без парашутаў выскоквалі са зброяй у руках бясстрашныя вояры ў белых кажухах. Ужо з самалёта адкрывалі агонь па ворагу. Такога дэсанту ў гісторыі чалавецтва не было. Людзі падалі з вышыні 20 метраў на замерзлую зямлю пры хуткасці самалёта 120 км у гадзіну. Салдаты, якія трымалі пры сабе цяжкую зброю, загінулі адразу пры падзенні. Тыя, хто застаўся жывы, з гранатамі кінуліся пад танкі — у няроўны бой з ворагам. Немцы не адразу зразумелі, што іх атакуюць. Атакуюць насуперак усялякай логіцы і законам фізікі! Гітлераўскіх салдат было разоў у 10 больш. Першы дэсант быў цалкам вынішчаны, і фашысты працягвалі рушыць на Маскву. Ды зноў у небе з'явіліся савецкія самалёты, і зноў, абвязаныя гранатамі, кідаліся пад танкі нашы салдаты. Так паўталаралася, пакуль ад калоны акупантаў не засталося толькі два бронетранспарцёры, якія павярнулі ад Масквы. Загінулі амаль усе дэсантнікі. Прачытаўшы пра іх подзвіг, уражаны мастак, які сам не ведаў вайны, узяўся за нялёгкую працу...

У экспазіцыю ўвайшла і карціна, прысвечаная Янку Купалу. Святаслаў Федарэнка напісаў некалькі яе варыянтаў. Як вядома, Янка Купала, апынуўшыся падчас вайны ў Маскве, актыўна далучыўся да ўсенароднай барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Выступаў на антыфашысцкіх мітынгах. Стварыў верш "Беларускім партызанам", які хутка быў распаўсюджаны праз друк. Паэт не прапускаў ніводнага дзяжурства падчас варожых авіяналётаў на Маскву, хаця дужа баяўся вышыні: штодня ўзнімаўся на дах і скідваў адтуль фугасы… А неўзабаве трагічна загінуў у гасцініцы "Масква".

Так ці інакш тэма вайны гучыць у многіх маштабных сюжэтных кампазіцыях мастака: "На прыступках гісторыі", "Контррэфармацыя і Францыск Скарына", "За нашу і вашу свабоду. А. Міцкевіч і Дж. Гарыбальдзі" ды іншых. Усе яго творы выкананыя ў рэалістычнай манеры, каларыстычныя, вобразна выразныя, публіцыстычна завостраныя, адметныя аўтарскімі знаходкамі. Уражваюць лаканічнасць і псіхалагізм у абмалёўцы персанажаў, мантажнасць кампазіцыйных вырашэнняў.

У гістарычных эпізодах С. Федарэнка імкнецца знайсці адбітак сучасных з'яў і сродкамі жывапісу даць ім сваё эмацыянальнае вызначэнне. Гэта вынік таго, што ён шмат і ўдумліва чытае, супастаўляе, даследуе. З 1972 года выкладае ў Мінскім дзяржаўным мастацкім каледжы і падрыхтаваў не адзін дзясятак мастакоў, вядомых цяпер не толькі ў Беларусі. Сярод яго ўдзячных выхаванцаў Рыгор Сітніца, Алена Аракчэева, Андрэй Басалыга, Андрэй Савіч, Андрэй Смаляк... Пералік вялікі, і гэта, прызнаецца Святаслаў Мікалаевіч, галоўнае для яго.



*Аўтапартрэт Святаслава Федарэнкі.*

У другой зале персанальнай выстаўкі — жаночыя партрэты. Іх шмат, усе вельмі розныя і адметныя. Сярод іх і выявы вядомых у Беларусі асоб, і асабліва дарагіх мастаку, родных людзей.

Апроч сюжэтна-тэматычных карцін і партрэтаў, Святаславам Федарэнкам напісана шмат пейзажаў. Творы яго знаходзяцца ў музеях Вялікабрытаніі, Галандыі, Германіі, ЗША, Італіі, Швейцарыі, у многіх іншых краінах свету. А ён марыць аб'ехаць родную краіну з выстаўкай "Духоўнае мастацтва — малым гарадам Беларусі", каб як мага шырэй паказаць свае творы землякам.



*Жывапіснае палатно "1942. Янка Купала ў Маскве".*

# Ці будзе прытулак для… спадчыны?

Марына ПЯТРОВА, рэдактар літаратурна-драматычнай часткі НАДТ імя Якуба Коласа

На працягу амаль двух месяцаў у Віцебскім абласным краязнаўчым музеі экспанавалася выстаўка "Тэатр гаворыць пра сябе", прысвечаная 85-годдзю з дня заснавання Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. Сюды наведваліся людзі невыпадковыя: тыя, каму было што прыгадаць з уласнага досведу шчыльнага знаёмства з тэатрам і яго найлепшымі прадстаўнікамі, а таксама тыя, хто здаўна адчуваў недахоп інфармацыі пра развіццё тэатральнага мастацтва Віцебска і прагнуў запоўніць белыя плямы. У зале музея не ставала месца для ўсіх ахвочых трапіць на вечарыну закрыцця выстаўкі, дзе, дарэчы, многія з абгрунтаванай упэўненасцю гаварылі пра неабходнасць стварэння музея Коласаўскага тэатра.

Дзесяць гадоў спатрэбілася народнай артыстцы Беларусі Святлане Акружной, ініцыятару правядзення выстаўкі "Тэатр гаворыць пра сябе", каб сабраць, безумоўна, цікавыя экспанаты. Касцюмы, афішы, фотаздымкі, асабістыя рэчы акцёраў без каментараў распавялі пра незвычайны, часам складаны і заўжды поўны творчага памкнення шлях Другога беларускага нацыянальнага тэатра. Арганізатарам выстаўкі выступіў Віцебскі абласны краязнаўчы музей у асобе Святланы Казловай, якая займалася падрыхтоўкай самой экспазіцыі.

Не трапіўшы сюды, віцябляне, можа, ніколі і не даведаліся б, што агульнае паміж тэатрам імя Якуба Коласа і неатампліерамі, якое дачыненне да тэатра мае "дом спецыялістаў" на вуліцы Даватара, чым застаўся Коласаўскі тэатр в ўспамінах Стэфаніі Станюты і як раней на тэатральнай пляцоўцы ладзіўся сапраўдны баль-маскарад… Доктар мастацтвазнаўства Тацццяна Катовіч разважала пра тое, што значыць быць артыстам да апошняй клеткачі скуры, а таксама прэзентавала арганізатарам выстаўкі сваю новую кнігу "Сцэнаграфія. Віцебск", якая з'явілася своеасаблівым тэарэтычным падмацаваннем матэрыяльнаму напаўненню выстаўкі.

На імпрэзу ў музей завітала і былы начальнік упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама Галіна Клёсава — чалавек, як ніхто іншы дасведчаны ў справе пошуку памяшканняў для культурных устаноў, якім не знайшлося прытулку. Будынак пад бібліятэку імя Леніна быў абраны дзякуючы яе намаганням. Гэтая надзвычай энергічная жанчына, якая адпрацавала ў сферы культуры больш як 50 гадоў, перакананая, што тэатр даўно заслугоўвае асобнага памяшкання пад свой музей і што яно абавязкова знойдзецца — магчыма, у выглядзе кватэры ў "доме спецыялістаў", дзе ў свой час жылі многія выбітныя артысты-коласаўцы.

Краязнаўца Аркадзь Падліпскі прыгадаў шэраг гісторый з уласнага жыцця, якое ўжо доўгі час злучанае з тэатрам. Архівіст Тацццяна Цаль паведаміла, што ўжо існуюць сабраныя сямейныя фонды знакамітых коласаўцаў: напрыклад, багаты сямейны фонд А. Радзялоўскай, Г. Маркінай, З. Канапелькі, Я. Буракова, Ф. Шмакава. Яны таксама маглі б скласці добрую частку будучай пастаяннай музейнай экспазіцыі.

Успаміны пра тэатр ядналі гасцей выстаўкі. Пранікнёным і вельмі шчырым атрымалася выступленне Наталлі Лагуновай, пляменніцы Зінаіды Канапелькі: любоў і пяшчота насычала кожнае слова жанчыны, надзвычай падобнай да сваёй знакамітай цёткі. Уяўлялася чароўная постаць актрысы, якою захаплялася не адно пакаленне жыхароў Віцебска і ўсёй краіны.

Ад імя адданых коласаўскаму тэатру гледачоў сваімі думкамі падзялілася Раіса Спачыньска. Колішняя ўдзельніца драмгуртка, зладжанага артысткай коласаўскай трупы Ганнай Рыжковай, яна памятае часы, калі тэатр знаходзіўся яшчэ "за Дзвіной" і дабірацца да яго гледачам даводзілася на пароме, бо мост тады толькі адналяўся. Але вялікім шчасцем было для маладзенькай дзяўчыны Раісы патрапіць на гэты паром у час, калі коласаўцы ехалі на рэпетыцыю і займець такім чынам магчымасць паназіраць за вялікімі людзьмі такой загадкавай і прываблівай прафесіі…

Вечарына атрымалася надзвычай насычаная на эмоцыі ды згадкі. У адным сышліся ўсе: тэатру неабходны свой музей. Матэрыялы ўжо сабраныя і гатовыя для дэманстрацыі, застаецца толькі адно: знайсці для іх сталы прытулак.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Першыя за сваю гісторыю гастролі ў Японіі распачаў адзін з вядучых філарманічных калектываў Беларусі — Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр. Прэстыжная прапанова наладзіць творчыя стасункі паступіла ў Беларускую дзяржаўную філармонію з Краіны узыходзячага сонца больш як год таму. І сёлета пры канцы лютага знакаміты японскі дырыжор, спадарыня Тамомі Нішымота, наведаўшыся ў Мінск, выступіла з беларускім аркестрам і прадставіла сваю інтэрпрэтацыю 1-й сімфоніі Я. Брамса ды "Іспанскага капрычыа" М. Рымскага-Корсакава. Цяпер такія сумесныя канцэрты ладзяцца на яе радзіме. У 25-дзённае гастрольнае турнэ па буйных гарадах Японіі нашы аркестранты выправіліся на чале з мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам Аляксандрам Анісімавым, які прадставіць выканальніцкае мастацтва нашай краіны ў праграмах з музыкай А. Дворжака і П. Чайкоўскага.

Гісторыю і развіццё беларускага нацыянальнага сцэнічнага мастацтва немагчыма сабе ўявіць без купалаўскай драматургіі ды паэтычнай творчасці песняра. Купалава слова і сёння годна, суладна часу, гучыць з тэатральных падмосткаў. І не толькі ў тэатральных спектаклях. Пра гэта, прынамсі, нагадала нядаўняя імпрэза, праведзеная Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы ў межах грамадска-культурнай акцыі "Чытаем Купалу разам". Удзел у ёй узялі акцёры Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага, Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зніч": у Купалавым доме гучала слова Паэта.

Імпрэзы "Мінскай вясны-2012" працягваюцца ў Белдзяржфілармоніі. Сёння тут у межах міжнароднага праекта "Мандалінісіма"



*Мінскі струнны квартэт.*

пройдзе юбілейны канцэрт вядомага дамрыста Яраслава Валасюка з удзелам яго калег-салістаў, вучняў, інструментальных ансамбляў (Малая зала імя Р. Шырмы). У панядзелак тая ж зала чакае аматараў вытанчанай камернай музыкі: мовою гэтага мастацтва Мінскі струнны квартэт нагадае пра сакральны для хрысціянаў велікодны час і духоўныя ісціны, выканаўшы вядомы твор Ёзафа Гайдна "Сем слоў Збаўцы на крыжы".

Мастацкая галерэя "Vilnius", пазнаёміўшы мінчан з жывапіснымі работамі Святланы Мацвіенкі, створанымі ёю за некалькі апошніх гадоў, запрашае ў фантастычны і загадкавы свет жывапісу Сяргея Аляксеенкі. Мастак назваў сваю выстаўку "У пачатку часу" і прадставіў на ёй карціны, праз герoеў якіх — чарадзеяў, пачвар, красунь, дэманаў і магаў — мастак увасабляе супрацьстаянне дабра і зла, свой роздум пра вартасці ды заганы нашага штодзённага жыцця, веру ў перавагу светлых сіл.

Наталля КАНСТАНЦІНАВА

# Палёт фантазіі

## Маладыя кампазітары, магчыма, створаць музыку для дэльфінаў і іншапланецянаў

**Адзін з найважнейшых паказчыкаў развітасці грамадства — музычная культура. Стваральнікі музыкі істотна ўплываюць на фарміраванне нашага духоўнага асяроддзя. Таму нас не можа не цікавіць творчая пазіцыя маладых кампазітараў, якія ў хуткім часе будуць вызначаць музычнае аблічча нашай краіны. Мы пагутарылі з прадстаўнікамі розных пластоў маладой музычнай акадэмічнай культуры Беларусі.**

*Імёны ўдзельнікаў сённяшняй размовы чытачу "ЛіМа" знаёмыя. **Канстанцін Яськоў** — член Беларускага саюза кампазітараў, адзін з заснавальнікаў Асацыяцыі маладых беларускіх кампазітараў Беларускага саюза музычных дзеячаў. Скончыў аспірантуру Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Ініцыятар і арганізатар міжнароднага фестывалю сучаснай акадэмічнай музыкі "Дыялогі", мастацкі кіраўнік і дырыжор камернага аркестра "Belarus Modern Orchestra". Выкладае ў БДАМ. Яго музыка неаднаразова выконвалася ў Беларусі, у Польшчы і ва Украіне.*

***Максім Круглы** — член Беларускага саюза музычных дзеячаў, адзін з арганізатараў АМБК, заснавальнік і кіраўнік ансамбля сучаснай музыкі. Скончыў магістратуру БДАМ, цяпер выкладае там і ў Беларускай гімназіі-каледжы імя І. Ахрэмчыка. Як кампазітар і піяніст удзельнічае ў розных фестывалях і творчых праектах.*

***Аляксандр Цурко** з музычных навучальных устаноў скончыў толькі школу — з адзнакай, але пастаянна займаецца самаадукацыяй. Як прадзюсар удзельнічаў у праекце "Еўрафэст"; граў на ўдарных інстументах у шматлікіх групах — ад панка да джаза. Прыйшоў у акадэмічную музыку з папулярнай. Мае 8 альбомаў, раней ствараў пераважна электронную музыку, цяперашнія кампазіцыі — сінтэз электроннай, акадэмічнай і папулярнай. З'яўляецца кампазітарам поўнаметражнага расійскага фільма "Фоткі".*

***Сяргей Бадалаў** і **Аляксей Пілатаў** — студэнты БДАМ, зарэкамендавалі сябе як творча актыўныя кампазітары, удзельнікі розных музычных абмеркаванняў, дыскусій.*

**Наталля Канстанцінава.** Наколькі тое, што хочуць сказаць свайм творчым жыццём маладыя кампазітары, адрозніваецца ад сказанага раней іх папярэднікамі? Вы збіраецеся прапанаваць грамадству нешта адмысловае новае?

**Сяргей Бадалаў.** Улічваючы становішча, у якім знаходзіцца сёння акадэмічная музыка, наўрад ці мы можам пазіцыяніраваць сябе, як гэта рабіў Бетховен. Ён звяртаўся ў масы і прагнуў ажыццяўлення сваіх перакананняў. Сёння кампазітар — нармальная прафесія, такая ж, як усе іншыя, адзін са спосабаў сацыялізацыі. Магчыма, нехта і настроены першапачаткова на тое, каб многае змяніць, але я лічу, трэба не замахвацца на касмічныя задачы, а проста максімальна годна рабіць тое, што можаш. Калі музыка выкліча хоць адну з тысячы магчымых эмоцый, яна ўжо зменіць жыццё, як эфект матылька.

**Аляксандр Цурко.** А я хачу сказаць пра канцэпцыю аб'ектывізму ў музыцы. Дагэтуль у мастацтве і ў навуцы мы зыходзім з чалавечага ўспрымання. Але ў прыродзе існуе яшчэ шмат істотаў, якія маюць слых. У дэльфінаў, напрыклад, дыяпазон слыху нашмат шырэй за наш. Таму трэба ствараць універсальную музыку, якая ўлічвае розныя дыяпазоны слыху. Навошта? А навошта ўвогуле вывучаць Сусвет і імкнуцца рассунуць межы пазнання? Калі дапусціць, што ў Сусвеце ёсць яшчэ які-небудзь розум, універсальная музыка магла б расказваць розным істотам адно пра адное.

**Максім Круглы.** Аляксандр, мне здаецца, спрабуе скіраваць у сферу пошукаў на перасячэнні мастацтва і навукі. У XX стагоддзі такое было неаднаразова, кампазітары звярталіся да матэматычных, фізічных, хімічных адкрыццяў. Насамрэч сказаць нешта новае ў наш час вельмі складана. Можна шукаць вечнае ў састарэлых формах. Возьмем, напрыклад, ізарытмічны матэт з сярэднявечнай харавой музыкі. Гэтай формай сёння ніхто не карыстаецца, але закладзеныя ў ёй прынцыпы можна ўкараняць у сучасную кампазіцыю.

**Канстанцін Яськоў.** Усялякая тэхніка кампазіцыі будзе сёння новая адносна, бо яе генезіс можна прасачыць у мінулым. Абсалютна новым узроўнем творчасці можа быць філасофія і эстэтыка, якія мы прапаноўваем, філасофія сінтэзу, эстэтыка, якая прадугледжвае сінтэз эстэтык. Не сінтэз музычных моў і тэхналогій — гэта другасна, гэта таксама даволі старая канцэпцыя, — а сінтэз псіхалогій творчасці. І яшчэ. Раней лічылася: ёсць публіка і ёсць кампазітар, які нешта гаворыць, і вы можаце прымаць гэта або не. Сёння такі суб'ектывізм надзвычай эгаістычны. Функцыя кампазітара ў грамадстве — зацыраваць нейкую дзірку ў духоўнай прасторы. Дык спачатку трэба зразумець, чаго ад цябе чакаюць, і даць музычную інфармацыю, у гэты момант неабходную для паўнавартаснага развіцця грамадства.

**Аляксей Пілатаў.** Часта кажуць пра спецыфічную адметнасць нашага часу. Але новае толькі тое, што паскорыўся рытм жыцця і тэхнічны прагрэс. Пачуцці людзей XV і XXI стагоддзяў аднолькавыя. Іншая рэч, што раней пачуцці назапашваліся. Людзі пісалі лісты, якіх доўга чакалі, і ў кожнае слова ўкладалі моцную эмоцыю. Сёння мы ў кожны момант можам патэлефанаваць сваякам у ЗША. Тое ж і ў музыцы. Раней не было нават прайгравальнікаў. Арыстакратыя хадзіла на канцэрты ў адпаведныя залы. І адносіны да акадэмічнай музыкі былі значна больш сур'ёзныя. Таму сёння акадэмічная музыка яшчэ больш патрэбная, чым раней, каб рэанімiраваць глыбокія пачуцці.

**А. Ц.** У чалавека заўсёды былі дзве галоўныя псіхалагічныя патрэбы — у логіцы і ў эмоцыях, адпаведна паўшар'ям мозгу. Сучасныя людзі, стаміўшыся ад рацыянальнасці, слухаюць для эмоцый які-небудзь панкрок. А той, хто наталіўся пачуццямі, захоча складанай інтэлектуальнай музыкі. Я суадношу акадэмічную музыку з левым паўшар'ем — з патрэбай у ведах.

**К. Я.** Музыка павінна быць рознай: і сур'ёзная, і забаўляльная. Вядома, праз інтэрнэт поп-музыка "спампоўвае" нашмат часцей. Аднак з'явілася тэндэнцыя з дапамогай сур'ёзнай музыкі пазіцыяніраваць сябе як інтэлектуала, людзей з высокім духоўнамаральным узроўнем. На некаторых канцэртах наша філармонія перапоўненая, прычым запатрабаваная самая "мацёрая" класіка, у тым ліку маладымі людзьмі.

**Н. К.** На ваш погляд, у якіх музычных жанраў і напрамкаў найлепшыя перспектывы?

**А. П.** Найлепшыя перспектывы ў тых жанраў, якія развіваюцца шляхам сінтэзу з іншымі жанрамі і відамі мастацтва. Але нельга сцвярджаць, што нейкія музычныя жанры асуджаныя на забыццё — хіба што на пераражджэнне.

**М. К.** Мы ў Асацыяцыі спрабуем сумяшчаць электронную музыку з акустычнай. Гэта адзін з найбольш перспектыўных напрамкаў, дзе можна нешта шукаць. Тэхніка развіваецца, з'яўляюцца ўсё новыя праграмы. А жанры — гэта своеасаблівая генетычная матрыца, якая звязвае музыку з жыццём. У гісторыі шмат прыкладаў, калі жанр праходзіць праз розныя эпохі і ў кожную напаўняецца новымі сэнсамі.

**А. Ц.** Заўсёды будзе запатрабаваная музыка, у якой знойдзена сярэдзіна паміж пачуццёвым і рацыянальным.

**С. Б.** У канцы 1960-х лёгкая музыка выцесніла акадэмічную, бо ў ёй было шмат розных стыляў, субкультур. Сёння мы можам перамагчы "папсу" той жа зброяй.



*Заўсёднік філармоніі.*

**К. Я.** Браць напрацоўкі папулярнай музыкі, больш прафесійна іх асэнсоўваць на акадэмічнай платформе — і мы яшчэ паглядзім, хто каго.

**Н. К.** Ці задаволеныя вы грамадскім статусам людзей, якія абралі стварэнне сур'ёзнай музыкі сваім галоўным заняткам?

**М. К.** Кампазітар у нас незапатрабаваны. Мы зарабляем грошы сваёй працай у іншым статусе: кампазітар можа працаваць у ансамблі, пісаць аранжыроўкі, нават творы, але ў працоўнай кніжцы ён будзе пазначаны проста як артыст ансамбля. А кінамузыка? Сёння толькі стваральнікі дарагога кіно дазваляюць сабе запрашаць прафесійнага кампазітара, які пісаў бы для сімфанічнага або спецыяльнага аркестра.

**А. П.** Каб займацца стварэннем сур'ёзнай музыкі, чалавек павінен адказаць сабе на два пытанні. Ці ёсць гэта для яго жыццёвай патрэбай? Ці гатовы ён быць "укрыжаваны" грамадствам з-за непрымання? Калі два адказы станоўчыя, чалавек з'яўляецца кампазітарам і яму ўсё адно, які ў яго статус.

**М. К.** Сёння прафесійны кампазітар — гэта своеасаблівы андэграўнд. Як у сярэднявечным грамадстве, калі ў келлі сядзеў манах і ствараў складаныя поліфанічныя жанры. Яго мала хто ведаў. У трактатах таго часу часта сустракаецца інфармацыя, што ёсць музыка, якая гучыць на плошчах — ад менестрэляў, мінезінгераў, і ёсць музыка, якая даносіцца з царквы — прафесійная, яна дайшла да нас у пісьмовых крыніцах. І цяпер прыкладна тое ж: ёсць філармонія, оперны тэатр — адтуль даносіцца нейкая музыка…

**К. Я.** …а ёсць музыка, якая даносіцца адусюль — з рэстаранаў, маршрутак. І там няма месца прафесійнаму кампазітару. У беларускай "тусоўцы", якая стварае папулярную музыку, знойдзецца, можа, працэнтаў пяць прафесійных кампазітараў.

**С. Б.** На Захадзе тыя, хто піша попмузыку, называюцца "сонг-райтэры". І на гэтым напрамку можна дасягнуць сваіх вышыняў.

**К. Я.** У нас і прафесійных сонг-райтэраў пакуль няма.

**Н. К.** У "ЛіМе" друкаваліся матэрыялы "круглага стала" з удзелам членаў праўлення Беларускага саюза кампазітараў. Там выказвалася шкадаванне, што таленавітая моладзь з'язджае за мяжу, бо тут бышцам бы "нецікава" і "неперспектыўна". А што скажаце вы?

**А. П.** Можна зручна размясціцца ля амаль засохлага дрэва, закінуць ногі на галлё і разважаць пра тое, як яно сохне, побач жа — шмат вёдраў з вадою. Гэта наконт неперспектыўнасці. А гаварыць, што тут нецікава — проста снабізм. Што менавіта нецікава? Творчасць калег?

**К. Я.** Цікавасць кожны чалавек стварае сабе сам. Заўсёды можна знайсці групу, з якой табе будзе цікава. Неперспектыўна? Неперспектыўна займацца музыкай увогуле — і папулярнай, і акадэмічнай, і джазам. Вельмі цяжкае становішча ў плане функцыянавання музычнай культуры. Ёсць месцы ў свеце, Еўропе, дзе значна больш магчымасцей для самарэалізацыі, напісання, выканання, слухання музыкі. Таму людзі туды з'язджаюць. Але гэта пытанне ўжо этыкі, патрыятызму. Трэба старацца зрабіць, каб было перспектыўна і цікава не толькі нам.

**Н. К.** За тым "круглым сталом" прагучала нараканне: маўляў, маладыя кампазітары не надта паважліва ставяцца да меркаванняў старэйшых калег наконт іх твораў. А ці маеце вы патрэбу ў кіраўніцтве і падказках больш спрактыкаваных кампазітараў?

**М. К.** Кожны творчы арганізм, які расце, мае патрэбу ў падказках і кіраўніцтве. Але заўсёды бываюць людзі, якія самасцвярджаюцца на адмаўленні. Часам студэнт проста адмаўляецца слухаць прафесара, бо яму здаецца, што той умешваецца ў яго індывідуальнасць як у нейкую сталую сістэму.

**А. П.** Пад кіраўніцтвам прафесара індывідуальнасць можна толькі ўдасканаліць. Калі ў аўтара ёсць нешта сваё і з першых тактаў музыкі яно чутна — гэта менавіта ён, "разыначка" нікуды не падзенецца.

**М. К.** Праўда, бываюць выпадкі непарушнай унутранай перакананасці ў тым, што ты робіш. Дэбюсі… Але часцяком, акрамя неўсвядомленага юнацкага жадання пярэчыць, нічога няма.

**Н. К.** Як вы мяркуеце, ці можа і ці павінна музыка ўплываць на рэальнае жыццё, або яе наканаванне — сфера чыстай эстэтыкі?

**А. П.** На рэальнае жыццё ўплываюць перакананні людзей, іх светаўспрыманне, сіла волі. А музыка ўплывае на ўсё гэта.

**А. Ц.** Можна так выканаць гімн, што павядзеш за сабой армію.

**К. Я.** У сённяшняй культурнай прасторы ёсць мноства кропак, з якіх зыходзяць розныя віды музыкі. І чалавек выбірае, да якой крыніцы падысці. Усялякі гук уплывае на прастору.

**Н. К.** Як у Беларусі развіваецца электронная музыка?

**А. Ц.** Электронная акадэмічная музыка пакуль на пачатковым этапе. Электронная непрафесійная музыка развіваецца гэтак жа, як і ва ўсім свеце, шмат у чым дзякуючы інтэрнэту.

**К. Я.** У акадэміі музыкі стаіць праблема стварэння спецыяльнай студыі, дзе можна было б прадуктыўна працаваць у электроннай музыцы. Пакуль няма камп'ютараў, якія па тэхнічных параметрах паўнавартасна "цягнулі" б патрэбныя праграмы — гуказапісу, звядзення гуку і г.д. А ў краіне няма залаў, дзе можна было б паўнавартасна ладзіць канцэрты электраакустычнай музыкі — з квадрафоніяй, актафоніяй…

**А. Ц.** Яшчэ праблема: а хто будзе такую музыку выконваць? Ніхто пакуль не валодае ведамі.

**М. К.** І з'ехаў спецыяліст, які мог бы гэтыя веды выкладаць. А па тэхнічнай аснашчанасці мы таксама адсталі ад Еўропы. Там ужо больш як паўвекавая традыцыя, цэлая індустрыя. У Францыі, напрыклад, на дзяржаўным узроўні існуе знакамітая студыя "IRCAM", у яе ўкладаліся вялікія грошы, прыцягваліся кампазітары. Ёсць такія цэнтры ў Германіі, Польшчы, ва Украіне, дзе праводзяцца і фестывалі электроннай музыкі.

**А. Ц.** Але мы будзем старацца палепшыць сітуацыю, над гэтым працуем.

**М. К.** Этап саперніцтва паміж электроннай музыкай і музыкай жывога гуку ў гісторыі мастацтва прайшоў. Сёння электронная і акустычная музыка самадастатковыя і нават ідуць насустрач адна адной.

**С. Б.** Некаторыя выканаўцы, якія праславіліся "электрапапгучаннем", вяртаюцца да гучання струннага аркестра або бэнда. Ды ўсё ж электронная і акустычная — адна музыка. І калі аўтар валодае выразнымі сродкамі абодвух напрамкаў, палёт яго фантазіі можа быць бязмежны.

# Залаты фаліянт і маладыя галасы

**Прэзентацыя выданняў РВУ "Літаратура і Мастацтва", ганараваных па выніках мінулага года Дыпломам І ступені Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі" (заснаванага Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь), адбылася адразу ў дзвюх установах. Міні-экспазіцыю з кніг-пераможцаў можна было пабачыць у Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна і ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі.**



*Ала Корбут распавядае пра новыя праекты РВУ "Літаратура і Мастацтва".*

**Ірына ТУЛУПАВА, фота Кастуся Дробава**

Размова ідзе пра тры кнігі, выдадзеныя ў мінулым годзе: фотаальбомы "Рарытэты Нацыянальнага гістарычнага музея" (Дыплом І ступені ў намінацыі "Залатыя скрыжалі") і "Слуцк. Путешествие во времени" (намінацыя "Фотапогляд") ды зборнік Наталлі Голубевай "Сказки тётушки Руфь" (намінацыя "Разам з кнігай мы расцём"). Усе яны вылучаюцца арыгінальнай аўтарскай задумай, высокім мастацкім ды паліграфічным выкананнем. Кнігі насамрэч сталі падзеяй у нацыянальным кнігавыданні.

**Імпрэза ў "Пушкінцы"** сабрала шырокае кола аматараў чытання. Апроч згаданых кніг, тут прэзентаваліся шматлікія літаратурныя праекты, якія нарадзіліся і паспяхова рэалізуюцца ў творчых арганізацыях і рэспубліканскім друку. Планамі на будучае дзяліліся галоўны рэдактар газеты "Звязда", старшыня Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Алесь Карлюкевіч, першы намеснік дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва" Алесь Бадак, намеснік дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва" Ала Корбут, намеснік галоўнага рэдактара "Мінскай праўды" Сяргей Грыб, член СПБ, кандыдат гістарычных навук Барыс Далгатовіч.

Шмат гаварылася пра сучасную паэзію. У прыватнасці, пра зборнік паэзіі маладых літаратараў Беларусі, што рыхтуецца да выдання ў РВУ "Літаратура і Мастацтва". Свае вершы чыталі аўтары Таццяна Сівец, Рагнед Малахоўскі, Яна Явіч, Маргарыта Латышкевіч. Віка Трэнас распавяла пра працу аддзела паэзіі часопіса "Маладосць", Рагнед Малахоўскі – пра серыю Мінскага гарадскога аддзялення СПБ "Мінская маладыя галасы". З паэтычнымі творамі пазнаёміў прысутных рэдактар аддзелаў паэзіі і "Всемирная литература в «Нёмане»" Юрый Сапажкоў, які прэзентаваў рэкламны ўзор сваёй новай кнігі "Паук-канатоходец". Ён таксама распавёў пра падрыхтаваную да выдання кнігу эсэ "Порог слышимости", у якой даецца панарама сучаснага літаратурнага працэсу ў Беларусі. Мяркуецца, што кніга будзе выдадзена да Дня беларускага пісьменства.

**У Нацыянальным гістарычным музеі** фотаальбом "Рарытэты Нацыянальнага гістарычнага музея" прадставіла намеснік дырэктара гэтай установы, адна з укладальніц і аўтараў тэксту Ніна Калымага. Прагучала слова фотамастакоў Канстанціна Дробава і Валерыя Сібрыкава, чые ілюстрацыі выкарыстаныя ў альбоме; дызайнера, мастака-афарміцеля Алены Вашчанкі.



*Копія Дыплома І ступені ўручаецца намесніку дырэктара Слуцкага цукрова-рафінаднага завода Яўгену Шапавалаву.*

Пра супольную працу з РВУ "Літаратура і Мастацтва", вынікам якой сталі два выдатныя фотаальбомы "Слуцк. Путешествие во времени" і "Слуцкая палитра", распавяла дырэктар Слуцкага краязнаўчага музея Наталля Серык.

Выпуск выданняў ажыццяўляўся пры фінансавай падтрымцы ў першым выпадку ЗТАА "Джапан Табака Інтэрнэшнл ЭсЭндДзі", у другім — Слуцкага цукрова-рафінаднага завода. Гэтыя ўстановы не першы раз актыўна падтрымліваюць значныя культуралагічныя праекты.

Зборнік "Сказки тётушки Руфь" прадставілі аўтар, член СПБ, член Беларускага саюза журналістаў Наталля Голубева і мастачка Рыта Цімохава.

**Згодна з умовамі** нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі", найбольш значныя выданні-лаўрэаты могуць удзельнічаць у аднайменным міжнародным конкурсе дзяржаў-удзельніц СНД у Маскве. Ганараваныя выданні прадстаўляюцца штогод у сталіцы Дня беларускага пісьменства, выстаўляюцца ў экспазіцыі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, а таксама перадаюцца на вечнае захоўванне ў экспазіцыю Музея беларускага кнігадрукавання Нацыянальнага полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.

Выданні таксама могуць удзельнічаць у Міжнародным конкурсе кніжнага майстэрства "Лепшы дызайн усяго свету" ў Лейпцыгу (Германія). Пажадаем ім спрыяльнага лёсу і ўдзячных чытачоў. А выдаўцам і аўтарам-творцам — новых выдатных кніг.

# Разам з бацькамі

**Бібліятэка сямейнага чытання "Верасок", што ў горадзе Маладзечне, абслугоўвае дашкольнікаў, школьнікаў, навучэнцаў тэхнікумаў і каледжаў, ВНУ, таксама — бацькоў маленькіх чытачоў, іх бабуль і дзядуль. Чытачамі кніжніцы з'яўляюцца больш як 200 сем'яў.**

**Ніна АРТЫШЭВІЧ**

Нягледзячы на шырокае распаўсюджанне камп'ютараў і інтэрнэту, цікавасць да кнігі і бібліятэкі не знікае. Попытам карыстаюцца казкі, прыгоды, фантастыка. Бібліятэчны фонд складае 81 000 кніг. Асабліва важна, што ў апошні час пачалі з'яўляцца цікавыя творы беларускіх аўтараў. Для самых маленькіх гэта кнігі серыі "Казка за казкай", "Казкі ХХІ стагоддзя", творы А. Масла, М. Маляўкі, кнігі па гісторыі роднага краю, яго прыродзе, жывёльным і раслінным свеце (серыі "Скарбы Радзімы", "Скарбы роднай прыроды").

Падлеткам цікавая серыя "Пераходны ўзрост", у якой ужо выйшлі творы А. Бадака, Р. Баравіковай, А. Наварыча.

Сярод дарослых чытачоў бібліятэкі шмат педагогаў, медыцынскіх работнікаў, супрацоўнікаў дзіцячых садкоў. Але самай актыўнай групай з'яўляюцца пенсіянеры, бабулі і дзядулі нашых чытачоў, якія не толькі прыводзяць у бібліятэку сваіх унукаў, але і актыўна чытаюць самі: літаратуру па псіхалогіі, пра выхаванне ў сям'і, гістарычную, любоўныя раманы.

Шмат хто цікавіцца беларускай літаратурай, новымі імёнамі і кнігамі. Сярод запатрабаваных такія аўтары, як А.Бутэвіч, А. Марціновіч, М.Прохар, А. Папова, Н. Батракова, Т.Лісіцкая, В. Тарасевіч і інш.

Дзецям малодшага школьнага ўзросту добра вядомыя кнігі нашага земляка І. Галубовіча "Чаму мядзведзь бярозавіка не любіць", "Янотавы абяцанкі", "Ад студзеня да студзеня". Менавіта пры дапамозе гэтых кніг маленькія чытачы знаёмяцца з жывёламі і раслінамі, якія ёсць у Беларусі, прыроднымі з'явамі, порамі года.

Творчая сустрэча з земляком А. Жураўлёвым у рамках Года кнігі мела на мэце пазнаёміць чытачоў з выданнямі, героі якіх жывуць побач з намі, ходзяць па адных вуліцах, трапляюць у розныя, часам камічныя, сітуацыі. У планах бібліятэкі — прэзентацыя кнігі яшчэ адной нашай зямлячкі Л. Гардынец "Ад свайго парога", сустрэчы з вядомымі беларускімі літаратарамі.

Праблема сямейнага чытання сёння стаіць вельмі востра, і мы спадзяёмся, што ў яе вырашэнні нам дапамажа Нацыянальная праграма дзіцячага чытання, над якой цяпер актыўна працуюць спецыялісты Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

# Каласок і Купалінка запрашаюць

**Людміла КЕБІЧ, старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

Пад такой назвай прайшло адкрыццё Тыдня дзіцячай кнігі ў дзіцячым філіяле Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Карскага. На свята сабраліся малодшыя школьнікі, выхаванцы Панямунскага дзіцячага дома, настаўнікі, бацькі, пісьменнікі.

Дзед Усявед, Каласок і Купалінка, Смех, Пеўнік і іншыя героі сышлі са старонак казак, апавяданняў і вершаў, каб сустрэцца з маленькімі чытачамі. Значная ўвага надавалася творам Янкі Купалы і Якуба Коласа, юбілеям якіх і прысвячалася свята. Песні, танцы, загадкі, прыказкі і прымаўкі, гульні, віктарыны і бездакорнае гучанне роднай беларускай мовы — усё дзеля зацікаўлення дзяцей чытаннем, абуджэння ў іх любові да друкаванай кнігі, выхавання літаратурнага густу, умення не разгубіцца ў бясконцым кніжным акіяне і натрапіць на самыя каштоўныя каралы.

У якасці ганаровага госця быў запрошаны паэт, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Полымя" Уладзімір Мазго. З задавальненнем слухалі прысутныя выступленне земляка, яго вершы ў выкананні дзяцей, з удзячнасцю прынялі ад вядомага пісьменніка кнігі ў дар бібліятэцы.

Дзякуючы арганізатарам свята, дырэктару абласной навуковай бібліятэкі Л. Мальцавай, загадчыцы дзіцячага філіяла В. Міцкевіч і іх калегам-бібліятэкарам, удзельнікі імпрэзы, пераможцы конкурсаў на лепшы малюнак, водгук на прачытаны твор і самыя актыўныя чытачы беларускай кнігі атрымалі памятныя прызы і салодкія падарункі ад шматлікіх гродзенскіх спонсараў — людзей неабыякавых і сардэчных.

Да Дня Перамогі

# І паўстаў народ…

Алена ДЗЕНІСЕНКА,
навуковы супрацоўнік аддзела
рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі

**У барацьбе і перамозе нашага народа над фашысцкімі захопнікамі велізарную ролю адыграў падпольны партызанскі друк. Патрыятычныя словы на старонках газет сталі той сілай, якая ўзнімала на подзвігі і была маральнай падтрымкай.**

## Партызанскія плакаты, лістоўкі, газеты

Пажоўклыя ад часу, яны з'яўляюцца сведкамі бяды беларускага народа.

Першая спроба ўлічыць падпольныя выданні Беларусі перыяду Вялікай Айчыннай вайны была зроблена адразу ў пасляваенныя гады Дзяржаўнай бібліятэкай БССР імя У. І. Леніна (цяпер Нацыянальная бібліятэка Беларусі). Былі апісаныя фонды Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі, Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і на падставе іх складзеныя картатэкі газет, часопісаў і лістовак. Але матэрыялы гэтыя не былі апублікаваныя і захоўваліся ў аддзеле рэдкай і старадрукаванай кнігі Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна.

З 1970 г. пачаў выдавацца штоквартальны інфармацыйны бюлетэнь "Беларуская ССР у гады Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза", таксама быў падрыхтаваны да друку рэтраспектыўны паказальнік "БССР у гады Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза".

Падрыхтоўку паказальніка часопісаў і газет перыяду Вялікай Айчыннай вайны пачалі з апісання фондаў асноўных сховішчаў. Выкарыстаныя фонды Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны абласных і раённых краязнаўчых музеяў і Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У.І. Леніна.

Усе газеты і часопісы былі прагледжаныя de visu. Толькі нязначная колькасць нумароў уключана на падставе звестак, дасланых музеямі. Яшчэ адной крыніцай паслужылі спісы газет, змешчаныя ў наступных выданнях: І.Краўчанка "Падпольны бальшавіцкі друк у Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны" (Мінск, 1950); А. Юдзянкоў "Политическая работа партии среди населения оккупированной советской территории" (Мінск, 1971); "Партизанские были" (Мінск, 1965); А.Кузняеў "Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны" (Мінск, 1973); І.Клімаў, М. Гракаў "Партизаны Вилейщины" (Мінск, 1970); І. Дзем'янчук "Зброєю слова. Преса партийного підпілля і партизанських формувань періоду Великої Вітчизняної війни" (Кіеў, 1966); "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя". Т.9 (Мінск, 1973).




*Газета "Раздавім фашысцкую гадзіну" з фондаў ЦНБ НАН Беларусі.*

## Гады 1970-я

Даведнік "Падпольныя перыядычныя выданні на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны" (Мінск, 1975), падрыхтаваны Кніжнай палатай БССР (складальнік В. Адамовіч, пад рэдакцыяй Н.Ватацы), выйшаў у Мінску ў 1975 г. Гэта быў бібліяграфічны паказальнік і даваў ён, на думку навуковага рэдактара Г. Напрэева, дастаткова поўнае ўяўленне пра размах выдавецкай дзейнасці падпольных партыйных камітэтаў на тэрыторыі Беларусі, акупіраванай фашысцкімі захопнікамі. У ім апісаныя газеты, якія захоўваліся ў музеях, архівах і бібліятэках Беларусі, упершыню пададзеныя кароткія звесткі пра машынапісныя і рукапісныя часопісы, што выпускаліся ў партызанскіх атрадах. У апісанні кожнай друкаванай адзінкі прыведзеныя прозвішчы рэдактараў і членаў рэдкалегій. Паказальнік складаўся з двух раздзелаў: газеты і часопісы. Усяго ўключаныя 163 газеты і бюлетэні і 80 часопісаў.




*Вокладка выдання "І паўстаў народ…".*

Каб даць больш поўнае ўяўленне пра падпольныя газеты і часопісы, умовы, у якіх яны выдаваліся на акупіраванай тэрыторыі, да паказальніка дадаецца спіс літаратуры, які ўтрымлівае матэрыялы-ўспаміны кіраўнікоў, літработнікаў і іншых супрацоўнікаў рэдакцый. Да абодвух раздзелаў складзеныя дапаможныя паказальнікі — алфавітныя, паказальнік калектываў, імянны.

Натуральна, што былі і недахопы. Да канца не высветленае пытанне пра агульную колькасць газет, якія выдаваліся. У спісе, які змешчаны ў кнізе І. Краўчанкі "Падпольны бальшавіцкі друк у Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны", іх 162. У А. Юдзянкова ("Политическая работа партии среди населения оккупированной советской территории") іншая лічба — 170. Няма адзінства ў гэтых крыніцах па ўліку газет. Калі мянялася назва альбо выдавецкі калектыў, газеты ўлічваліся то як адна, то як дзве.

## Нашым часам

Факсімільнае выданне "І паўстаў народ..." пабачыла свет праз трыццаць гадоў пасля папярэдняга, у 2005 годзе. І стала ўнікальным зборам дакументальных матэрыялаў часоў Вялікай Айчыннай вайны. Яно змясціла шматлікія падпольныя і партызанскія рэспубліканскія, абласныя, раённыя газеты да насценныя лісткі і маладзёжныя антыфашысцкія бюлетэні. Укладальнікі гэтага каштоўнага выдання — загадчык аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (далей ЦНБ НАН Беларусі) А. Сцефановіч і вядучы маркетолаг выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі" В. Рабкоў. Аўтары прадмоў — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, пісьменнік А. Савіцкі і аўтар гэтага артыкула.

У кнігасховішчы Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі захоўваюцца каля 570 нумароў (95 назваў) газет і часопісаў, якія друкаваліся ва ўмовах вайны. Багатая калекцыя падпольнага перыядычнага друку ваеннага часу, што была выкарыстана пры падрыхтоўцы гэтага выдання, пачала фарміравацца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў з 70-х гг. XX ст.

У 1965 — 1966-ым акадэмік АН БССР К. Крапіва перадаў камплект газеты-плаката "Раздавім фашысцкую гадзіну" за 1942 — 1944 гг. Камплект быў пераплецены і змяшчаў амаль усе нумары за гэты перыяд.

У маі 1980 г. у ЦНБ паступіў архіў беларускага гісторыка, акадэміка АН БССР І. Краўчанкі. Сярод дакументаў была падборка падпольных перыядычных выданняў часу Вялікай Айчыннай вайны. Яго калекцыя — вынік шматгадовай працы, яна ўключае 33 назвы газет, якія выходзілі ў тыле ворага на працягу 1942 — 1944 гг. На многіх экзэмплярах — асабістыя паметкі І.Краўчанкі.

У 1986 г. фонд бібліятэкі папоўніўся беларускімі партызанскімі газетамі (усяго 62 назвы) ад В. Стальнова — журналіста, які ў ваенныя і пасляваенныя гады працаваў у рэдакцыях Беларусі. Гэта газеты-аднадзёнкі, газеты-лістоўкі, іншыя падпольныя і партызанскія выданні: "Кліч Радзімы" — орган Ельскага РК КП(б)Б, "Красный партизан" — Васілішкаўскага РК КП(б)Б, "Ленинец" — Плешчаніцкага РК КП(б)Б і Мінскага партызанскага злучэння, "Партизан Белоруссии" — Пухавіцкага падпольнага РК КП(б)Б, "Партызанскае слова" — лістоўка-плакат Вілейскага абкама КП(б)Б, "Партизанский путь" — Круглянскага падпольнага РК КП(б)Б і іншыя.

Амаль усе гэтыя дакументы захаваліся ў адным экзэмпляры, шмат іх загінула і назаўсёды страчана. А тыя, што засталіся нашчадкам, знаходзяцца ў кнігасховішчы аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі. Аднак гэтыя сведчанні гераічнай барацьбы нашага народа з нямецка-фашысцкімі захопнікамі практычна невядомыя масаваму чытачу.

Перагортваючы кнігу "І паўстаў народ...", нельга заставацца абыякавым: тут вялікае мноства імён, гарадоў, вёсак, баявых эпізодаў, гераічных подзвігаў.

# Па здароўе — з кнігай

Работнікі Навагрудскай цэнтральнай раённай бібліятэкі наведалі дзіцячае аддзяленне Навагрудскай цэнтральнай раённай бальніцы з дабрачыннай акцыяй "Па здароўе разам з кнігай".

Маленькім пацыентам прапанавалі пазнаёміцца з навінкамі беларускай і замежнай літаратуры. Дзеці з цікавасцю слухалі аповед пра кнігі, знаёміліся з творамі розных жанраў: дэтэктывамі, фэнтэзі, прыгодамі, казкамі, пазнавалі сваіх любімых герояў і цікавіліся дзіцячымі часопісамі. Для дарослых прэзентаваліся выданні з серыі "Хатняя педагогіка". Значна ажывіла электронная гульня-віктарына "У гасцях у казкі". Акцыю дапоўнілі паказам мультфільмаў.

У падарунак ад бібліятэкараў дзеці атрымалі кніжкі. Акрамя гэтага, кожнаму з іх была ўручана закладка з запрашэннем наведваць бібліятэку.

Кнігі — найлепшыя лекі, яны могуць падарыць людзям добры настрой. Таму запрашаем далучыцца да акцый чытачоў і грамадскія арганізацыі Навагрудчыны.

**Ірына ЦАРУК,
намеснік дырэктара
Навагрудскай ЦБС**

# Семінар ў Рагачове

Рагачоўская цэнтральная раённая бібліятэка правяла семінар з бібліятэчнымі работнікамі горада і раёна па тэме "2012 – Год кнігі. Работа бібліятэк з мастацкай літаратурай".

Пра ролю і значнасць кнігі і чытання ў сучасным грамадстве распавяла дырэктар раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Клаўдзія Савельева. Адбылася прэзентацыя кніжнай выстаўкі "Беларуская літаратура: ад класікі да сучаснасці".

У семінары ўзялі ўдзел члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіль Ткачоў і Міхась Сліва. Пісьменнікі-землякі расказалі пра творчасць, падзяліліся планамі, адказалі на пытанні, дамовіліся пра яшчэ больш цеснае супрацоўніцтва бібліятэк і творцаў.

**Максім СНЕГІРОЎ**

# Хто сказаў, што студэнты не чытаюць?

Першы этап акцыі "Што чытае студэнт БДУ?" завяршыўся ў Белдзяржуніверсітэце.

Студэнтам прапанавалі на спецыяльных флаерах напісаць любімых аўтараў і назвы кніг, пасля гэтая інфармацыя паступала ў адмысловы падліковы цэнтр. Прычым удзельнікі акцыі не толькі паведамлялі, што чытаюць яны самі, але і раілі найбольш цікавыя творы сваім равеснікам. Канверты з парадамі перададзеныя ў Інстытут журналістыкі, дзе будуць вызначаныя 15 самых чытаемых аўтараў і кніг.

Пасля акцыя перамесціцца ў сеціва — яе можна будзе знайсці "Вконтакте", дзе чакаецца online-галасаванне. З пятнаццаці будуць адабраныя пяць найпапулярнейшых кніг. Іх студэнты плануюць закупіць і перадаць у адну са сталічных школ-інтэрнатаў.

Пра прыярытэты маладзёжнага асяроддзя "ЛіМ" паведаміць у наступных выпусках.

**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

***Адзін з пахмурных сакавіцкіх дзён 1943 г. увайшоў у гісторыю непадобным да іншых. Ён запомніўся вясёлым і расквечаным — дзіцячымі ўсмешкамі, гучнымі галасамі. І хаця ішла вайна, маскоўскія хлопчыкі і дзяўчынкі ў старэнькіх фрэнчах ды спаднічках запоўнілі прасторную залу Дома саюзаў: там ажывала казка! Людзі, нягледзячы на цяжкасці, верылі ў будучыню і клапаціліся пра яе — пра дзетак, якім падчас жыццёвых завірух асабліва няўтульна. Дзятва, што прагла добрых навін, слухала словы Самуіла Маршака, Сяргея Міхалкова, Агніі Барто ды іншыхя ўдзельнікаў імпрэзы.***

***Кніжнае свята прайшло шчыра і пранікнёна, запомнілася і… паўтарылася праз год — па ўсім Саюзе. Праз дзесяцігоддзі сацыяльных зменаў свята не страціла сваёй прыгажосці. Цяпер, як і раней, яно праходзіць падчас вясенавых школьных канікулаў у розных краінах.***

# Прыпынак — «Дзіцячая бібліятэка»

**Ірына ТУЛУПАВА,**
**фота Кастуся Дробава**

Менавіта ў Тыдзень дзіцячай кнігі пасля капітальнага рамонту адкрылася дзіцячая бібліятэка № 9 — структурнае падраздзяленне Цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк горада Мінска. Практычна новая бібліятэка са старэйшым і малодшым абанементамі, чытальнай і канферэнц-заламі, медыятэкай і фондам у 58 тысяч адзінак стала цэнтрам прыцягнення ў мікраараёне Чыжоўка. І нават прыпынак грамадскага транспарту называецца "Дзіцячая бібліятэка".

Доўгія гады тут шчыравалі дзве бібліятэкі — № 9 і № 11, якія выраслі разам з мікрараёнам. А калі гэты куточак горада разросся, стала відавочна, што неабходна праводзіць капітальны рамонт кніжніц ды пашыраць пакоі, дзе ёсць дзіцячая кніга.

Бібліятэкары, якія пасля рамонту напаўнялі пакоі цудоўнымі кніжкамі, лічаць, што малым, якія навучыліся трымаць у руках цацкі, самы час вучыцца трымаць дзіцячую кнігу. А яшчэ — слухаць цікавыя расповеды з маміных вуснаў. Пасля ж — па складах — самастойна прачытваць свае першыя ў жыцці друкаваныя старонкі. Таму фонд дзіцячай літаратуры разлічаны і на дашкольны, і на школьны ўзросты.

У Дзень адкрыцця абноўленая бібліятэка-імянінніца сустракала гасцей. А "ЛіМ" папрасіў дарослых і паважаных людзей выказаць свае адносіны да свету дзяцінства і працягнуць думку: "Для мяне дзіцячая бібліятэка — гэта…"



*Міхась ПАЗНЯКОЎ,*
*старшыня Мінскай гарадской арганізацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі:*

— Для мяне бібліятэка — гэта найперш храм духоўнасці, храм культуры. Месца, дзе працуюць незвычайныя людзі. Установа культуры, куды прыходзяць незвычайныя чытачы! Дзеці — чыстыя і ўзнёслыя. Яны ідуць у бібліятэку па веды. І правільна, калі ў ёй сканцэнтравана ўсё лепшае, што створана чалавечай думкай, у тым ліку і пісьменнікамі. Важна, каб бібліятэкары былі падрыхтаванымі, адукаванымі, дасведчанымі, ветлівымі. Каб маглі паказаць дзеткам усю глыбіню чалавечай мудрасці. На маю радасць, ва ўсіх бібліятэках, і не толькі ў сталіцы, працуюць людзі, якія любяць кнігу. Яны і прафесіяналы сваёй справы, і педагогі, і добрыя, чулыя сябры. А гэта — вялікая доля поспеху ў рабоце з юнымі чытачамі.

Сама дзіцячая літаратура — казкі, фальклор, скорагаворкі, лічылкі, смяшынкі — вельмі захапляльная. Хлопчыкі і дзяўчынкі поўныя летуценняў, таму і атрымліваецца вялікае свята ў незвычайным храме, якім ёсць бібліятэка. Тут можна ўбачыць і кіно, і спектакль. Сёння бібліятэка — і тэатр, і філармонія, і месца адпачынку, забаў, месца сустрэчы з цікавымі людзьмі.



*Аляксандр КАЛМЫКОЎ,*
*дырэктар сярэдняй школы № 43 г. Мінска:*

— Я сам — карэнны жыхар мікраараёна Чыжоўка. У 1967 годзе мае бацькі пераехалі сюды з цэнтра горада, навокал вялося будаўніцтва. Вучыўся я ў 106-й школе — першай, якая адкрылася ў мікраараёне. А месцам, дзе сустракаліся нашыя хлопцы і дзяўчаты, была школьная бібліятэка. І вельмі добра памятаю ўважлівага бібліятэкара, да якога неаднаразова звяртаўся па падказку. Я захапляўся шахматамі, там была нядрэнная падборка адпаведнай літаратуры: пра чэмпіёнаў свету, пра тэорыю шахматнага дэбюту. Захапляўся з дзяцінства таксама гістарычнай літаратурай. Напэўна, таму стаў настаўнікам гісторыі і англійскай мовы. Дзіцячая бібліятэка для мяне — гэта пачатак усяго. У тым ліку — любові да мастацкага слова, музыкі. Наша школа захоўвае музычны профіль, мае харэаграфічны, музычныя класы. З дырэктарам бібліятэкі шчыльна супрацоўнічаем: калі кніжніца праводзіць мерапрыемствы, мы арганізуем іх музычнае суправаджэнне, ды і работнікі бібліятэкі часта прыходзяць да нас у школу.



*Віктар МАЛІНОЎСКІ,*
*старшыня Мінскай гарадской арганізацыі Беларускага прафсаюза работнікаў культуры:*

— Бібліятэка — гэта прыступка да ведаў, установа, якая вучыць дабрыні, распавядае пра самае цудоўнае, што ёсць у краіне, яе гісторыі. Калі не стане дзіцячай бібліятэкі — свет збяднее! Таму будзем заўсёды падтрымліваць кніжніцы, гэта наша будучыня! Сёння кажуць пра інтэрнэт, іншыя крыніцы інфармацыі — яны маюць права быць. Але калі дзіця трымае кніжку ў руках, яно атрымлівае веды! Вось чаму трэба, каб і бібліятэк, і кніг было больш. Тут фарміруюцца дзіцячыя погляды, а які будзе закладзены фундамент, такім атрымаецца і ўсё жыццё.



*Людміла БАРАНОЎСКАЯ,*
*намеснік кіраўніка адміністрацыі Заводскага раёна г. Мінска:*

— У дзяцінстве бібліятэка была акном у свет, які я яшчэ не ведала. Да 10 класа я перачытала практычна ўвесь фонд школьнай бібліятэкі. І раптам адкрыліся нязведаныя сусветы, людзі, з якімі раней не сутыкалася. Можна сказаць, я ўбачыла жыццё, якое існавала па-за маёй маленькай вёсачкай, па-за маім невялікім домам. Я разумела, што свет цікавы, і імкнулася даведацца пра яго як мага больш. Можа, з-за таго, што шмат чытала, і пайшла далей шукаць у свеце сваю дарогу, вывучала гуманітарныя дысцыпліны.



*Віталіна РУДЗІКАВА,*
*начальнік упраўлення культуры Мінгарвыканкама:*

— Бібліятэка для мяне — гэта астравок культуры, дзе можна ўзяць у рукі кнігу і адкрыць для сябе нешта важнае, значнае. А дзіцячыя бібліятэкі, куды прыходзяць самыя цікаўныя чытачы, фарміруюць іх светапогляд, адносіны да горада і краіны, выхоўваюць духоўнасць, лепшыя пачуцці, уласцівыя чалавеку. І, бясспрэчна, асабліва важная роля людзей, якія працуюць у кніжніцы. Ад іх клопату залежыць, ці стануць хлопчыкі і дзяўчынкі заўзятарамі чытання.



*Алена ПЕНКІНА,*
*загадчык дзіцячай бібліятэкі № 9:*

— Дзіцячая бібліятэка — храм, у які прыходзяць дзеці пачытаць цікавую кнігу, дакрануцца да духоўных каштоўнасцей грамадства, правесці цікава час. Яна адцягвае маленькага чалавека ад благіх учынкаў. Я веру, што будучыня — за чытаннем. Кнігу і камп'ютар можна спалучыць. Акрамя іншага, бібліятэка для мяне — дом, у які я прыходжу з задавальненнем ужо 25 гадоў. Мае ўчарашнія чытачы прывялі ў кніжніцу ўжо сваіх дзяцей, напэўна, хутка прыйдуць і ўнукі. Я памятаю сваю першую бібліятэку — Мінскага завода падшыпнікаў, зусім невялікае памяшканне. І нават памятаю кнігу, якая мяне ўразіла. Тады я толькі навучылася чытаць, а ў рукі трапіла казка Шарля Перо "Сіняя барада" — і цікавая, і страшная адначасова. Але чытанне захапіла! З той пары і не развітваюся з бібліятэкай.

# Калі ў хаце тарарам

**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

Сёлетні Тыдзень дзіцячай кнігі супрацоўнікі Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага праводзілі супольна з абласным Цэнтрам маладзёжнай творчасці (тэатральная студыя "Раёк" і эстрадная студыя "Тара-рам"). Так што ў кніжным горадзе дзяцінства (так называўся тыдзень на Брэстчыне) валадарылі майстры не толькі чытання, а і спеваў, танцаў, народнай творчасці.

Але ганаравалі менавіта аматараў чытання, чые імёны цяпер упісаныя ў "Кнігу рэкордаў чытачоў". Намінацыі самыя нечаканыя. Да прыкладу, "Самы маленькі чытач" (Ева Сугакова, 2010 года нараджэння), "Сям'я, якая чытае больш за ўсіх" (сям'я Сталяровых: мама, тата і чатыры дачкі).

Традыцыйна ва ўзнагароджанні лепшых чытачоў удзельнічае РВУ "Літаратура і Мастацтва". Усе лепшыя кнігі рэдакцыйна-выдавецкай установы для дзяцей і падлеткаў былі прадстаўленыя асобным стэндам на адмысловай выстаўцы айчынных і расійскіх выданняў. Праз гадзіну пасля мерапрыемства стэлажы апусцелі на траціну.

Загадчык аддзела літаратуры для дзяцей і юнацтваЛарыса Верамчук патлумачыла:

— Цягам тыдня мы адзначалі юбілей Карнея Чукоўскага, чыталі вершы і казкі ды глядзелі мультфільмы; пазнаёмілі дзетак з найцікавейшымі ўзорамі пісьменства і кніжнай культуры розных народаў, пачынаючы са старажытнасці; прачынілі вялікі свет музычнай культуры, пазнаёмілі з выбітнымі асобамі (Бетховен, Моцарт, Шуберт, Грыг) і выданнямі пра іх. Музыка гучала ў жывым выкананні выкладчыка школы мастацтваў № 4 г. Мінска Марата Нікіціна.

У апошні дзень канікулаў хлопчыкі і дзяўчынкі сталі ўдзельнікамі захапляльнай гульні паводле кніг серый "Зямля мая", "Скарбы роднай прыроды" (выдавецтва "Мастацкая літаратура"), а таксама "Чырвоная кніга ў казках і вершах", "Лясная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў" (РВУ "Літаратура і Мастацтва").




*Кніга сустракае гасцей.*

Першы крок

# Распавядаць пранізліва і востра

**Пра ўласны досвед знаёмства з бібліятэкамі распавядае старшыня Цэнтральнага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў культуры Наталля Аўдзеева.**

— Такое паняцце, як хатняя бібліятэка, для сям'і, у якой я нарадзілася і вырасла, было зразумелае і шаноўнае. Традыцыі яе збірання спрабую перадаць сваім дзецям і ўнукам — гэта вельмі сур'ёзна! Я пачала чытаць у час, калі тэлебачанне яшчэ не прыйшло масава ў кватэры беларусаў, у мой родны мікраграён пад назвай Чапаеўка на ўскраіне Магілёва. Кніга, добрая пласцінка былі для нас, падлеткаў, самай вялікай радасцю. Яны навучылі любіць правільныя рэчы: мастацкае слова, сапраўдную музыку. Бясспрэчна, любая кніга, якая нясе веды і вучыць добраму, робіць нас больш чыстымі і высакароднымі. У гэтым найбольшая яе каштоўнасць.

Хатняя бібліятэка, на маё шчасце, у нашай сям'і была агульнадаступнаю. І сёння ўжо ў маім хатнім зборы самае ганаровае месца адводзіцца тым аўтарам, якіх я палюбіла яшчэ ў дзяцінстве. Невыпадкова і першая адукацыя, і лічу, што самая галоўная ў жыцці, — філалагічная (скончыла філалагічны факультэт Магілёўскага педінстытута). Першая кніга, якую памятаю (бо чытала не толькі для сябе, але і па даручэнні маёй настаўніцы для сваіх аднакласнікаў), — гэта кніга "Никогда не забудем". Выданне ўразіла найперш шчырасцю апавядальнікаў. І цяперашняя дзятва абавязкова павінна яе прачытаць, каб зразумець, які жах вайна і што трэба рабіць, каб яе ніколі не было. Надзвычай добра, што нядаўна гэтая кніга была перавыдадзена ў "Мастацкай літаратуры".



Роля бібліятэкі, лічу, заключаецца не толькі ў асвеце, але і ў выхаванні найлепшых пачуццяў у чалавеку. Кніжніца дорыць магчымасць дакрануцца да лепшага, што ёсць у свеце. Трэба ведаць не толькі нашу айчынную літаратуру, але і сусветныя шэдэўры. Акрамя Аляксандра Пушкіна, Янкі Купалы, Уладзіміра Караткевіча і Фёдара Дастаеўскага, я вельмі высока цаню творчасць Шэкспіра, Экзюпе📍ры, Маркеса.

Вельмі люблю Аляксандра Купрына. Яго знакамітая аповесць "Гранатовый браслет" пранізліва і востра распавядае пра высокае каханне. Раней была ўпэўнена, што так, як Купрын, ніхто больш не сказаў і наўрад ці скажа пра гэтае чалавечае пачуццё. Але зусім нядаўна прачытала раман нашай беларускай пісьменніцы Наталлі Касцючэнкі "Верба над омутом". І адчула, як тонка і выразна перададзеныя асноўныя чалавечыя якасці, стан душы. Была вельмі ўражана гэтым творам. Цяпер працягваю знаёмства з творчасцю нашых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў — Анатоля Аўруціна, Валянціны Паліканінай ды іншых, каб і далей папаўняць вартымі творамі сваю хатнюю бібліятэку.

# Двухтомнік, які прачытаюць у школе

**На філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта прэзентавалі двухтомную анталогію "Беларуская літаратурная спадчына".**

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

Яе ўкладальнікі — доктар гістарычных навук, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі Георгій Галенчанка, доктар філалагічных навук, супрацоўнік Інстытута беларускай мовы і літаратуры НАН Беларусі Валянціна Русак, кандыдат гістарычных навук Ігар Зайцаў, дырэктар фундаментальнай бібліятэкі БДУ Пётр Лапо, намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша і настаўніца СШ № 140 г. Мінска Святлана Курбанава.

Жанр анталогіі досыць складаны. Адбор лепшага, што пасля ўваходзіць у падрыхтаваныя тамы, адначасова і аб'ектыўны, і суб'ектыўны. Анталогія, як правіла, адлюстроўвае самае характэрнае, што адбываецца ў літаратурным працэсе за пэўны перыяд. Але справа дасведчанасці, падрыхтаванасці і сумлення ўкладальніка — як распарадзіцца сабраным матэрыялам.

Асаблівасцю выдання з'яўляецца тое, што яго рыхтаваў калектыў аўтараў-спецыялістаў з розных сфер навукі, культуры і адукацыі. Такі шырокі склад дазволіў забяспечыць комплексны падыход да адбору і аналізу мастацкіх твораў айчыннай літаратуры. Адзін з укладальнікаў Пётр Лапо распавёў "ЛіМу" пра тое, што ж легла ў аснову двухтомніка:

— У выбары тэкстаў для гэтай анталогіі мы кіраваліся вучэбнай праграмай для агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання па беларускай літаратуры для V — XI класаў, зацверджанай Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь. Такім чынам, дадзенае выданне — гэта найбольш поўны збор літаратурных твораў, якія вывучаюцца беларускімі школьнікамі. Ён дазваляе атрымаць цэласнае ўяўленне пра багацце беларускай літаратуры XI – пачатку XXI ст. У першай кнізе анталогіі тэксты падаюцца ў храналагічным парадку і аб'яднаныя ў наступныя раздзелы: "Вусная народная творчасць", "Літаратура Сярэднявечча", "Літаратура Адраджэння", "Літаратура Барока і Асветніцтва", "Літаратура XIX стагоддзя", "Літаратура XX стагоддзя. Пачынальнікі сучаснай беларускай літаратуры", "Залатая пяцёрка" (Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч, Кандрат Крапіва, Уладзімір Караткевіч). Другая кніга прысвечана літаратуры XX — пачатку XXI стагоддзя. Укладальнікі адышлі ад храналагічнага прынцыпу падачы тэкстаў і спыніліся на падзеле матэрыялу паводле родаў літаратуры: эпас, драма і лірыка. Такім чынам, у анталогію ўвайшлі раздзелы "Проза", "Драматургія", "Паэзія". Акрамя таго, у выданне ўключаны кароткі слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў.

# Стварыць экслібрыс

**Новы праект "Жывы аўтограф" Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя А. І. Герцэна знаёміць з цікавымі і творчымі людзьмі: літаратарамі, мастакамі, музыкантамі, навукоўцамі і грамадскімі дзеячамі.**

Марына СТУПІНСКАЯ

Год кнігі ў Музеі аўтографа распачаўся выстаўкай кніжнай графікі і экслібрыса. Яна сабраная з уласных збораў гомельскага калекцыянера, члена гарадскога клуба "Юнона" і Нацыянальнага саюза бібліяфілаў Аляксандра Шэліпава. Ён прадставіў шырокаму колу гледачоў работы знакамітага графіка, адзінага расійскага мастака, які быў абраны членам Каралеўскага таварыства мастакоў-графікаў і гравёраў Вялікабрытаніі, Анатоля Калашнікава.

— Анатоль Калашнікаў — геніяльны мастак, — распавядае калекцыянер. — Да яго ніхто не змог так проста, выразна і арыгінальна перадаць думку на паперы быццам бы простымі лініямі. Ён стварыў свой стыль, свой почырк. Калашнікава заўсёды лёгка пазнаць, нават не трэба падпісваць яго работы. Можа, якраз таму графіка Анатоля Калашнікава ёсць у Брытанскім музеі, Нацыянальнай бібліятэцы Вялікабрытаніі і шматлікіх мастацкіх музеях — яго ведаюць ва ўсім свеце. І мае землякі цяпер таксама будуць яго ведаць.

Аляксандр Шэліпаў заўсёды рады падзяліцца з суайчыннікамі тымі скарбамі, што здолеў сабраць за гады свайго захаплення. Амаль на кожнай паліцы ў яго доме можна ўбачыць рэдкія і цікавыя рэчы, а яшчэ болей — кніг, прысвечаных аб'ектам любімай справы. Калекцыя кніжных знакаў Аляксандра Аляксеевіча налічвае 20 тысяч экзэмпляраў, сярод якіх — амаль поўны збор графікі Анатоля Калашнікава.

На выстаўцы ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы прадстаўлены экслібрысы і ксілаграфіі Анатоля Калашнікава, а таксама асабістыя інструменты графіка — дошчачкі і штыхелі, з дапамогай якіх былі створаныя сапраўдныя шэдэўры графічнага мастацтва. Кніжнікам цікавай будзе серыя гравюр да рамана Л. Талстога "Война и мир", графічныя серыі "Слова пра Айчыну" і "Залатое кольца Расіі".

Прысвяціць сябе збіральніцтву кніжных знакаў можа чалавек апантаны, захоплены прыгажосцю. Аляксандр Шэліпаў прызнаецца:

— Яшчэ ў дзяцінстве, калі быў вучнем другога класа, на бацькоўскім агародзе я знайшоў срэбны рубель Аляксандра I. Гэта быў першы значны набытак у маёй калекцыі манет. Адначасова я збіраў маркі. Пазней пачаў выпісваць "Книжное обозрение", чытаў артыкулы, у якіх кніжнікі распавядалі пра ўласныя бібліятэкі. У кожным нумары была старонка ці невялікая нататка пра экслібрысы. Вось я і пачаў іх выразаць і клеіць у альбом на памяць, зацікавіўся, як і кім яны ствараліся. Хутка пазнаёміўся з аднадумцамі, калекцыянерамі. Пазней экслібрысы я атрымліваў ад Аляксандра Зуева, калекцыянера з Вінніцы. Доўгі час вёў з ім перапіску. І калі ён выступаў з дакладам "Музыка ў экслібрысе" ў 1986 годзе ў Маскве, то запрасіў у паездку і мяне. Там я далучыўся да Маскоўскага клуба экслібрыстаў. З гэтага і пачаліся мае паездкі ў расійскую сталіцу, знаёмства з мастакамі і, вядома ж, папаўненне калекцыі.

Разважаючы, якімі якасцямі характару павінен валодаць калекцыянер, А. Шэліпаў зазначае:

— Галоўнае — гэта цікаўнасць. Чалавек павінен не проста любаваць пэўнай выявай, а думаць, якой падзеі яна прысвечана, хто на ёй намаляваны; бачыць надпісы на замежных мовах і спрабаваць іх перакласці — усё гэта дае веды. Для мяне калекцыянерства — яшчэ і адпачынак. Заканчваю свае справы, прыходжу ў кабінет, раскладваю на стале калекцыі і разглядаю работы мастакоў. За гэтым заняткам можна правесці ўвесь дзень. Таму на пенсіі я ніводнага дня не працаваў — мне ёсць чым займацца, і я атрымліваю ад гэтага задавальненне.




*Ксілаграфія А. Калашнікава са збораў А. Шэліпава.*

Аляксандр Шэліпаў адзначаны ўзнагародай Акадэміі Расійскай славеснасці — медалём "Ревнитель просвещения". З павагай і добрымі словамі ў адрас Аляксандра Шэліпава адгукаюцца мастакі, чые работы складаюць калекцыю збіральніка. Анатоль Калашнікаў таксама пакінуў свой запіс у памятным альбоме беларускага калекцыянера: "Паважаны Аляксандр! Я вельмі рады, што дзякуючы такім збіральнікам, як вы, цудоўнае мастацтва экслібрыса на зямлі не знікне".

Штрых-код

## Што будзе

### Гродзеншчына

**12 красавіка** Іўеўская раённая дзіцячая бібліятэка запросіць вучняў на гадзіну мастацтва "Мастер перламутрового неба", прысвечаную 140-годдзю з дня нараджэння В. Бялыніцкага-Бірулі.

**18 красавіка** Карэліцкая ЦРБ праводзіць літаратурную гадзіну "Тумар, прынесены праз жыццё", прысвечаную 125-годдзю беларускага паэта, сатырыка А. Дзеркача, ураджэнца Карэліцкага раёна.

**19 красавіка** да 100-годдзя з дня нараджэння беларускага пісьменніка Леаніда Прокшы Мальская сельская бібліятэка Астравецкай ЦБС рыхтуе імпрэзу для школьнікаў "Пяром, як штыком".

### Гомельшчына

**12 красавіка** дзіцячы аддзел Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі імя У. І. Леніна прэзентуе літаратурна-музычную кампазіцыю "Якога колеру вясёлка?" паводле кнігі Яўгена Калашнікава.

**17 красавіка** ў літаратурна-мастацкім салоне "Сустрэчы на Замкавай" пры Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. І. Герцэна ў межах Велікоднага тыдня адбудзецца вечар духоўнай паэзіі гомельскіх аўтараў.

**19 красавіка** ў Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна пройдзе прэзентацыя аўтабіяграфічнай кнігі члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Юрыя Фатнева "Убегающий лось".

### Віцебшчына

**10 — 11 красавіка** Віцебская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна сумесна з Полацкай цэнтральнай гарадской бібліятэкай імя Ф. Скарыны праводзяць семінар "Статус і развіццё публічных цэнтраў прававой інфармацыі ў сучасных умовах інфарматызацыі грамадства".

**10 красавіка** ў Полацкай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Ф. Скарыны адбудзецца адкрыццё выстаўкі "А напоследок я скажу…" (да 75-годдзя Б. Ахмадулінай).

**20 красавіка** Лепельская цэнтральная раённая бібліятэка арганізуе семінар "Работа бібліятэк па фарміраванні здаровага ладу жыцця сярод моладзі і падлеткаў".

### Брэстчына

**20 красавіка** ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя В. П. Таўлая г. Баранавічы адкрыецца кніжная выстаўка "Сэрцам я гэту зямлю абдымаю" з нагоды 55-годдзя з дня нараджэння Раісы Раманчук, аўтара зборніка вершаў "Сцежка ў дзяцінства" (2003).

**20 красавіка** ў Пінскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Я. Янішчыц пройдзе раённае свята кнігі "Вітаем кніжку беларускую".

### Магілёўшчына

**11 красавіка** Магілёўская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна праводзіць вечарыну "Музычны свет Ё. Гайдна" (да 280-годдзя з дня нараджэння кампазітара).

**18 красавіка** ў Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна адбудзецца ўрок "Вядомы бібліятэказнаўца — наш зямляк" (да 120-годдзя І. Сіманоўскага, заслужанага дзеяча культуры Беларусі).

**19 — 30 красавіка** Магілёўская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна запрашае на выстаўку "Покліч дабрыні" (да 100-годдзя Л. Прокшы).

### Мінішчына

**7 красавіка** Салігорская цэнтральная раённая бібліятэка плануе правесці раённы злёт маладых паэтаў "Слова Купалы да творчасці кліча".

**12 красавіка** Нясвіжская цэнтральная раённая бібліятэка арганізуе сустрэчу з пісьменніцай Н. Батраковай "Тэрыторыя творчасці Натальі Батраковай".

**10 красавіка** Барысаўская гарадская бібліятэка №1 праводзіць сустрэчу з пісьменнікам Сяргеем Клімковічам.

**11 красавіка** Цэнтральная раённая бібліятэка г. Барысава праводзіць слайд-гутарку "Гартаючы жыцця свайго старонкі", прысвечаную 100-гадоваму юбілею М. Танка.

# З душою і натхненнем

**Міжнародная выстаўка-кірмаш народных промыслаў “Млын”, сярод удзельнікаў якой былі як сталыя, дасведчаныя майстры, так і пачаткоўцы, прайшла ў сталічным Палацы мастацтва. Арганізатарамі выступілі Беларускі саюз майстроў народнай творчасці і кампанія “Экспаліст”.**

**Дар’я ШОЦІК,**
**фота Кастуся Дробава**

На выстаўцы былі прадстаўленыя традыцыйныя і сучасныя рамёствы: ткацтва, кераміка, вышыўка, макрамэ, бацік, разьба па дрэве, вырабы з бяросты, мастацкае кавальства, фларыстыка, аўтарская лялька і інш.

— Кірмаш цікавы тым, што для майстроў гэта размова з пакупніком, пляцоўка, дзе можна рэалізаваць свае вырабы, — распавяла куратар выстаўкі Таццяна Антончык. — Пакупнікі, безумоўна, заўважаюць індывідуальнасць у вырабах, а аўтары могуць праводзіць майстар-класы. Яшчэ адна адметнасць у тым, што, акрамя традыцыйных рамёстваў, былі прадстаўленыя і сучасныя: скрапбукінг, лэмпворк… Работы некаторых майстроў добра ведаюць і за мяжой, госці нашай краіны часта цікавяцца вырабамі з лазы і бурштыну. Гэта не дзіўна, бо вытанчанасць і прыгажосць уласцівая амаль усім творчым работам. А адзін з навамодных відаў сучаснага рамяства — дэкупаж — карыстаецца асаблівым попытам. Такі цудоўны сувенір добра глядзіцца ў доме ці на дачы.

Майстар Ліка Селядкова прапанавала ручную вышыўку, карункі.

— Вышыўка — гэта сапраўдны цуд, яна супакойвае, — зазначыла Ліка. — Каб атрымалася каларытная работа на звычайным белым палатне, патрэбныя вялікае жаданне і натхненне.



*Юрый Малах і яго маракас.*

Вырабы з лазы майстра Юрыя Малаха прыцягнулі сваёй непаўторнасцю. Адзін з іх — музычны інструмент маракас — прымусіў спыніцца на некалькі хвілін і прыслухацца да рытму.

— Займацца пляценнем з лазы пачаў нядаўна. І адразу ж з’явілася цікавасць і жаданне рабіць прыгожыя рэчы. Вырабы ў мяне самыя розныя: кошыкі, вазачкі, кветкі... Галоўнае, каб кожная работа была вытанчаная і мела сваю адметнасць, — распавёў майстар.

Дарэчы, работы Юрыя Малаха былі адзначаныя на “Славянскім базары ў Віцебску”, іх можна ўбачыць у Музеі старадаўніх народных рамёстваў і тэхналогій “Дудуткі”.

## Куток таемнасці

**Уражлівая душа адкрывае прыгажосць і перадае яе ў творчасці, напрыклад, у вышыўцы, якая мае глыбокія карані. У “Слове пра паход Ігаравы” аўтар згадвае, што масцілі масты “ўсякімі ўзорамі палавецкімі”. Мабыць, яны, пераплеценыя каляровымі ніткамі, былі настолькі выразныя, што запалі ў душу апавядальніка.**



*Святлана Прохарава і яе вышыванкі.*

# Праз вушка іголкі

**Ніна ДРЫК,**
**фота аўтара**

У час метадычнага фестывалю “Залатыя россыпы”, які штогод ладзіцца ў Брэсце, я трапіла на выстаўку карцін Святланы Прохаравай, настаўніцы беларускай мовы і літаратуры. Нездарма кажуць: каб больш даведацца пра чалавека, трэба зазірнуць у свет яго захапленняў. Святлана Іванаўна вышыла сваю “Малітву да Усявышняга” з біблейскіх карцін. Яе творы сцвярджаюць: вера — гэта сэнс чалавечага існавання на зямлі, а духоўнасць — найважнейшая яе уласцівасць.

Пасля напружанай настаўніцкай працы Святлана Іванаўна знаходзіць супакой душы ў вышыўцы. У яе руках ажываюць крыжык, паўкрыжык, габеленавае шво. Акуратна кладуцца ніткі на палатно, нараджаецца мастацкі твор. Карціны брэсцкай настаўніцы аздабляюць яе кватэру, надаючы жытлу своеасаблівы каларыт. Майстрыха заначае: “Вышыўка вымагае шмат часу, але калі яна завалодае табою, то ўжо міжволі рукі цягнуцца да іголкі. Раскладваеш палітру нітак, даеш прастор фантазіі — і малюеш уласны свет, чароўны і непаўторны”.

# Ручнікі: мясцовы ўзор

**Мікалай НАВУМЧЫК**

Сказаць, што Валянціна Струнец любіць вышываць, усё адно што нічога не сказаць. Яна сумуе, калі за дзень не выпадае ўзяць у рукі іголку з ніткай. За 10 гадоў, што Валянціна Мікалаеўна працуе ў Маларыцкім раённым Цэнтры народнай творчасці, яе намаганнямі створана больш як 50 ручнікоў з мясцовымі ўзорамі. Усе ўзоры на ручнікі яна пераносіць з даўніх жаночых сарочак, фартухоў, хусцінак, спадніц.У раённым клубе майстроў народнай творчасці “Скарб талентаў”, які створаны і працуе на базе МРЦНТ, без Валянціны Струнец не абыходзіцца ніводнае мерапрыемства, пасяджэнне ці выстаўка.

Сустрэчам з майстрам заўсёды рады прыхільнікі яе творчасці. Захапляліся работамі В. Струнец мінчане і госці сталіцы на “Траецкім кірмашы”, рэспубліканскім фестывалі рэгіянальнага фальклору “Палескі карагод” у Пінску, Тыдні міжнародных зносін у г. Эрфурт (Германія), Днях культуры Беларусі ў Славакіі. Заваражвалі наведвальнікаў сваёй дасканаласцю і вытанчанасцю ручнікі і сурвэткі Валянціны Мікалаеўны на абласных фестывалях-кірмашах “Дажынкі” ў Жабінцы, Маларыце і Бярозе, на рэспубліканскіх Дажынках у Кобрыне, на Свяце беларускага пісьменства ў г. Ганцавічы. “Свае вырабы я люблю дарыць знаёмым і тым, хто таксама захапляецца творчасцю: сябрам, суседзям, — прызнаецца Валянціна Мікалаеўна. — Прыемна бачыць, як у чалавека загараюцца вочы, узнімаецца настрой...”

## Бывайце, Настаўнік слова!

1 красавіка на Паўночных могілках сталіцы прайшло развітанне са слынным вучоным, сапраўдным знаўцам роднага слова, рупліўцам на ніве беларускасці Міхаілам Яўгенавічам Цікоцкім.

Сын вядомага беларускага кампазітара Яўгена Карлавіча Цікоцкага, у 1943 г. у складзе супрацьтанкавага батальёна ваяваў на 1-м, 2-м і 3-м Беларускіх франтах, быў паранены. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны І ступені, двума медалямі “За адвагу”.

Пасля дэмабілізацыі Міхаіл Яўгенавіч закончыў аддзяленне журналістыкі БДУ, аспірантуру, працаваў у рэдакцыях газет “Савецкі селянін” і “Калгасная праўда”, у часопісе “Вожык”. З 1953 г. шчыраваў на журфаку — выкладчык, дацэнт, загадчык кафедры тэорыі і практыкі савецкага друку. Ён становіцца сапраўдным першаадкрывальнікам — беларуская стылістыка і імя Міхаіла Цікоцкага звязаныя непарыўна. У 1969-м ён засноўвае кафедру стылістыкі і літаратурнага рэдагавання, якой кіруе дваццаць гадоў.

Доктар філалагічных навук, прафесар, заслужаны работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь… Для ўсіх без выключэння пакаленняў сённяшніх журналістаў Міхаіл Яўгенавіч быў перш за ўсё Настаўнікам. Менавіта прафесар Цікоцкі на сваіх лекцыях вучыў адчуваць адказнасць за кожнае напісанае або вымаўленае публічна слова. На яго занятках будучыя журналісты спасцігалі няпростую навуку культуры і інтэлігентнасці пісьма і маўлення. М. Цікоцкі сам — прыклад высакароднасці, вытрымкі, добразычлівасці. Такім ён і застанецца ў памяці сваіх удзячных вучняў.

**Калектыў рэдакцыі “ЛіМа”**

## Рыцар Тэатра

Вось ужо і сорак дзён мінула, як пайшоў ад нас Вячаслаў Грыбайла — тэатральны крытык, член Беларускай тэатральнай акадэміі.

Ён быў завадатар. Небыякавы... Асабліва калі справа датычыла тэатра. І ў дыскусіі ён, у адрозненне ад большасці нашых тэатральных крытыкаў, ніколі не хаваўся за спінамі іншых, заўсёды горача і наўпрост выказваў сваё меркаванне.

А яшчэ Вячаслаў Грыбайла быў вялікі працаўнік. Ён у 1990-х ладзіў амаль усю дзейнасць Беларускага саюза літаратурна-мастацкіх крытыкаў (таму саюз і падняўся, ажыццяўляўшы шэраг салідных канферэнцый, у тым ліку па тэатральным мастацтве), уваходзіў у безліч камісій, у прыватнасці па процістаянні гвалту, жорсткасці, парнаграфіі (спачатку пры Савеце Міністраў, потым пры Міністэрстве культуры Беларусі), па ўсемагчымых прэміях, па грамадскіх справах... І там ніколі не выконваў свае абавязкі фармальна, паўсюль працаваў, выступаў... І ніколі не адмаўляў у просьбе, хто б да яго ні звяртаўся. Менавіта таму ён так і не давёў сваю дысертацыю да абароны... А між тым В. Грыбайла валодаў выдатнай адукацыяй: пасля заканчэння ўніверсітэта ў Магілёве (тады педагагічны інстытут) ён скончыў і аддзяленне тэатразнаўства ў Кіеўскай тэатральнай акадэміі імя Карпенкі-Карага.

А яшчэ ён быў руплівец і абаронца тэатральнай крытыкі. Не любіў, калі яе параўноўвалі з журналістыкай, імкнуўся тонкасці тэатральнай справы давесці да кожнага... І менавіта сваёй гарачай любоўю да тэатра ён застанецца ў памяці людзей.

**Вадзім САЛЕЕЎ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар,**
**заслужаны дзеяч культуры Беларусі**

## Афарызм

*У кожнага з людзей свае даліны і ўзгоркі, свая хада па іх,*
*а неба, зорнае неба — адно…*

**Янка БРЫЛЬ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск, пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
наменснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку” г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў
Наклад — 2808
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 05.04.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1512
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686